Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 40 (4584) 8 кастрычніка 2010 г.





# «Я ад дрэва твайго лісток...»

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ “Аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь”. Сярод узнагароджаных медалём Францыска Скарыны — галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі замежнага вяшчання (радыёстанцыя “Беларусь”) Беларускага радыё Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі, паэт Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**



Навум Якаўлевіч і сёння часта ўспамінае тую “чорную талерку”, што калісьці вісела ў іх хаце і ніколі не змаўкала. Бацькі цэлымі днямі былі на працы, ён заставаўся дома з бабуляй Вольгай, якая па голасе пазнавала кожнага дыктара беларускага радыё. Бабуліна любоў да “чорнай талеркі” перадалася і яму, і калі ён навучыўся чытаць, то часта браў у рукі кнігу і, уяўляючы сябе дыктарам, уголас прамаўляў: “У Мінску 16.00. А цяпер паслухайце казку”. І далей — уголас — пачынаў чытаць казку…

Таму, не ведаю, як чый, а яго, вядомага паэта і журналіста Навума Гальпяровіча, шлях на радыё быў зусім не выпадковы.

Але дзіцячыя фантазіі і мары — гэта, як вядома, адно, а прафесіяналізм — крыху іншае. Зрэшты, ён мог працаваць на радыё, весці перадачы, займаць высокую пасаду, аднак пры гэтым яго імя магло не стаць шырока вядомым і папулярным (падобных прыкладаў процьма), калі б...

Калі б, па-першае, не яго непаўторны голас. Вядома, голас можна паставіць, навучыцца выразна гаварыць перад мікрафонам (дый трэба, раз ты ў студыі не госць, а гаспадар), але галоўнае — тэмбр — гэта ўжо ад Бога. Ну а голас “з трэшчынкай” мае асаблівыя магічныя ўласцівасці, ператвараючы тых жа “безгалосых” спевакоў у куміраў цэлых пакаленняў.

Па-другое, перадачы Навума Гальпяровіча заўсёды прыемна слухаць, дзякуючы эрудыцыі іх аўтара, яго цікавым назіранням і развагам — пра літаратуру, пра людзей, пра жыццё…

Радыёстанцыя “Беларусь”, якую ён узначальвае з 2004 года, стала для яго сапраўды другім родным домам: тут яго можна сустрэць і яшчэ да пачатку рабочага дня, і калі ўжо афіцыйна рабочы дзень даўно закончаны. Дарэчы, да прыходу Навума Гальпяровіча на гэтую пасаду радыёстанцыя вяшчала ўсяго чатыры гадзіны ў суткі (а як толькі стварылася, у 1952-м, і пасля, на працягу доўгага часу, увогуле дзве гадзіны), прычым, на англійскай і нямецкай — толькі паўтары гадзіны ў тыдзень. Дый яго галоўнымі адрасатамі былі беларускія дыяспары за мяжой. Сёння ж радыёстанцыя “Беларусь” — гэта 64 гадзіны вяшчання ў суткі на сямі мовах: беларускай, рускай, англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай і польскай. Больш чым у дваццаці краінах свету яе можна слухаць на кароткіх і сярэдніх хвалях, а ў пагранічных раёнах Беларусі — у папулярным FM-дыяпазоне. Апроч таго, круглыя суткі вядзецца інтэрнэт-вяшчанне ў рэжыме рэальнага часу.

Можна толькі падзівіцца і пазайздросціць энергіі гэтага чалавека, які, апроч усяго, прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краіны, і не забываецца пра сваё найпершае прызванне — паэзію. Зрэшты, ох, як часта далёка не самыя горшыя паэты ў кругаверці дзён і спраў — спраў важных, абцяжараных пасадамі і ганаровымі званнямі, толькі што і не забываюцца, але ўсё часцей глядзяць на яе — паэзію — здалёку. Калі здаецца: варта паклікаць сваю нябесную Музу, і яна будзе, як некалі, верна служыць табе. Ды толькі вось зноў справы, зноў спешка, таму — пасля, таму — куды яна дзенецца… Аднак прыходзіць час, і аказваецца, што тая, пра каго ты не забываўся, — ужо нібы міраж.

На шчасце, Навум Гальпяровіч адносіцца да тых паэтаў, якіх ні пасады, ні званні не збіваюць з іх галоўнага шляху, і, што самае важнае, — ва ўласнай творчасці яны застаюцца такім ж, якімі былі раней. Вядома, у яго цяперашніх вершах больш роздуму, больш глыбіні — таго, што прыходзіць з жыццёвым вопытам. Але ў іх усё тая ж шчырасць, і гэтак жа б’ецца пульс сучаснасці.

А яшчэ — у іх усё гэтак жа шмат Полацка, які для паэта не проста месца яго нараджэння, а куды большае: духоўны абярэг нацыі.

Горад, пра які паэт у адным са сваіх самых вядомых вершаў напісаў-прызнаўся:

Я адсюль праз гады пранёс
Ціхі вечар і ранак сіні,
Палатоўскі пясчаны плёс
Каля цэркаўкі Еўфрасінні.

Мой пачатак
і мой выток,
Дзе і шчасце маё, і гора…
Я ад дрэва твайго лісток,
Залаты мой
спрадвечны горад.

Мы з табою
даўно на “ты”.
І пачуў ты, як напрадвесні
Беларускай душы матыў
Стаў працягам
адвечнай песні.

Таму, думаецца, і медаль імя славутага палачаніна Францыска Скарыны для яго мае асаблівае значэнне. Бо гэтае імя даўно жыве ў яго сэрцы і па радках паэтавых вершаў, як кроў па жылах, перацякае з мінуўшчыны з будучыню.

Неяк ён мне прызнаўся, што толькі што напісаныя вершы заўсёды прамаўляе ўголас. Нібы правярае іх на гучанне. Яны, і праўда, хораша гучаць са сцэны, у эфіры, які стаў для яго жывым не пераносным, а ў прамым сэнсе слова. І няхай сабе пацікху сыходзіць эпоха такіх адданых слухачоў, як яго бабуля Вольга. Але для кожнай эпохі патрэбны таленавітыя творцы, патрэбны галасы, якія застаюцца ў сэрцы і пасля таго, як мы пераключаем радыёканалы.

Алесь БАДАК

## Пункцірам

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка разгледзеў шэраг кадравых пытанняў. Кіраўнік дзяржавы даў згоду на назначэнне Міхаіла Баразны — рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Кацярыны Дулавай — рэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Юрыя Трэяна з 60-годдзем і народнага артыста СССР Армена Джыгарханяна з 75-годдзем.

• У Ашхабадзе, сталіцы Туркменістана, прайшла V міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, дэвізам якой у гэтым годзе былі словы: "Кніга — шлях супрацоўніцтва і прагрэсу". Туркменскі кнігавыдавецкі форум сабраў на гэты раз рэкордную колькасць удзельнікаў — больш дзевяці дзясяткаў арганізацый з дванаццаці пяці краін. Ганаровым госцем форуму была Украіна, прымалі ў ім удзел — ужо пяты год запар — і беларускія кнігавыдаўцы.

• Нацыянальная тэатральная прэмія заснавана ў Беларусі. Конкурс праводзіцца Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем "Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў", грамадскімі аб'яднаннямі "Беларускі саюз тэатральных дзеячаў" і "Беларускі саюз кампазітараў". Удзел у ім прымаюць прафесійныя тэатры краіны разнастайных напрамкаў і жанраў.

• 70-гадовы кампазітар Іва Залускі прыляціць у Вялікабрытаніі, каб удзельнічаць ва ўрачыстасцях з нагоды 245-годдзя свайго вядомага прашчура. Музычныя вечары адбыліся ў рамках вялікай адукацыйна-канцэртнай праграмы "Шлях паланэзаў Міхала Клеафаса Агінскага-2010". У літоўскіх гарадах Рэтавас, Кайшадорыс і Вільні, а таксама беларускіх Гродне, Мінску, Маладзечне і вёсцы Залессе праходзяць міжнародныя канферэнцыі і сустрэчы з захавальнікамі спадчыны Агінскага.

• Спіс Усясветнай спадчыны ЮНЕСКА ў 2011 годзе могуць папоўніць яшчэ некалькі беларускіх аб'ектаў. Мяркуецца ўключыць у яго Спаса-Праабражэнскую царкву і Сафійскі сабор у Полацку, аб'екты драўлянага дойлідства Беларускага Палесся, а таксама Аўгустоўскі канал. Таксама ўздымаецца пытанне пра ўключэнне ў Спіс культурных ландшафтаў басейна Дняпра, фартыфікацыйных забудоў Брэсцкай крэпасці і Барысаглебскай царквы ў Гродне.

• У Магілёве аб'яўлены пераможцы XIII Міжнароднага фестывалю "Анімаёўка-2010". У конкурсе фестывалю ўдзельнічалі 44 фільмы з 13 краін. Гран-пры атрымаў фільм екацярынбургскага рэжысёра Валянціна Ольшванга "3 вячора доўжык". У ліку найлепшых прызнана работа беларуса Міхаіла Тумелі "Папяровыя ўзоры" (найлепшае вобразатворчае рашэнне). У намінацыі "Майстру" найлепшай названа рэжысёр Ірына Кадзюкова ("Беларусьфільм").

• 10 кастрычніка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча пройдзе творчы марафон, які будзе доўжыцца 10 (!) гадзін. У праграме марафону майстар-класы па hand-made (выраб аўтарскіх упрыгожванняў, лялек, валянне поўсці, бісерапляценне, вышыўка, пластыка і арыгамі), выстаўка-кірмаш аўтарскіх работ, музычная імпрэза.

Падрыхтавалі
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА
і Марына ВЕСЯЛУХА

## Актуальна

# Пытанні — зацікаўленыя, адказы — узважаныя

Прэс-канферэнцыя Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі адбылася напрыканцы мінулага тыдня пасля прэс-тура (восьмага па ліку) прадстаўнікоў рэгіянальных расійскіх СМІ па нашай краіне. Яны наведалі шмат памятных мясцін Беларусі, пабывалі ў сталіцы і рэгіёнах, наведалі прадпрыемствы, музеі, архітэктурныя помнікі, сустракаліся з людзьмі — рабілі штодзённую сваю працу, пісалі гісторыю сучаснасці, пра тое, што ўбачылі ў краіне: як жыве беларускі народ, чым заклапочаны, як бачыць сваю будучыню і наколькі ўпэўнена ідзе да яе. Журналісты пабывалі ў камандным пункце Паўночна-Заходняга аператыўна-тактычнага камандавання ВПС, азнаёміліся з працай агракамбіната "Дзяржынскі", наведалі фабрыку "Камунарка", пабачылі Нясвіжскі замак, у сталіцы завіталі ў "Мінск-Арэну".



Аляксандр Лукашэнка адказаў больш як на 30 пытанняў, якія датычыліся самых розных сфер: перспектываў адносінаў з Расіяй, транзіту энерганосьбітаў, стану дэмакратыі, магчымасцяў мытнага саюза; гаварылі пра маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары, пра тое, як цяпер пойдзе будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, і пра тое, як кіраўнік нашай дзяржавы ацэньвае ўзровень і характар адносінаў з Кітаем, пра адстаўку Юрыя Лужкова і беларускую апазіцыю; пра службу ў беларускай арміі, пра заканадаўства ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, пра дапамогу беларускіх пажарнікаў у тушэнні сёлетніх пажараў у Расіі, дапамогу дзецям і пажылым, пра спорт і бізнес, пра тое, як жыве і адпачывае беларускі Прэзідэнт.

Вялікая колькасць пытанняў датычылася расійска-беларускіх адносін. "Умоўна падзелім узаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй на два-тры ўзроўні, якія датычацца сувязяў паміж людзьмі, прадпрыемствамі, рэгіёнамі і вышэйшым кіраўніцтвам краін", — сказаў кіраўнік нашай дзяржавы. Першы ўзровень — узаемаадносіны паміж людзьмі і паміж прадпрыемствамі. Там, дзе яшчэ палітыка не ўмяшалася ў гэтыя адносіны, усё ідзе больш-менш нядрэнна. Асабліва на ўзроўні людзей. Калі браць прадпрыемствы, куды не паспелі ўмяшацца "зацікаўленыя людзі і палітыкі, то тут таксама больш-менш нармальныя адносіны". Пра гэта можа сведчыць і тавараабарот, які за апошнія шэсць месяцаў павялічыўся амаль на 30 працэнтаў. Трэці ўзровень — ва ўзаемаадносінах рэгіёнаў і рэгіянальных лідараў. Тут не ўсё дрэнна, але не ўсё так добра, як было раней, лічыць беларускі лідар. На яго думку, раней расійскія губернатары мелі большую ступень свабоды ў сувязі з тым, што яны выбіраліся народам.

Што да міждзяржаўных адносін на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, то яны, па словах Аляксандра Лукашэнкі, мякка кажучы, жадаюць быць лепшымі. "Напэўна, мне няма неабходнасці характарызаваць гэтыя адносіны, вы бачыце, што адбываецца апошнім часам", — звярнуўся да журналістаў кіраўнік нашай дзяржавы. — І нягледзячы на гэта, я перакананы: думаю, што гэтая тактыка, што гэтая стратэгія расійскага кіраўніцтва сыдзе на нішто. Таму што страціць Беларусь для Расіі — гэта катастрофа. Катастрофа не толькі геапалітычнага маштабу, але і перш за ўсё маральнага".

Кіраўнік дзяржавы растлумачыў шмат розных пытанняў, у кожным дакладна пазначаючы сваю пазіцыю. Да прыкладу, што датычыцца правоў, то, паводле кіраўніка дзяржавы, "першае права — на жыццё. Другое — на працу. Трэцяе — мець дастойную зарплату, калі працуеш". Да таго ж, любы чалавек мае права на выбарах, рэферэндумах выказваць сваё меркаванне. Што да асноўнага права на жыццё, то добра, калі "яно прысутнічае, калі дзяржава не проста гарантуе, а свята робіць усё, каб гэтае права існавала"…

Адметна, што шмат хто з журналістаў згадваў беларускія суполкі, якія ёсць на расійскай зямлі, альбо нават свае беларускія карані. Адразу ў першым пытанні ўдзельнікі гутаркі пачулі прывітанне ад беларускага зямляцтва ў Архангельскім рэгіёне. У другім — ад грамадскіх таварыстваў у Санкт-Пецярбургу. Прагучала нават і пытанне аб тым, як спрыяе наша краіна ў развіцці культуры беларускіх прадстаўніцтваў у іншых краінах, на што Прэзідэнт адказаў: дапамагаем ва ўсім, з чым звяртаюцца, у прыватнасці, у набыцці падручнікаў, транспарту, адкрыцці школ.

Рыта СТАХ

Фота БелТА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Пра традыцыі і моладзь

Адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вёў пасяджэнне старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Кіраўнік творчага аб'яднання праінфармаваў прысутных пра паездку ў Казахстан на святкаванне юбілеяў пісьменніцкай арганізацыі і літаратурна-мастацкіх выданняў Казахстана. Былі ўручаны ўзнагароды за перамогу ў конкурсе "Лепшая кніга 2009 года". Дыпломамі адзначаны кнігі Таццяны Лейкі і Анатоля Казлова.



Сярод іншых надзённых клопатаў разглядалася пытанне аб рабоце з моладдзю. З дакладам выступіў старшыня савета па рабоце з моладдзю галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак. З паведамленнямі – галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, сакратар СПБ старшыня Мінскай гарадской арганізацыі СПБ Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскай абласной арганізацыі СПБ Рыгор Сакалоўскі. Вострыя меркаванні, ацэнкі выклікалі шэраг публікацый часопіса "Маладосць". Сваімі развагамі пра тое, якія арганізацыйныя і творчыя крокі патрэбны дзеля пашырэння маладзёжнага асяроддзя ку і на старонках выданняў, і ў шэрагах СПБ, падзяліліся старшыня СПБ М. Чаргінец, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" У. Ліпскі, празаік і літаратуразнаўца У. Навумовіч, пісьменнікі В. Лукша, Г. Марчук, А. Сакалоў, А. Марціновіч і іншыя. Прынята рашэнне аб стварэнні секцыі СПБ па рабоце з моладдзю. Старшынёю абраны А. Бадак. Кіраўніцтва СПБ, члены прэзідыума выказалі цэлы шэраг прапаноў, заўваг, якія павінны паспрыяць паляпшэнню работы з літаратурнай моладдзю, асабліва — у межах дзейнасці РВУ "Літаратура і Мастацтва", часопіса "Маладосць" і іншых літаратурна-мастацкіх выданняў. Ішла на прэзідыуме размова пра новы літаратурна-мастацкі часопіс "Белая Вежа", заснавальнікам якога выступіў Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. М. Чаргінец адзначыў актыўную работу па стварэнні часопіса, якую правялі В. Шырко (ён прызначаны галоўным рэдактарам новага выдання) і Н. Чайка. Адбыліся і давыбары ў кіраўніцтва творчай арганізацыі — членамі прэзідыума СПБ сталі А. Бадак і В. Шырко.

Зацверджана палажэнне аб савеце Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду СПБ, а таксама абраны яго склад, куды ўвайшлі: С. Антановіч, В. Барысевіч, А. Зэкаў, У. Навумовіч, А. Савіцкі, В. Спрынчан, Н. Чайка. Старшынёй савета аднагалосна абраны Славамір Антановіч.

Таксама разглядалася пытанне аб вылучэнні кандыдатур пісьменнікаў на атрыманне Прэміі Федэрацыі прафсаюзаў: аднагалосна вылучаны Васіль Ткачоў за кнігу "Снукер".

Сяргей МАКСІМАЎ

На здымку: Мікалай Чаргінец уручае дыплом Таццяне Лейкі.

Фота Кастуся Дробава

## З нагоды

# Увага выяўленчаму мастацтву

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка наведаў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, дзе азнаёміўся з рэспубліканскай выстаўкай "Зямля пад белымі крыламі", пагутарыў з майстрамі выяўленчай творчасці, а таксама з маладымі аўтарамі.

Аказалася, што моладзь марыць пра цэнтр сучасных мастацтваў, кшталту створаных у Вільнюсе, Кіеве, Маскве, дзе маглі б выстаўляць свае работы выпускнікі творчых ВНУ і дзяліцца знаходкамі, абмяркоўваць эксперыменты. Як заўважыў міністр культуры Беларусі Павел Латушка, магчымасць стварэння ў Мінску такога цэнтра ўжо абмяркоўвалася з прэм'ер-міністрам, гарадскімі ўладамі і ААТ "Прыорбанк", гатовым фінансава падтрымаць праект. У парку імя Чалюскінцаў ёсць нават прыдатны будынак, які цяпер пустуе. Кіраўнік дзяржавы даручыў прапрацаваць гэтую магчымасць.

Аляксандру Лукашэнку праінфармавалі таксама пра перспектыўны план развіцця музея. Увядзенне ў 2006 годзе ў эксплуатацыю новага корпуса НММ толькі часткова вырашыла вострую праблему з недахопам музейных плошчаў. Магчымая перадача ўстанове прылеглых будынкаў і стварэнне з часам цэлага музейнага квартала дазволіць зрабіць найбольш поўную экспазіцыю (сёння выстаўлена толькі 5 працэнтаў збору НММ).

У сувязі з меркаваннем кіраўніцтва музея стварыць у гэтым комплексе невялікія сувенірныя крамы і кафэ Прэзідэнт даручыў гарадскім уладам знайсці побач з музеем памяшканне, дзе можна было б адкрыць сувенірны магазін за больш кароткі тэрмін, не чакаючы рэалізацыі ўсяго праекта.

Лана ІВАНОВА

## Літ-абсягі




# Што паказвае люстэрка?

**Бібліятэка кніг, прысвечаная беларускаму балету, папоўнілася зборнікам артыкулаў Юліі Чурко "Хореография в зеркале критики", выдадзеным Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, дзе аўтар плённа працуе доўгія гады.**

Кожны феномен культурнага развіцця краіны патрабуе свайго ўдумлівага крытыка, які здолее давесці прыхільнікам мастацтва пра значнасць падзей, патлумачыць іх месца ў нацыянальнай і сусветнай прасторы. У беларускага балета 1970-1990-х былі свае летапісцы: Эмілія Шумілава, Таццяна Цюрына, Таццяна Мушынская. Лідарам гэтай слаўнай плеяды, ці не самым вядомым і аўтарытэтным спецыялістам з'яўляецца Юлія Чурко.

Да 1960-х паўнавартаснай крытыкі ў Беларусі не было. Зрэшты, не было і вартага аб'екта даследавання – арыгінальнага нацыянальнага балета, які ў той час развіваўся ў агульнасавецкім рэчышчы. "Написав до того несколько работ по хореографии, я начала скучать, – згадвала аўтар, – наблюдая узость круга тем и идей, однообразие средств и приемов. (…) Я занялась другими делами, сменила профессию, (…). С балетом примирили лишь спектакли нового руководителя труппы в белорусском оперном Валентина Елизарьева, взорвавшие стылую атмосферу и давшие пищу для размышлений". Пачатак новай эпохі ў беларускім балеце падштурхнуў Чурко да актыўнай дзейнасці. Выйшлі яе кнігі "Белорусский балетный театр", "Белорусский балет в лицах" і "Линия, идущая в бесконечность", манаграфія пра харэаграфічны фальклор, шмат рэцэнзій і артыкулаў (у тым ліку для ўсесаюзнай энцыклапедыі "Балет" і Амерыканскай энцыклапедыі танца).

Як здолела Ю. Чурко так глыбока пранікнуць у сутнасць балетных з'яў? Магчыма, уся справа ў разнастайнасці творчага "Я", у рознабаковасці роляў, у якіх Юліі Міхайлаўне давялося выступаць у жыцці. Як глыбокі навукоўца, прафесар і доктар мастацтвазнаўства, яна здолела прааналізаваць развіццё беларускага балета на працягу ўсяго XX стагоддзя. Як колішняя балерына і салістка харэаграфічнай трупы – станцаваць усе партыі ў сваім уяўленні, прапусціць перажыванні герояў праз сябе. Як жанчына – адчуць усю глыбіню елізар'еўскіх балетаў і перадаць рух, жэст і позірк словам.

Зборнік артыкулаў "Хореография в зеркале критики" складаецца з пяці раздзелаў, якія перадаюць усю разнастайнасць гэтага жанру. Назвы, бадай, кажуць самі за сябе: "Белорусский танцевальный фольклор", "Народно-сценическая хореография", "Балетный театр", "Человек, который осмелился", "Хореография, модерн, пантомима, другое". Дадатковага тлумачэння патрабуе толькі чацвёрты па ліку раздзел, які прысвечаны асобе славутага пецярбургскага харэографа Барыса Эйфмана. Нарэшце, шостая па ліку частка кнігі складаецца з водгукаў на працы Чурко, напісаныя крытыкамі і яе вучнямі.

На вокладцы кнігі чытач убачыць народную артыстку Беларусі Інесу Душкевіч. Фатограф выхапіў яе ў палёце. У абліччы Кармэн яна лунае над сцэнай, шукаючы каханне і шчасце. У гэтым бачыцца свая сімволіка: як і гераіня балерыны, Юлія Чурко працягвае свой творчы палёт.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## Арт-лінія

# «Тэатральны куфар» — толькі эксперымент

**Калі традыцыйны тэатр пачынаецца з вешалкі, то студэнцкі – з веласіпеда. Са звычайнага двухколавага веласіпеда, на якім можна проста прыкаціць на спектакль так, як зрабілі ўдзельнікі сёмага "Тэатральнага куфра" ў дзень адкрыцця фестывалю. Прадстаўнікі 16 краін – Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Латвіі, Літвы, Сербіі, Ірана, Польшчы, Босніі і Герцагавіны, Эстоніі, Грэцыі, Італіі, Швейцарыі, Украіны, Партугаліі – здзейснілі паўтарагадзіннае велападарожжа ад "Мінск-Арэны" да Палаца прафсаюзаў, падчас якога не толькі агледзалі самыя значныя куткі сталіцы, але і самым дзёрзкім чынам рабілі рэкламу і сабе, і фестывалю.**



Цырымонія адкрыцця была кароткай і сціплай — ніякай пампезнасці. А вось першы спектакль фестывалю "Рамэа і Джульета" расійскай студыі "Млечный путь", наадварот, аказаўся надта пафасным і "шматдэтальным". Вядома, эксперыменты, метафары на сцэне — гэта выдатна, але не ў такой колькасці! Увесь тыдзень спектакль змяняўся спектаклем. Тыя з гледачоў, хто меў на мэце пабываць на кожным з іх, часам адчувалі сябе вельмі стомленымі пасля трох пастановак на дзень.

Акрамя шматлікіх пастановак, ва ўдзельнікаў і гледачоў фестывалю быў шанц наведаць майстар-класы і павучыцца тэатральнаму мастацтву ў спанатраных профі. Калі казаць пра самы яркі і моцны спектакль, то ім, на думку членаў журы і гледачоў, стаў "Чырвоны пакой" брытанскага тэатра "The Remington Project". Менавіта брытанцы былі адзначаны за лепшую рэжысуру і атрымалі прыз глядацкіх сімпатый, які дае права ўдзельнічаць у наступным "Тэатральным куфры" без унясення рэгістрацыйнай платы.

Што датычыць астатніх узнагарод, то прыз за мужчынскую ролю другога плана атрымаў Карл Лаўчэс з эстонскага спектакля "Восем японскіх кіягенаў", а прыз за лепшую жаночую ролю другога плана — Дар'я Мядзель з беларускай пастаноўкі чэхаўскай "Чайкі". Лепшым акцёрам, на думку журы, стаў Матэуш Мікалайчык з Польшчы, лепшай актрысай — Мірыяна Дардзевіч з Сербіі. Прыз за выдатную сцэнаграфію атрымаў беларускі спектакль "Эмігранты". Ну і апошнюю ўзнагароду ад інфармацыйнага партала "TUT. BY" "За шчырасць" урачылі (заслужана) Швейцарыі за пастаноўку "Сыграй мне песню пра смерць".

Вытанчаным "дэсертам", бадай, усяго сёмага "Тэатральнага куфра" стаў праект "Koufar-in-Motion" пад кіраўніцтвам брытанскага тэатральнага рэжысёра, пісьменніка і акцёра Эдварда Льюіса . Той шыкоўны вэрхал, што адбываўся на сцэне ў дзень закрыцця фестывалю, быў пастаўлены паводле рамана Эміля Заля "Нана" літаральна за тыдзень. Гэта не ёсць паўнавартасны спектакль. Гэта хутчэй прыклад таго, як можна даволі лагічна ўпісаць 400 старонак рамана ў 30-хвіліннае дзеянне.

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: госці з замежжа падчас адкрыцця фестывалю "Тэатральны куфар".

## Повязі

**Кастрычніцкія начныя прымаразкі ды няўтульныя, халаднаватыя дзянькі толькі падкрэсліваюць гарачую атмасферу вечаровага творчага жыцця нашай сталіцы. У Мінску пачаўся "Тэатральны тыдзень з Белгазпрамбанкам", які з 5 па 10 кастрычніка знаёміць нашу публіку з лепшымі спектаклямі — лаўрэатамі ды намінантамі Расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі "Золотая Маска". І адначасова з гэтым праектам разгортваюцца яркія аншлагавыя імпрэзы ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дзе адкрыўся Пяты міжнародны фестываль Юрыя Башмета.**



# Імперыя музыкі

Праграму яго адкрыцця ўпрыгожыла выступленне ўладальнікаў прэміі "Грэмі" Камернага ансамбля "Салісты Масквы" пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле народнага артыста СССР Юрыя Башмета. Наступны вечар парадаваў публіку канцэртам "Зоркі пакаленняў" з удзелам бліскучых салістаў: гэта Юрый Башмет (альт, Расія), Гідон Крэмер (скрыпка, Латвія — Германія), Гіедрэ Дзірванаўскайтэ (віяланчэль, Літва)... Сёння выступіць уладальнік прэміі "Грэмі" Камерны ансамбль "Крэмерата Балтыка" пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле Гідона Крэмера... А заўтра ў Вялікай зале БДФ адбудзецца заключны канцэрт Другой Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД, арт-дырэктарам якой з'яўляецца прафесар Маскоўскай кансерваторыі Юрый Башмет.

Акадэмія, заняткі якой праводзяцца на базе Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД і Міністэрства культуры Беларусі, — унікальная магчымасць для таленавітай моладзі наведаць майстар-класы найвышэйшага ўзроўню, індывідуальныя заняткі ў сусветна вядомых музыкантаў-педагогаў і нават выступіць поруч з імі ў заключным канцэрце на сцэне філармоніі. Дарэчы, першы канцэрт (і фантастычны майстар-клас, і ўрок сапраўднай, як адзінае дыханне, ансамблевай ігры!) далі самі педагогі, прафесары расійскіх і еўрапейскіх кансерваторый, падчас урачыстага адкрыцця акадэміі ў мінулую нядзелю. Выступалі флейтыст Масіма Мерчэлі, скрыпач Аляксандр Трасцянскі, альтыст Віталь Астахаў, віяланчэліст Хрыстафор Мірошнікаў, піяніст Сяргей Эдэльман, сам "Паганіні альта" — Юрый Башмет...

Маладзёжная музычная акадэмія краін СНД сабрала сёлета тры дзесяткі студэнтаў з краін Садружнасці (летась іх было 17); заняткі па спецыяльнасцях "акадэмічныя спевы", "скрыпка", "альт", "віяланчэль", "фартэпіяна" праводзілі 10 педагогаў (летась было 7). У арганізатараў няма сумневу, што праз год у Мінску адбудзецца ўжо трэцяя такая міжнародная сустрэча настаўнікаў і вучняў, што з часам колькасць прадстаўленых спецыяльнасцей будзе пашырацца і ўрэшце ўдасца сабраць поўны склад сімфанічнага аркестра. "Усё гэта патрэбна і для прафесійнага росту, і для творчых і чалавечых, сяброўскіх стасункаў таленавітых маладых людзей з розных краін, чые бацькі жылі калісьці ў адной дзяржаве і не ведалі міжнацыянальных бар'ераў. Мы не збіраемся ствараць нейкую "палітычна-музычную дзяржаву". А вось ствараць Імперыю Музыкі — хацелася б!" — так падсумаваў Ю. Башмет задачы свайго адукацыйна-творчага праекта. Вядома, да высакародных мэтаў зближэння народаў праз музыку, падтрымкі лепшых традыцый выканальніцкага мастацтва, пераемнасці творчых пакаленняў скіраваны і сам фестываль, які працягваецца ў Мінску да 13 кастрычніка.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: першы прарэктар па навуковай працы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Юрый Златкоўскі і народны артыст СССР Юрый Башмет падчас сустрэчы з журналістамі.

Фота аўтара

## З-пад пяра

Пісьменнікі Віцебшчыны — частыя госці ў 103-й гвардзейскай мабільнай брыгадзе. Перад вайскоўцамі неадночы выступалі Барыс Бележэнка, Генадзь Катляроў, Маіна Бабарыка. Нядаўна адбылася чарговая літаратурная сустрэча. У госці да дэсантнікаў завітала паэтэса, старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка. Адказваючы на пытанні маладых байцоў, яна расказала аб удзеле беларускай дэлегацыі, членам якой яна была, у XXIII Міжнародной маскоўскай кніжнай выстаўцы-кірмашы, а таксама пра ўрачыстасці Дня беларускага пісьменства ў Хойніках і дасягненнях літаратараў Віцебшчыны. Ухваляючы імкненне маладых людзей чытаць сур'ёзную літаратуру, паэтэса падарыла бібліятэцы воінскай часці кнігі ўжо вядомых літаратараў Прыдзвіння і пачаткоўцаў. Завяршыла сустрэчу "Песня аб Віцебску", якая створана на словы Т. Красновай-Гусачэнкі маладым кампазітарам А. Раўзо.

Леся КРАСАВІК

Супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча імкнуцца арганізаваць і ладзіць мерапрыемствы з ухілам на моладзевую аўдыторыю. Дарэчы, тут згадаць акцыю "Вяселле – non stop", першы музейны hand-made фестываль "Поруч…", праект "Вежа міру". Чарговай ідэяй з'яўляецца запрашэнне студэнтаў ВНУ краіны прыняць удзел у конкурсе акравершаў "Зорка Венера ўзышла над зямлёю…", прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння Ганны Какуевай. Ёй М. Багдановіч прысвяціў многа цудоўных твораў, сярод якіх былі і акравершы, а таксама, як мяркуюць, свой знакаміты раманс. На конкурс прымаюцца мастацкія творы, напісаныя студэнтамі ВНУ ў тэхніцы акраверша і дасланыя на адрас музея ў папяровым альбо электронным выглядзе ў перыяд з 01.10.2010 па 16.01.2011. Пераможцы будуць узнагароджаныя каштоўнымі падарункамі і запрошаныя для падвядзення вынікаў у музей 16.02.2011, у дзень святой Ганны.

Юлія МАЦУК

100-годдзю беларускага мастака Івана Карасёва прысвечана выстаўка ў сталічным Палацы мастацтва. Насычаныя яркімі колерамі, палотны вядомага майстра перадаюць як прыродны ландшафт, так і ўсю глыбіню аўтарскіх перажыванняў, яго ўнутраны настрой. Гледзячы на такія карціны, як "Бераг ракі", "Старыя бярозы", "Мелодыя восені", "Маладое жыта", "Вечар на рацэ", сягаеш не толькі ў сутнасць убачанага і насычаешся фарбамі розных пор года, але і па-новаму ўспрымаеш прыроду і навакольнае асяроддзе. А хто не паспее пазнаёміцца з выстаўкай — завітайце ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, дзе таксама ёсць работы Івана Карасёва.

Дар'я ШОЦІК

Закладка ад "Вясёлкі" — так называецца акцыя, якую сумесна праводзяць рэдакцыя часопіса "Вясёлка" і цэнтральная раённая бібліятэка сярод юных чытачоў Будакашалёўшчыны. Кожны з іх будзе атрымліваць на абанементе кнігу з загадзя ўкладзенай у яе прыгожай дарчай закладкай з лагатыпам "Вясёлкі". Хлопчыкі і дзяўчынкі знойдуць у выдадзеных ім на рукі кнігах і фірменны падпісны абанемент часопіса, а найбольш актыўных чытачы да ўсяго атрымаюць у падарунак і гадавы каляндар "Вясёлкі".

Сяргей КРЫВІЧОЎ

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Юрыя ГУСЕВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

Думкі ўслых

# Ці патрэбны нам Роўлінгі ды Акуніны?

Фае факультэта медыякамунікацый Прынстанскага універсітэта даўно ўпрыгожвае транспарант: "Хто чытае кнігі, той будзе кіраваць тымі, хто глядзіць тэлевізар". Сутнасць яго ў тым, што кнігі прывучаюць чалавека думаць самастойна, а тэлебачанне — не вагаючыся, давяраць усяму ўбачанаму і пачутаму. Інфармацыйная палітыка кожнай цывілізаванай дзяржавы скіравана на захаванне грамадскага ладу і парадку, але вызначаць яе мусяць людзі адукаваныя і дасведчаныя. Іх ніколі не было шмат, але, спадзяюся, будзе болей.

Як слушна заўважыў паўстагоддзя таму Варлам Шаламаў, руская класіка XIX стагоддзя аніяк не прадухіліла жахаў рэвалюцыі 1917-га. Мастацкая кніга можа ўплываць, бадай што, на свядомасць адзінага чытача. Але калі кніга таленавіта напісаная і мае захапляльны сюжэт, то ступень уздзеяння значна ўзрастае. І тыя, хто раней не задумваўся аб гуманістычных каштоўнасцях, з кніг пра Гары Потэра або раманаў Барыса Акуніна могуць засвоіць, што адвага, сяброўства і вернасць адолеюць любое ліха, а зло, якім бы яно не падавалася магутным, можа трыўмфаваць толькі часова.

Я знарок засяроджваю ўвагу на белетрыстыцы, паколькі й сам імкнуся працаваць у гісторыка-прыгодніцкім жанры. Я не аднойчы чуў, што, маўляў, у нас і праз дзвесце гадоў не народзяцца свае Роўлінгі ды Акуніны, і нашым людзям анічога не цікава, і на мізэрным беларускім рынку літаратурная і кнігавыдавецкая дзейнасць у прынцыпе не могуць быць прыбытковымі. Аднак насельніцтва той жа Швецыі роўнае насельніцтву Беларусі, а трылогія Стыга Ларсэна "Міленіум" прадаецца мільёнамі экзэмпляраў па ўсім свеце. Асабіста мне раманы пра Лізбет Саландэр — камп'ютарнага генія з агрэсіўнай псіхікай — не вельмі спадабаліся, падаліся нудотнымі. Прыемна, праўда, здзівіла згадка пра аднаго з другасных персанажаў рамана "Дзяўчына з татуіроўкай дракона" — беларускі Ірыны, якая стала ахвярай вычвараэнца-садыста Мартына. І сур'ёзную павагу выклікала пазіцыя шведскіх кінавытворцаў, якія не ставяцца грэбліва да айчынных пісьменнікаў, а экранізавалі твор з займальным сюжэтам, адаптавалі яго для кіно. Поспех фільмаў "Дзяўчына з татуіроўкай дракона" і "Дзяўчына, якая гуляла з агнём" (пры ўсіх драматургічных і рэжысёрскіх недахопах) спрадзіў хвалю інтарэсу ў самой Швецыі да за яе межамі як да творчасці Стыга Ларсэна, так і іншых шведскіх літаратараў. Мне здаецца, у нашых умовах такі шлях найбольш перспектыўны для развіцця беларускай літаратуры і кінематографа — яны павінны рухацца поруч, спрадажаючы ўзаемны інтарэс у гледачоў і чытачоў. Тым больш, што ў нашай літаратуры хапае твораў з захапляльнымі сюжэтамі, якія нармальныя рэдактары (не тыя, што акапаліся ў рэдакцыйным аддзеле кінастудыі) маглі б адаптаваць да нормаў экраннага часу. Напрыклад, дэтэктыўныя раманы Віктара Праўдзіна па мастацкіх вартасцях пераўзыходзяць узровень сучасных папулярных расійскіх "глушцоў" і "мянтоў", і маглі б паслужыць асновай для захапляльных серыялаў. Маштабны "Уліс з Прускі" Уладзіміра Гніламёдава мог бы выклікаць у хатніх гаспадынь не меншы інтарэс, чым мексіканскія або бразільскія серыялы. У Андрэя Федарэнкі колькі гадоў таму экранізавалі аповесць "Тры талеры". А ў яго ж яшчэ багата цікавых твораў!

Ягор КОНЕЎ

# Нялёгкі шлях асветніка

"Мы да гэтага часу, занятыя іншымі справамі, не звярталі ўвагі, што робіцца на рэлігійнай ніве... Відаць, давядзецца нам, бязбожнікам, умяшацца і ў гэтыя справы».

М. Танк

Менавіта такі запіс з'явіўся на старонках дзённіка маладога Максіма Танка пасля размовы з Сяргеем Паўловічам. Актыўны дзеяч у галіне педагогікі, рэлігійнай асветы, майстар слова, Сяргей Канстанцінавіч шмат зрабіў для пашырэння духоўнасці сярод беларусаў, безупынна клапаціўся пра спасціжэнне насельніцтвам ведаў, асноў хрысціянскай веры.

3 нагоды 135-годдзя з дня нараджэння асветнікабагаслова Сяргея Паўловіча ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы прайшоў "круглы стол". Даследчыкі, гісторыкі, журналісты, пісьменнікі і выкладчыкі ўспомнілі саму неардынарную асобу і творчы ўклад Сяргея Паўловіча як асветніка і перакладчыка, узгадалі яго нялросты жыццёвы шлях, памаліліся за супакой яго душы і паслухалі вершы сучаснай паэтэсы Эльвіры Ярчак.

Цікавымі, але, на жаль, малавядомымі звесткамі біяграфіі С. Паўловіча падзялілася кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік выдавецкага аддзела Брацтва ў гонар Віленскіх пакутнікаў Лідзія Кулажанка. Увогуле, звестак пра гэтага выдатнага, але незаслужана забытага дзеяча заходнебеларускага асветніцтва захавалася няшмат. Вельмі рэдка можна сустрэць яго імя на старонках друку, пабачыць сюжэт на тэлебачанні або прачытаць артыкул у энцыклапедыі.

Маўчанне вакол Сяргея Паўловіча здзіўляе, бо ён у той складаны час, калі ў Заходняй Беларусі актыўна праводзілася паланізацыя, заклікаў да асветы, рэлігійнай адукацыі на роднай мове, рыхтаваў і выдаваў падручнікі, выкарыстоўваючы апошнія дасягненні педагогікі і псіхалогіі. Узровень выдадзеннай ім літаратуры настолькі высокі, што ёй можна карыстацца і сёння.

Нарадзіўся Сяргей Паўловіч у верасні 1875 года ў вёсцы Асаўцы Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Драгічынскі раён на Брэстчыне). Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, пасля духоўную акадэмію ў Кіеве. У гэты ж час ён выбірае тэму сваёй кандыдацкай дысертацыі, якая была прысвечана гісторыі Царквы на Беларусі.

Пасля заканчэння Кіеўскай акадэміі Сяргей Паўловіч працуе выкладчыкам Закона Божага ў духоўным вучылішчы, пасля чытае Закон Божы ў настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове.

"Апынуўшыся ў эвакуацыі ў сувязі з Першай сусветнай вайной, якая выкінула 1, 5 млн жыхароў Беларусі, зведаў шмат цяжкасцей. У 1921 годзе, пасля заключэння Рыжскага дагавора, выкладчык змог вярнуцца на сваю родную, разбураную вайной зямлю. Педагагічная дзейнасць Паўловіча была цесна звязана з Таварыствам беларускай школы. Ён рэдагаваў часопісы "Летапіс Таварыства беларускае школы", "Беларускі каляндар". Але палітыка паланізацыі, вядома, не спрыяла дзейнасці Таварыства, і ў 1936 годзе яно было забаронена. На працягу 1920—1930 гадоў Сяргей Канстанцінавіч выдае падручнік "Пішы самадзейна. Развіццё навыку самастойнага пісьма", а таксама "Метадычныя ўвагі" да яго. Ён з'яўляецца ўкладальнікам буквара "Першыя зярняткі", які карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод настаўнікаў і бацькоў. "За сваю асветніцкую і патрыятычную дзейнасць 16 кастрычніка 1930 г. і ў 1933 г. Паўловіч быў арыштаваны і сядзеў у турме на Лукішках", — адзначае Арсен Ліс, доктар філалагічных навук, вядучы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі.

Але, усё ж такі найбольш цікава разглядаць С. Паўловіча як багаслова, асветніка. Протаіерэй Сяргей Гардун, кандыдат багаслоўя, загадчык кафедры біблеістыкі і хрысціянскага веравызнання Інстытута тэалогіі БДУ распавядае наступнае: "Цяжкое становішча для праваслаўных вернікаў у той час было звязана з тым, што праваслаўных святароў проста не дапускалі да выкладання Закона Божага, бо не было падручнікаў! Стварэнне падручнікаў на мове беларускай было неабходнасцю, і тое, што зрабіў Паўловіч, бясцэнна. Па рэкамендацыі Віленскай камісіі па падрыхтоўцы беларускіх падручнікаў Закона Божага была выдадзена апрацаваная Сяргеем Канстанцінавічам "Першая навука Закона Божага. Падручнік для пачатковай школы", а пасля, у 1936 годзе — "Свяшчэнная гісторыя Новага Завету. Падручнік для беларускіх школаў і самаадукацыі".

Дарэчы, протаіерэй Сергій Гардун зрабіў вельмі цікавае параўнанне беларускага перакладу Паўловіча "Свяшчэннага Пісання" з украінскай версіяй. Айцец Сергій доказна прадэманстраваў, што пераклад нашага земляка больш дакладны, з неабходнымі тлумачэннямі, вельмі зразумелы для простага чалавека.

Цікавымі звесткамі на нефармальнай сустрэчы падзялілася і гісторык Галіна Астрога: "У 1937-1938 гадах Паўловіч рэдагаваў дзіцячы ілюстраваны царкоўна-культурны часопіс "Снапок", які з'яўляўся дадаткам да газеты Польскай праваслаўнай мітраполіі "Слово". Часопіс быў насычаны цікавымі і карыснымі для дзяцей і моладзі фактамі, апавяданні пра народныя звычаі выконвалі і асветніцкую функцыю, вучылі распазнаваць язычніцкую аснову абраднасці ў многіх прынятых у народзе святкаваннях. Паўловіч намагаўся выхаваць у дзіцяці пачуццё прыналежнасці да беларускага народа, які гаворыць на роднай мове і мае сваю асаблівую форму хрысціянскай культуры".

У 1940 г. Сяргей Паўловіч памёр ад хваробы сэрца і быў пахаваны на Ліпаўскіх могілках у Вільні. Гарачая вера і спадзяванне на промысел Божы дапамаглі Паўловічу цвёрда трымацца пастаўленай мэты і сваіх прынцыпаў, нягледзячы на няпростыя грамадска-палітычныя абставіны.

"Значнасць асобы выдатнага чалавека С. Паўловіча, майстра слова, які шмат зрабіў для развіцця духоўнай адукацыі беларускага насельніцтва яшчэ намі не ацэнена… А менавіта яму належыць асноўная роля ў станаўленні сучаснай беларускай мовы як сакральнай. Таму нашы задачы сёння заключаюцца ў тым, каб памяталі імя Паўловіча. І трэба думаць, як ушанаваць, як паўней і дасталверней напісаць пра гэту асобу. Можна выдаць зборнік, серыю артыкулаў… У гонар такога багаслова, асветніка і вуліцу на яго радзіме назваць патрэбна!" — такімі словамі завяршыў сустрэчу прафесар Іван Чарота.

Дзіяна АРЫПАВА

Анкета пісьменніка



1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?

2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі "вучыць жыць"?

3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?

4. Якія характэрныя рысы сучаснага нарыса вы вызначылі б?

# Творчы дар — тая ж крынічка

Мікола ЧАРНЯЎСКІ:

1. З уласнага вопыту ды назіранняў над жыццём магу ўпэўнена сцвярджаць: пісьменнікам верылі, да іх думкі прыслухоўваліся, з імі лічыліся, да іх ставіліся з павагай. Бо не кожнаму, паверце, Бог і прырода даюць дар і талент словам знаходзіць дарогу да людскіх сэрцаў, "з цэлым народам гутарку весці".

Падзеі двух апошніх дзесяцігоддзяў, на вялікі жаль, адмоўна, я лічу, адбіліся на творчасці пісьменніка, на яго, як цяпер модна казаць, іміджы. Хоць не зусім, ды ўпала цікавасць да пісьменніка як да творцы, а ўслед за гэтым — і да яго літаратурнай працы. Разгублены і паўзабыты, пісьменнік, хацеў ці не хацеў таго, застаўся раптам сам-насам з сабою, са сваімі думкамі, праблемамі, урэшце, творамі. Там, дзе раней больш-менш прыязна радаваліся яго рукапісу, у выдавецтвах, у друку, на радыё — ён у нейкі момант стаў чужым. Праўда, цяпер нібыта стала лягчэй дыхаць, сітуацыя пачала хіліцца ў лепшы бок, ды ўсё ж "няма таго, што раньш было".

2. Кожная таленавітая кніга, напісаная сапраўдным майстрам слова, глыбокая па думках і пачуццях, насычаная разнастайнасцю людскіх характараў, прасякнутая роздумам, можа стаць падручнікам, педагогам, выхавальнікам, можа "вучыць жыць". І не можа, а павінна! Але зноў жа, на жаль, жыццё няўмольна ўносіць свае карэктывы. Дзяцей цяпер цікавіць сучасная камп'ютарная тэхніка. Магчыма, гэта і так. Ды ўсё ж кніга спакон вякоў лічылася самым мудрым дарадцам, заўсёды была ў пашане і ў цане: калі верыць гісторыку Сяргею Тарасаву, у далёка-даўнія часы за адну толькі кнігу заможныя людзі расплачваліся цэлым статкам жывёлы. Ці ведаюць пра гэта дзеці, у тры гады аваладваючы сакрэтамі камп'ютарных гульняў, ці могуць яны ўявіць, што за каштоўнасць — кніга? Я кажу "дзеці", бо поўнасцю згодзен з Валянцінам Лукшам: "Трэба з дзіцячага садка прывіваць моладзі любоў да друкаванага слова, альтэрнатывы якому няма".

Калі ж узяць кнігі беларускіх пісьменнікаў, то яны ўсё менш становяцца радасцю як для дзяцей, так і для саміх аўтараў. Чытача яны не радуюць тым, што сталі надта дарагія, аўтар жа не бачыць радасці ад таго, што, напісаўшы яе, часам павінен яшчэ знайсці грошы, каб выдаць яе.

Мне думаецца, без належнай дзяржаўнай падтрымкі, без прадуманай дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да мовы і літаратуры, надзей на светлую будучыню ў нашай нацыянальнай літаратуры мала. Хацеў бы памыліцца, але ёсць такі неспакой. Асабліва за паэзію: попыт, цікавасць да яе, як ні дзіўна, падае.

3. Грамадская актыўнасць літаратара, як я думаю, вызначаецца не той адказнай пасадай, якую займае ён, не тымі пачэснымі абавязкамі, што ўскладзены на яго падчас выбараў у дэпутаты, у розныя камісіі і калегіі, а ў яго характары, у яго асабістым стаўленні да людзей, да грамадства, да ўсведамлення свайго месца ў жыцці, у імкненні да дзеяння, да таго, каб некаму быць карысным, патрэбным. Колькі сябе памятаю, ніколі не заставаўся без "грамадскіх нагрузак": камсорг, член райкама камсамола, старшыня прафкама, член журы розных творчых конкурсаў і злётаў, кіраўнік літаратурных гурткоў, рэдактар кніг на грамадскіх пачатках... Апошнія 17 гадоў з'яўляюся старшынёй літаратурнай суполкі "Купалінка". Вы можаце ўявіць сабе: толькі ў адным Мінскім раёне створана і плённа працуе ў школах ажно 20 літаратурных гурткоў, якія сталі асновай нашай "Купалінкі"! Скажу шчыра: гэта мяне надзвычай радуе, натхняе, творча актывізуе і дысцыплінуе, а яшчэ і абнадзейвае: можа, не хутка яшчэ перасохне тая крынічка, якая жывіць нашу літаратуру.

4. Не буду катэгарычным, аднак мне здаецца, што "залаты век" беларускага нарыса пачынае памалу цьмянець. Чаму? Бо нарыс, як вядома, жанр літаратурны, і каб напісаць яго, патрэбна валодаць адпаведным аўтарскім майстэрствам, нават нейкім сваім дарам. Не кожны аўтар аповесці ці апавядання можа стаць аўтарам цікавага нарыса.

Умелі рабіць гэта Т. Хадкевіч, С. Кухараў, В. Палтаран, В. Мысліявец, Б. Стральцоў, А. Васілевіч, В. Праскураў, В. Карамазаў, Л. Леванові, Я. Пархута, У. Глушакоў, П. Місько, мае сябры, былыя супрацоўнікі Беларускага радыё В. Макарэвіч, М. Маляўка, К. Камейша... У іх прываблівала ўсё: і сюжэтная аснова, і арыгінальнасць падачы, і глыбіня роздуму, і пачуццёвасць у раскрыцці характараў герояў, і мова. Іх можна было чытаць і слухаць, як самыя сапраўдныя мастацкія творы, у якіх неад'емным было толькі адно — нявыдуманыя дзейныя асобы, канкрэтныя людзі, адрасы, рэальныя жыццёвыя факты і падзеі.

Раней пісьменнікаў "падбадзёрвалі" рознымі партыйнымі пастановамі, падахвочвалі шматдзённымі творчымі камандзіроўкамі, каб яны ехалі ў калгасы, да хлебаробаў, ішлі ў гарачыя рабочыя цэхі, знаёміліся з іх буднямі і ў якасці творчых справаздач "выдавалі на-гара" нарысы, а калі хто зможа — дык аповесці і паэмы з жыцця працоўнага люду. Цяпер становяцца асобнымі кнігамі часцей за ўсё краязнаўчыя нарысы, гістарычныя, з жыцця вядомых людзей Беларусі — біяграфічныя, на ваенную тэматыку.

Па-мойму, даволі прывабна на іх фоне выглядаюць творчыя здабыткі Алеся Марціновіча, Уладзіміра Ліпскага, Васіля Шырко, Пятра Сабіны.

# Святы і будні сучаснай беларускай літаратуры

Сённяшні наш суразмоўца — вядомы ў Беларусі і за яе межамі палітык і грамадскі дзеяч, член Каардынацыйнага савета пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай ЧАРГІНЕЦ.

## Грамадства і літаратар

— Мікалай Іванавіч, XX і пачатак XXI стагоддзя шмат што змянілі ў нашым жыцці. Адпаведна, мы можам назіраць і іншы душэўны стан чалавека, які заўсёды быў у полі зроку літаратара. У такім выпадку, магчыма, варта пагаварыць пра тое, якія рысы ўласцівыя нашаму грамадству ў XXI стагоддзі?

— Сапраўды, чалавецтва развіваецца, удасканальваецца, гэтаксама як змяняюцца ўмовы жыцця. Нават пераглядаюцца звычаі, яны трансфармуюцца ў наша сённяшняе жыццё. І літаратура ў нейкім сэнсе апынулася ў цяжкаватым становішчы. Раней кніг было мала. Пісьменнікаў было менш, а сярод іх выбітных, узроўню Шолахава альбо Талстога — яшчэ менш. І, зразумела, кожны твор гэтых аўтараў сустракаўся чытачамі з непадробнай цікавасцю. Пры адсутнасці тэлевізараў, радыё чытанне ператваралася ў свята душы. Цяпер, бясспрэчна, час зусім іншы. Але і гэта праўда, што ўсё пералічанае адбіваецца на стане душы. Чалавек стаў думаць іншымі катэгорыямі. І патрэбнасці павялічыліся шматкроць. І бытавыя, і сацыяльнага характару, і палітычныя погляды. І ў нейкай ступені правільна заўважана: мала яркіх характараў. Але трэба гаварыць і пра тое, што і становішча пісьменнікаў стала іншым. І не трэба заплюшчваць на гэта вочы. Пісьменнік раней, і ў часы Саюза мог пяць гадоў працаваць над кнігай. А калі кніга выходзіла, ён мог разлічыцца і за даўгі і ў той жа час пачынаць пісаць новую кнігу. Нейкім чынам матэрыяльна мог пратрымацца. Цяпер і грамадства па-іншаму на пісьменніка глядзіць. Часам — як на чалавека, які нічога не робіць, толькі думае і піша. Гэта небяспечная пазіцыя. І каб нейкім чынам атрымаць матэрыяльную падтрымку, многія пісьменнікі вымушаны працаваць вартаўнікамі, пераходзяць на напісанне такіх кніг, якія характарызуюцца як чытво. І тут ужо не варта спадзявацца на глыбокае асэнсаванне рэчаіснасці, раскрыццё характараў. А ёсць пагоня за маленькім ганарарам, але каб атрымліваць яго часцей. Гэта прывяло да таго, што пішацца іншае, тое, што можа выклікаць цікавасць тут і цяпер: дэтэктывы, нешта з таго, што сведчыць пра падзенне нораваў. І нават палітычныя моманты не асэнсоўваюцца пісьменнікамі. Таму што патрабуюць глыбокага ведання і аналізу.

Некаторыя пісьменнікі сталі больш інертнымі, пасіўнымі. Імкнуцца пабудаваць так сваё жыццё, каб на яго менш наракалі.

А гаварыць пра з'яўленне новых рысаў у грамадстве нельга, не згадваючы таго, што было дагэтуль. У зменах трэба знаходзіць заканамернасць. Урбанізацыя, з'яўленне новых страшных відаў зброі, экалогія, рэзкія змены клімату, якія, у прыватнасці, прыводзяць да пажараў. Гэта ўсё — вынік дзейнасці грамадства, чалавека. Таму трэба, каб пісьменнік сказаў сваё важкае слова пра тое, што трэба зрабіць, каб, можа гавару гучна, але выратаваць жыццё на Зямлі. Настаў такі час. І я не веру, што жыццё знікне на зямлі праз пяць мільёнаў гадоў. Калі мы будзем дзейнічаць так безаглядна, чалавецтва само сябе знішчыць. Нельга дзейнічаць ва ўрон прыродзе, самім сабе. І першае, што адбудзецца — знікнуць тыя краіны, якія знаходзяцца ў бядотным стане.

Нам трэба знаходзіць агульныя праблемы, якія неабходна вырашаць. Не на шляху доказаў таго, што наша грамадства лепшае за іншае, а знаходзіць агульныя падыходы. Вось, скажам, сусветны акіян. Я неяк, як дэлегат Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, выступаючы на Генеральнай Асамлеі ААН, заклікаў краіны аб'яднаць свае намаганні для таго, каб зразумець, што мы робім. Хімічныя і радыеактыўныя выкіды дасягнулі такой масы, якая перавышае ўсю ядзерную зброю на Зямлі ў сотні разоў. Адбываецца далейшае знішчэнне жыцця на Зямлі. Трэба заклікаць усе краіны свету расказаць, што і ў якой колькасці ляжыць на дне акіяна. Іншага выйсця няма, як прызнаць тое, што зроблена дрэннага і рашыць праблему ўсім разам. Асабліва ж краінам, якія маюць вялікую колькасць ядзернай зброі. Гэта трэба даследаваць і пра гэта пісаць! Каб палітык, прачытаўшы, падумаў: што я раблю — загадамі, указамі…Такія творы мелі б рэзананс і былі б цікавыя.

— Але, магчыма, у эпоху перамен у аўтара падсвядома спрацоўвае бар'ер: пішы на патрэбы сённяшняга дня, а праз год-два гэта стане неактуальным. Значыць, кнігі не купяць. Ды і нямала ў нас кніг, якія заляжаліся на паліцах кнігарань….

— Але часам пісьменнік не бачыць новых праблем у грамадстве. І тады выходзіць тэкст, які не цікавіць людзей. Магчыма, аўтар баіцца быць раскрытыкаваны, ён выбірае тое, што бесканфліктна. Гэтага мала! Пісьменнік, які замыкаецца ў сабе, не можа разлічваць, што яго кніга будзе запатрабавана.

Але ж у грамадстве знаходзяцца сілы, якія даюць пісьменніку аб'ектыўную ацэнку. Падтрымаю, падкажуць, што не правільна. Нам, паўтару яшчэ раз, неабходна ўмацаваць інстытут літаратурнай крытыкі. Мы стварылі ў СПБ секцыю літаратурнай крытыкі, дзейнасцю якой я пакуль не магу пахваліцца. Але ідзя падказана самім жыццём.

— Зараз у складанні рэйтынгаў папулярнасці кніг, выдадзеных за год, не ўдзельнічае хіба што лайдак. Рэйтынгі праводзяць арганізацыі, літаратары, прыватныя асобы, пры гэтым спісы намінантаў бываюць амаль супрацьлеглыя. То, можа, гэта зусім не рэйтынгі, а просты піяр-ход? Па "раскручаных" аўтара і кнігі?

— Я згадваю, як у часы Савецкага Саюза газеты штогод бралі 180 выданняў, скажам, якія выйшлі за год. І друкавалі своеасаблівы рэйтынг. Я быў рады бачыць і свае кнігі сярод першых трох. Гэта было цікава. Друкаваліся першыя дзесяць лепшых. І апошнія дзесяць. Гэта прымушала творцаў думаць, пісаць лепш, а чытачам арыентавацца ў стосе выданняў. Якая ў нас цяпер прапаганда кнігі? Ды ніякая! Але ёсць і такія кнігагандляры, якія выстаўляюць кнігі на вітрыны па вокладках. Альбо лічаць: кніга, якая прыйшла да нас з-за мяжы, лепшая. А кнігі нашых пісьменнікаў — недзе ўнізе на палічках. Як жа яны патрапяць на вочы чытачоў? Хачу згадаць і пра тое, як мы праводзім конкурсы. Бывае, лепшай кнігай называецца той твор, які лепш афармлены. Зразумела, трэба заахвочваць афарміцеляў, мастакоў, якія прымаюць удзел у афармленні кнігі. Але не называць гэта лепшай кнігай. Лепшая па афармленні кніга — гэта зразумела. Але не трэба забывацца на галоўнае: сутнасць кнігі — яе змест! Што там ёсць, унутры. Мы на творчым конкурсе ў СПБ так і ацэньваем: "лепшы твор года" — у галіне прозы, паэзіі, публіцыстыкі і гэтак далей.

— Па-вашаму, сітуацыя ў выдавецтвах цяпер спрыяльная для аўтараў? Ці толькі — для тых самых аўтараў, якія выдаваліся раней? Выдаўцы дакладна ведаюць ступень іх папулярнасці? Альбо існуе нейкі дыктат з боку заснавальнікаў выдавецтваў — каго друкаваць?

— Бясспрэчна, калі аўтар дрэнна піша ад кнігі да кнігі, то не варта яго выдаваць. Але паглядзіце на іншы бок. Творца, які хоча выдаць кнігу, павінен даць гарантыю, што яго кнігу купяць. Вось і едуць пісьменнікі па калгасах, на заводы, у бібліятэкі з просьбамі, дайце мне давецку, што вы купіце 10 маіх кніг. І прыносяць. Але ў якое нізкае становішча мы ставім пісьменніка. А той, хто знаходзіць, бывае, вельмі слабы як творца. Вось чаму я прапаную перш, чым выдаваць кнігу, знайсці магчымасць, каб яе паглядзеў крытык, літаратар. Калі яна будзе прыгожая па форме, але слабая па змесце, гэта будзе не на карысць ні выдавецтву, ні творцу.

— Але ёсць інстытут рэдактарства, прынамсі, у дзяржаўных выдавецтвах. І рэдактары досыць удумліва падыходзяць да твораў, рыхтуючы іх да друку.

— Я не сказаў бы, што гэты прынцып дзейнічае, калі ёсць гарантыя, што кнігі купяць. Ролю рэдактараў трэба павышаць. І ў гэтай сітуацыі не зусім добра служыць для развіцця літаратуры і той факт, што выдавецтвы ў першую чаргу выплачваюць ганарар мастакам, афарміцелям, а аўтару часам праз тры-чатыры гады. Прычым, ганарар у некалькі разоў меншы, чым атрымлівае мастак.

— "Тое, што напісана без намаганняў, чытаецца, як правіла, без задавальнення". Джонсан. Але і праўда, пісьменніцкая праца — гэта канцэнтрацыя эмоцый, таленту, працы. А якая аддача? Ці павінен пісьменнік задумвацца пра кампенсацыю за сваю працу?

— Там, дзе творца піша, падбіраючы словы для рыфмы, калі гаварыць пра паэзію, то наўрад ці што гэта дасць чытачу і яму самому. А вось увесці ацэнку пісьменніцкай працы ў выдавецтвах неабходна. Добрая кніга павінна быць аплачана лепш. Калі пачатковец — трэба даваць мінімальную стаўку. Я нават згодны, каб была нейкая планка, не ніжэй за якую плацілі б. А вышэй — калі ласка! І ведаеце, што яшчэ важнае — лічыць пісьменства працай. Многія здзіўляюцца: "калі творца піша для задавальнення, то чаму патрабуе яшчэ і ганарар?" Гэта таксама трэба тлумачыць, што творчая праца вельмі важная для грамадства. Літаратура — важная частка культуры. Я нядаўна спрачаўся, сцвярджаючы, што і кіно не будзе развівацца без добрых сцэнарыяў. Вось, з'явіліся ў нас добрыя спартыўныя пляцоўкі, палацы — і вынік навідавоку: на міжнароднай арэне загучала Беларусь як спартыўная дзяржава. Відаць, трэба падумаць так і пра культуру, літаратуру. І важна, каб мы не дазвалялі рускамоўнай літаратуры знішчыць беларускамоўную. Мы нават прапаноўвалі перагледзець сетку ганарараў, дзе б беларускамоўныя творы аплачваліся больш.

— Важкімі рысамі грамадскага развіцця называюць інфарматызацыю і камп'ютарызацыю. У сеціве зараз не толькі ствараюцца блогі, але вядуцца і літаратурныя дыскусіі…

— З'яўленне камп'ютараў патрабуе большай аператыўнасці і ад пісьменнікаў. Гэта добры спосаб даць і свайму твору рэкламу. І тут мы павінны разумець: часы змяніліся і не заўсёды дзяржаўная машына будзе працаваць над рэкламай твайго твора. Дык варта паруліцца і самому.



— Прачытаная ўжо першая кніга, напісаная машынай. Мы на парозе новай з'явы — тэхна-літаратуры? Чым яна пагражае грамадству?

— Машыны могуць напісаць, толькі хто будзе чытаць? Чалавечая душа настолькі глыбокая і шматгранная, што машына ніколі не зможа пераўзысці яго. Машына можа стварыць нешта кшталту "зорных войнаў", але не раскрые душу чалавека. Вось калі машына пачне перамагаць чалавека, што небяспечна для жыцця на зямлі, калі рабатызацыя прывядзе да таго, што робаты пачнуць самі сябе прадукцыраваць, будаваць свае заводы, тады, можа, мы ўбачым нешта іншае.

— У вас гэта, відаць, фантаст гаворыць…

— Не, чаму. Самы просты прыклад: ракеты ляцяць і аўтаматычна стыкоўваюцца, расстыкоўваюцца са станцыямі. Вось, унук мой просіць, каб я купіў такі пыласос, які сам падсілкоўваецца, сам ведае час, калі можна прыбірацца ў кватэры, а калі ёсць прыступкі, ён не ўпадзе з лесвіцы, не сутыкнецца з мэбляй…Гуляюць машыны і ў шахматы. Наперадзе — удасканаленне сістэмы робатаў. Але твор, напісаны машынай, не будзе мець прыярытэту над тым, што сталася вынікам працы мозгу і душы чалавека.

## Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае

— Стварэнне Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — гэта як адказ на тое, што мяжа "па людскіх сэрцах не праведзена"? Чым могуць дапамагчы нам расіяне ў развіцці літаратуры? Акрамя таго, што іх выдавецтвы заваляць паліцы кнігарняў новымі выданнямі?

— Бясспрэчна тое, што адбываецца цяпер паміж Беларуссю і Расіяй, зводзіцца да асабістых непрыязных адносін кіраўніцтва краін. Мы, бясспрэчна, падтрымліваем нашага Прэзідэнта, народы нашы блізкія. І калі мы стваралі Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, мы сыходзілі з таго, што творцы блізкія па духу. Давайце прама скажам: кнігі з замежжа ўжо запаланілі нашы кніжныя паліцы. А вось паліцы кнігарняў іншых краін не стракацяць ад нашых выданняў, беларускай літаратуры. Узаемны клопат літаратараў Расіі і Беларусі дапаможа нам, каб нашыя цікавыя творы маглі прачытаць і чытачы Расіі. Мы гэтага не хаваем.

— А, магчыма, ідэя Саюзнай дзяржавы ўжо і не актуальная?

— Цяпер надышоў такі час, калі інтэлектуалы павінны сказаць сваё важкае слова на карысць яднання народаў, захавання добрых адносін не толькі ў эканоміцы, а і ў сацыяльнай сферы. Трэба адкінуць усё асабістае, і заняцца вырашэннем праблем народаў. Вось чаму бачу я будучыню ў нашага саюза.

— Натуральна, прыярытэт у кожнай краіне, і нашай таксама аддаецца айчыннай літаратуры. Але тады навошта — сустрэчы з прадстаўнікамі інтэлігенцыі і пісьменніцкіх колаў Турцыі, Балгарыі, Сербіі?

— Вось, мы выдалі кнігу балгарына Петкі Ганчава. Ляжаць дзве кнігі сербаў, якія пераклаў Іван Чарота. Заключана пагадненне з Турцыяй. Гэта свецкая дзяржава, гісторыя якой звязана з нашай. І войны, якія былі, няўдзел Турцыі ў актыўных дзеяннях супраць Савецкага Саюза падчас апошняй вайны гаворыць за тое, што штосьці стрымлівала гэтую краіну. Магчыма, характары, мудрасць тых, хто кіраваў. Цяпер падпісанае пагадненне з Казахстанам. Гэта называецца — узаемнае ўзбагачэнне культур, літаратур. І гэта трэба развіваць.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

## Абрысы курсівам

# Нічый



Пісаць пра Андрэя Федарэнку ўслед за тэкстам пра Алеся Разанава — гэта, прызнаюся, мая наймысная прыхамаць. Справа ў тым, што сам Федарэнка Алеся Разанава як паэта, можна сказаць, не прызнае і лічыць яго паэзію за чыстую гульню розуму. Прынамсі так ён гэта падае публічна, а як успрымае “апанента” сам у сабе, не будзем гадаць (толькі ўспомнім, што Талстой у свой час крытычна ставіўся да самога Шэкспіра). Ну ёсць у Андрэя, як і ў большасці таленавітых людзей, такая фішка, як творчая зайздрасць і эгацэнтрызм. Зрэшты, празмерна акцэнтаваць увагу на гэтай пабочнай з'яве не варта. Бо асноўная прычына для напісання маіх чарговых разваг пра творчасць і асобу Федарэнкі зразумелая і больш чым празаічная — яго неардынарны пісьменніцкі талент.

Пачынаў ён у другой палове 80-х гадоў мінулага стагоддзя юнацкай “хваробай” і толькі сёння апынуўся за “мяжой” выздараўлення. Найперш — творчага. Самая ж плённая пара яго літаратурнай дзейнасці месціцца якраз паміж гэтымі двума катарсіснымі перыядамі. Нечакана для многіх яго вучнёўская аповесць “Гісторыя хваробы” вызнала шырокі чытацкі розгалас (па тым “бурапенным” перабудоўчым часе напраўду шматтысячны). Яна займала ўвагу непрыхаванай шчырасцю, цнатлівасцю і яснасцю пісьма. Зрэшты, тэма юнацкага кахання сама па сабе была прыцягальнай для моладзевай аўдыторыі. А вось наступная кніга “Смута”, на маю думку, стала для аўтара найперш стылёвым выпрабаваннем, агранкай літаратурнага майстэрства. Безумоўна, і там закладваліся канкрэтныя ідэйныя намыслы, але моўная і мастацкая эксперыментальнасць пераважвалі. Дарэчы, Андрэй ніколі ні ад кога не хаваў сваёй класічнай вучобы ў Л. Талстога, А. Чэхава ды І. Буніна, а калі казаць пра беларускую літаратуру, то тут яму былі найбольш блізкія творчыя манеры і майстэрства М. Гарэцкага і К. Чорнага (пэўна, браў ён у свой час, працуючы разам у часопісе “Полымя”, і вучнёўскія ўрокі ў І. Пташнікава)… Не будучы самавукам, але і не адсланяючыся ад “настаўнікаў”, Федарэнка ўсё-ткі застаецца самасным і самабытным. Сучасныя, у меру грамадска-сацыяльныя, гістарычныя і палітычныя аспекты яго твораў, заснаваныя на рэалістычных праявах жыцця, заўжды выклікалі ўвагу і палемічныя водгукі ў прэсе. Першая знакавая рэч, аповесць “Вёска” (у назве якой прэтэнцыёзна і смела падкрэслена паралель з бунінскай “Деревней”) ужо была напісана цвёрдай рукой і зроблена па ўсіх класічных канонах.

Менавіта пасля “вёскі” прыйшоў час упэўненага ў сваім таленце майстра. Ненавязлівы, але займальны сюжэт, дацэнтрабежны (не раздробнены, а магнетычны) змест, злабадзённая тэма, класічна выверэны стыль, не дыстыляваная, але запатрабаваная чытачом мова, уменне ствараць мастацкія праявы, якія на, здавалася б, роўным месцы, лаканічнасць метафары, ёмкасць вобразаў і пазнавальнасць характараў, інтуітыўнае адчуванне чытача, як блізкага чалавека (у духоўным і псіхалагічным плане) — вось на чым грунтуецца адточанае да малазаўважнай пагрэшнасці майстэрства на сёння вылітнога і шырокавядомага ў краіне пісьменніка Андрэя Федарэнкі. Ён, трэба зазначыць, у адрозненне ад некаторых, не кідаўся “за падачкамі”, не мяняў вектар творчасці ў пагоні за моднымі павевамі, не схіляўся да літаратурнага канфармізму. З вучнёўскай пары мае свой пісьменніцкі гонар і не гандлюе ім. Хоць, безумоўна, Федарэнка не пазбаўлены чалавечых недахопаў, літаратурных выдаткаў, творчага і нятворчага негатыву. Чытаючы яго, можна нават прасачыць, што галоўныя ды і не галоўныя (станоўчыя і негатыўныя, хоць для яго такі падзел даволі ўмоўны) героі яго твораў заўжды займаліся пераадоленнем сваіх негатыўных комплексаў, якія нярэдка трансфармаваліся ў агульнанацыянальныя. Раман “Рэвізія” выявіў мастацкія і чалавечыя хібы як героя-творцы (дарэчы, пазнавальнага), так і яго ўласныя. Аднак у Федарэнкі не было і няма боязі памылак і творчай паразы. Не дзіўна, што нават яго слабейшыя рэчы даюць падставу для чытацкага хвалявання і ажыятажу. Апошнім часам у яго з'явілася крытычнае стаўленне да сваёй творчай працы, у адрозненне ад публічных паводзін. А гэта адзнака сапраўднага таленту.

Знакаміты раман “Нічые”, на маю, запознена перагледжаную, думку, ёсць класічнай пазнакай усёй пісьменніцкай творчасці Андрэя Федарэнкі. Чыста нацыянальна заангажаваны аўтар напісаў бы “Нічыіх” (удзельнікаў Слуцкага чыну) чыста ў герaічных і патрыятычна-ўзнёслых метафарах, а Федарэнка выявіў іх так, як вычуваў тое на генным узроўні, супаставіўшы сваё ўяўленне з архіўнымі дакументамі і расповедамі яшчэ жывых сведак. Гэтым самым ён паспрабаваў паставіць беларусаў на сваё — нерашуча-памяркоўнае — месца як у гісторыі, так і ў канкрэтным часе. Разам з тым, пісьменнік вызваліў поле для спрэчак і вострай палемікі ў друку, чым прыцягнуў яшчэ большую ўвагу да свайго неардынарнага твора. Безумоўна, гэты твор будзе значным і адметным ягo укладам ў класічны плён усёй беларускай літаратуры.

Нельга не адзначыць і важкага ўнёску А. Федарэнкі ў дзіцячую літаратуру (“Шчарбаты талер”, “Афганская шкатулка”). І тут у яго на сённяшні дзень не шмат тых, хто мог бы на роўных паспаборнічаць з ім.

Я ўжо згадваў вышэй, што пісьменнік мае свае “фірменныя” выдаткі, але і яны таксама дамалёўваюць яго творчую постаць, робяць Андрэя Федарэнку цэльнай чалавечай асобай, якая, як мы ведаем, не бывае абсалютна дасканалай. Пакуль жа ён цвёрда стаіць пасярод айчынных жарсцяў, адшукаўшы нарэшце цэнтр раўнавагі.

ЛеГАЛ

Фота Кастуся Дробава

# У пошуках страчанага, альбо Парадоксы нацыянальнай ухроніі

**Відавочна, што вылучэнне яе ў якасці самастойнай разнавіднасці дыстопіі звычайна мае фармальны характар, бо пад трансфармацыяю ўсё ж такі падпадае толькі геаграфічны пласт тэксту. Зместавы ж аспект застаецца нязменным, цалкам адпавядаючы патрабаванням уласна дыстапічнай літаратуры. У дадзеным кантэксце бачыцца адметным зварот некаторых аўтараў ухроніі да нацыянальнага пытання. Згаданая тэматыка ў многім стымулявана такім феноменам сучаснасці, як “крызіс ідэнтыфікацыі” і разгортваецца як генераванне праграм рэалізацыі апошняга. Побач з паказчыкамі атэмпаральнасці і канкрэтнасці прасторавай мадэлі твора гэты фактар фарміруе ўхронію ў якасці самастойнага жанру.**

Так, яскравым прыкладам ухроніі выступаюць “Драматургічныя тэксты” А. Асташонка, дзеянне якіх разгортваецца ў неакрэсленай будучыні, калі навукай была адкрыта таямнічая Субстанцыя, з дапамогай якой чалавецтва можа здзейсніць самыя патаемныя са сваіх мар. Тэарэтычным вынікам дадзенага дасягнення павінна было стацца доўгачаканае “светлае заўтра”, у якім кожны можа стаць шчаслівым. Воля, Патэнцыял і Мэтазгоднасць — асноўныя кампаненты чароўнага эліксіру. Функцыянаванню формулы пагражае магчымасць таго, што знойдзецца на свеце выключная асоба, розумам якой валодае недасягальная мэта, няўяўная нават для наймагутнейшай Субстанцыі. Але верагоднасць такой сітуацыі настолькі мінімальная, што Лоцман, супрацоўнік Камеры Пераўтварэння, толькі мімаходам звяртае на гэта ўвагу, паведамляючы чарговаму Кліенту пра іх агенцтва. Чалавечыя жаданні аказваюцца настолькі трывіяльнымі і прагматычнымі па сваёй сутнасці, што маюць усе магчымасці набыць рэальнае ўвасабленне. Так, кожны можа вокамгненна змяніць пол, род заняткаў, знешнасць і г. д. Не трэба выказваць якіх-небудзь канкрэтных пажаданняў: Субстанцыя сама пранікне ў аддаленыя куткі чалавечай фантазіі і вылучыць Дамінанту — тую мэту, дасягненне якой зробіць асобу шчаслівай. Каб здзейсніць сваю запаветную мару, прыходзіць да вышэйшай матэрыі і Кліент, унутраны патэнцыял якога здзіўляе нават Лоцмана. Герой А. Асташонка ахвяруе дзеля чароўнага сеанса ўсім: сваімі грашыма і, самае галоўнае, жыццём. Бо ссуды, дадзенай на Пераўтварэнне ў банку, хапіла толькі для адной гадзіны кантакту з Субстанцыяй замест бяспечных для арганізма васьмі. Кліент разважае: “Восем гадзін Прыёму — страта ў пяць-дзесяць гадоў. Адна гадзіна — страта сама меней сорак-пяцьдзесят… На жыццё нічога не застаецца… Ну, з Богам”. Але вынікі рызыкоўных паводзін аказаліся непрадказальнымі: Субстанцыя страчвае свае звышнатуральныя якасці. А на пытанне да смерці спалоханага Лоцмана, якое ж жаданне загадаў Кліент, ён збянтэжана адказвае: “Я… я хачу абудзіць беларусаў”.

Наіўнае, але моцнае жаданне Кліента падараваць свайму народу новае жыццё выглядае такім рамантычна-неверагодным на фоне штодзённых праблем чалавецтва, што чытач можа жахнуцца: а ці ёсць там, у далёкай будучыні, гэтыя беларусы? Чалавек, які ганіцца за немагчымым, аддае самае дарагое — жыццё. Але і гэтая ахвяра аказваецца бессэнсоўнай: героі п'есы паміраюць, а Субстанцыя робіць неверагоднае — выходзіць з берагоў, пазбавіўшы такім чынам іншых жыхароў планеты шанцу на здзяйсненне сваіх трывіяльных, але такіх “істотных” для кожнага з іх мар.

“Драматургічныя тэксты” А. Асташонка грунтуюцца на даволі рэдкай як для беларускай, так і для сусветнай антыўтапічнай літаратуры праблеме нацыянальнай свядомасці чалавека. Наватарства аўтара заключаецца і ў тым, што ён здолеў пашырыць сферу выкарыстання ўхроніі як жанру, умела перанесці яе асноўныя элементы ў сферу драматургіі.

Не абмінуў злабадзённае для сучаснасці пытанне аб існаванні асобнага этнасу ва ўмовах глабалізацыі і А. Федарэнка ў сваёй аповесці “Смута, альбо XII фантазій на адну тэму”.

Агульнавядома, што адной з першых умоў знікнення цэлага народа з'яўляецца пачатак моўнай інтэрвенцыі. У гэтым святле досыць красамоўнымі выступаюць імёны герояў твора: Эджэн Росаль, Кэтрын Роджэраўна, Элен, Джон Кладка і многія іншыя. Прычын пошуку новых ці запазычвання чужых лінгвістычных сродкаў для здзяйснення працэсу камунікацыі ў аповесці шмат: ад асаблівасцей грамадска-палітычнага і эканамічнага становішча краіны да пашырэння міжкультурных зносін паміж людзьмі. Думка аб важнасці захавання ўласных нацыянальных каштоўнасцей гучыць у словах аднаго з персанажаў апавядання: “…што я, як паршывы лакей, дазваляю зваць сябе нейкім гаджэнам, калі я беларус, я славянін”. Адзінае выйсце са становішча бачыць у вяртанні чалавека да прыроды, выкарыстанні натуральнай гаспадаркі і г.д. Трэба зазначыць, што дадзеная тэорыя рэалізоўваецца праз сентыментальную ідэалізацыю “пастаральнага” адмаўлення грамадства ад урбаністычнага свету. Галоўныя героі твора Кепка, Валя і Чыгуначнік жывуць у забруджаным Чарнобылем раёне, купленым замежнымі краінамі для правядзення доследаў і вымярэнняў, і адчуваюць сябе бязмежна шчаслівымі.

Пытанне аб самавызначэнні беларускага народа ўздымаецца і на старонках прыпавесцей В. Быкава, прагнастычна-песімістычная скіраванасць якіх сведчыць аб правамернасці разгляду дадзеных твораў у межах дыстапічнай літаратуры. Напрыклад, вельмі часта прыём сумяшчэння аб'ектаў, лакалізаваных у рэальным і віртуальным свеце, спалучэнне сапраўднасці і ўмоўнасці дазваляе пісьменніку ствараць неабходны пасыл для ўзнікнення ў свядомасці чытача неабходнага асацыятыўнага ланцужка. Згаданая сітуацыя прысутнічае ў творы “Музыка”, дзе выказваецца думка аб непарыўнай сувязі кожнага чалавека са сваёй краінай, у дадзеным выпадку, з Беларуссю. Галоўны герой, які з дзяцінства быў пазбаўлены радзімы і не надта турбуецца пра яе лёс у сталым узросце, дзіўным чынам трапляе на пахаванне свайго народа. І толькі ў атмасферы безнадзейнасці і трывогі створаны В. Быкавым персанаж пачынае разумець, што разам з заканчэннем хаўтураў павінна абарвацца нешта і ў яго жыцці. І сапраўды, “усвядоміў ён, што яго самога ў прасторы стала да мізэрнага мала <…> А пасля не засталося нічога”. Ідэя знікнення цэлай нацыі наблізіце згаданую прыпавесць да рамана-лексікона М. Павіча “Хазарскі слоўнік”. Але ў адрозненне ад гісторыі старажытнага племені, якое скончыла сваё існаванне ў якасці самастойнай этнічнай адзінкі праз адмаўленне сваёй уласнай рэлігіі, прычыны непазбежнай дэнацыяналізацыі ў творы В. Быкава заключаюцца ў менталітэце галоўнага героя як прадстаўніка свайго народа. Паказальным у гэтым плане з'яўляецца кульмінацыйная сцэна пахавання: “…навошта ён тут? Дзеля чаго? Ратаваць ці ратавацца самому? Але як ён мог нешта зрабіць, калі быў падначалены чужой волі, пазбаўлены ўласнага Я?”. Нерашучасць, адсутнасць самастойнасці, абыякавасць, інертнасць, нежаданне актыўна дзейнічаць, змагацца — галоўныя прычыны страты таго ўнікальнага, непаўторнага, што заключана ў самім паняцці “народ”.

Безумоўна, згаданыя элементы ўхроніі ў прыпавесці В. Быкава не дазваляюць залічыць аўтара да скептычна настроеных стваральнікаў змрочных футуралагічных карцін. Але ўнутраная тоеснасць паміж абранай пісьменнікам літаратурнай формай і фантастыкай перасцярогі, якая заключаецца ў алегарычнасці, парабалічнасці і адсутнасці часавай канкрэтыкі, відавочная. І таму заканамерным з'яўляецца пранікненне літаратуры перасцярогі ў інтэлектуальную прозу.

Ухронія прапануе чытачу новы ракурс разгляду балючай праблемы і часам новыя сродкі яе вырашэння, робячы пры гэтым айчынную фантастычную літаратуру ўнікальнай на фоне сусветнага мастацтва слова.

Марына АММОН

## Палеміка

Артыкул Анатоля Іванчанкі, даўняга аўтара і чытача літаратурных выданняў, з'яўляецца водгукам на публікацыю пісьменніка-фантаста А. Сілецкага, надрукаванага ў № 24 тыднёвіка "ЛіМ" за гэты год. А. Іванчанка, чалавек энцыклапедычных ведаў, нярэдка закранае пытанні "дыскусійнага парадку". У сувязі з дэклараванай размовай па праблемах беларускай фантастыкі і ў працяг цыкла публікацый тэарэтыка М. Аммон прапануем чытачу і гэты артыкул, які разглядае праблему — з крыху іншага пункта гледжання — як скопішча сацыяльных стэрэатыпаў пры ўспрыманні фантастычнай літаратуры.

Аддзел крытыкі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"


Новыя абрысы айчыннай фантастыкі

"камуністычнай мары" і напеРабой пішуць пра нейкую нечуваную праўду "камуністычнай казкі", то бок з'яўляюцца самымі натуральнымі і беспрынцыповымі фантастамі.
Многія рэалісты падсвядома, пэўна ж, адчувалі, што ў фантастаў усё ж фарчала болей шанцаў выказаць нешта больш істотнае і нават жыццёвае — няхай сабе і ў незвычайнай форме. Бо фантасты ў меру свайго таленту і ў меру дасведчанасці разважалі пра магчымае як прыхаваную шматкасць рэальнага, пра тое, чаго, здавалася б, і няма на свеце, але можа правіцца — і не на пустым месцы, а ў строгай адпаведнасці з фундаментальнымі законамі светабудовы, выяўленымі навукай. І, трэба думаць, невыпадкова ў 1960-х мінулага стагоддзя вядомы фантаст У. Грыгор'еў даў парадаксальнае азначэнне: "Фантастыка — гэта праўда пра тое, чаго няма". Менавіта "няма", а не "не-

# Знішчэнне, якое не адбылося

У 1934 годзе, калі Герберт Уэлс прыехаў у СССР, то сустрэўся між іншым з Аляксандрам Бляевым, раманы якога "Галава прафесара Доўэля" і "Чалавек-амфібія" ён чытаў. Уэлс сказаў Бляеву, што "трохі зайздросціць" яму. Геафізік праф. Б. П. Вейнберг, які прысутнічаў на сустрэчы, спытаў Уэлса, чым, на ягоную думку, раманы Бляева адрозніваюцца ад твораў заходніх фантастаў. "Мой адказ на вашае пытанне, пан прафесар, будзе вельмі кароткі, — сказаў Уэлс, — у сучаснай навукова-фантастычнай літаратуры на Захадзе неверагодна шмат фантастыкі і неверагодна мала навукі".

У 1970 годзе Станіслаў Лем выдаў двухтомнік "Фантастыка і футуралогія", дзе агаломшыў чытача сапраўднай сенсацыяй. Лем піша, што, калі рыхтаваў гэтую манаграфію, то прачытаў 62000 старонак кніг навуковай фантастыкі ЗША і прыйшоў да высновы, што 99 працэнтаў амерыканскай англамоўнай фантастыкі — макулатура. У гэта я не мог паверыць, паколькі чытаў амерыканскую фантастыку: яе даволі часта выдавалі ў нас у перакладах. Можа, Лем звышпатрабавальны і лічыць халтурай нават творы сярэдняга ўзроўню?

Гэтыя моманты прыгадаліся, калі чытаў артыкул пісьменніка-фантаста Аляксандра Сілецкага ў "ЛіМе". 3 творамі самога А. Сілецкага, на жаль, незнаёмы. Аднак і артыкул фантаста ў чымсьці даволі фантастычны. Чытаем: "...і Гесэ, і Лагерлёф… і Грас атрымалі… Нобелеўскія прэміі за раманы цалкам фантастычнага характару. А Лесінг і ўвогуле быў уганараваны Нобелеўскай прэміі ў 2007 годзе за цыкл фантастычных раманаў". Аўтар пераправаў у мужчыну англійскую пісьменніцу Дорыс Лесінг, якой сапраўды прэмію далі за фантастыку. Астатнім жа — за творчасць увогуле, напрыклад, Герману Гесэ — "за натхнёную творчасць, у якой усё з большай відавочнасцю праяўляюцца ідэі гуманізму, а таксама за бліскучы стыль".

Нават у артыкуле пра фантастыку не трэба занадта даваць волю фантазіі.

Савецкую літаратуру аўтар папракнуў не толькі ў плагіяце з замежнай. У СССР быццам бы фантастыку загналі ў "літаратурнае гета", а вось "беспрабленмным бытапісальніцтвам займацца... нават заахвочвалася і афіцыйна ўзводзілася ў ранг "высокай літаратуры". (Адсюль — "Оптимистические трагедии", "Поднятые целины" ды іншыя...) Аўтара маглі ўвесці ў зман накont крадзяжу "Нязнайкі" Носавым. Але нельга ўвесці ў зман наконт "бытапісальніцтва" ў п'есе пра жанчыну-камісара ў грамадзянскую вайну. Проста А. Сілецкі піша пра тое, пра што не мае ўяўлення. Нават "Вялікая расійская энцыклапедыя" (2006) крытыкуе п'есы Вішнеўскага 1940-х гадоў, а не 1930-х. А. Сілецкі дэманструе глыбокую павагу да заходняй культуры, таму скажу што самсонаўскую "Аптымістычную трагедыю" высока ацанілі на Захадзе: у 1963 годзе яму далі спецпрыз у Канах і гран-пры "Залатая галава Паленке" ў Акапулька. Ларыса Рэйснер, прававобраз Камісара была гераічнай жанчынай і пісала фантастыку.

Паводле артыкула аўтара, Чосер, Мэлары (творы пра караля Артура), Шэкспір, Стэрн, Гётэ, Дзікенс, Чэхаў, Т. Ман, Гарсія Маркес, Марыяк — фантасты. А "Энцыклапедыя фантастыкі" такімі іх не лічыць. У Чэхава ёсць "Лятаючыя астравы. Твор Жуля Верна" (пародыя няўдалая), "Мая гутарка з Эдысанам" і "На Месяцы", у якім двое бачаць у тэлескоп свята ў тым месцы, дзе знаходзіцца Гродна, і гадаюць, гэта пажар ці ілюмінацыя (фантастыка, але меней 0,5 старонкі). А "Чароўная гара" Т. Мана? Дзеянне праходзіць у Швейцарыі, у туберкулёзным санаторыі — не фантастыка. Дарэчы, Т. Ман назваў антыкамунізм "галоўнай дурасцю нашай эпохі", што трэба адназначыць, паколькі антыкамунізмам

А хто лічыў фантастыку непаўнавартаснай? Тыя аўтары малатыражных твораў, якія зайздросцілі тыражам заўсёды папулярнай фантастыкі, выдаўцы і рэдактары, якія не мелі ведаў, каб ацаніць ці адрэдагаваць рукапісы твораў фантастыкі, і г.д. Яны негатыўна выказваліся пра творы гэтага жанру пры абмеркаванні ў асяроддзі пісьменнікаў, выдаўцоў, пры рашэнні пытання аб тым, ці ўключаць іх у план выдання, і ў іншых выпадках, што стварала фантастыцы рэпутацыю літаратуры "другога гатунку". Артыкулаў, рэцэнзій, дзе б фантастыка прама залічвалася ў "другі гатунак", не сустракаў. Трэба ж мець нелады з логікай, каб у другу аднесці да "другога гатунку" не канкрэтны твор, а цалкам жанр.

вее ад артыкула А. Сілецкага.

Каб мяне не лічылі "камунякам", адзначу, што быў адзіным некамсамольцам у БДУ ў 1955 — 1960 гадах, а ў КПСС ніколі не быў. "Вялікі Уэлс", як слушна назваў брытанца А. Сілецкі, быў за сацыялізм, праўда "фабіянскі", дасягнуты шляхам рэформаў. У 1923 годзе Уэлс надрукаваў камуністычную ўтопію — раман "Людзі як богі". (На жаль, ён не ўказаны ў персаналіі пісьменніка ў БелЭн. А гэта дужа цікавы твор з вельмі гумарыстычнымі сцэнамі, у якім англійскі буржуа трапляе да людзей камуністычнага грамадства; гл. т. 5 Збору твораў Уэлса ў 15 т., М., 1964.) 24 мая 1945 года Уэлс змясціў у газеце Daily Worker ліст аб тым, што на выбарах у парламент будзе галасаваць за кандыдата кампартыі (галасаваў жа за лейбарыста: кампартыя кандыдата не вылучыла). Д. Лесінг была актывісткай кампартыі. 19.06.10 "Euronews" паведаміў: памёр пісьменнік Ж. Сарамага, адзіны партугальскі набеліят, "перакананы марксіст" ("Горад сляпых", фантастыка; "Успамін пра манастыр" марыў экранізаваць Феліні). С. Лем напісаў камуністычную ўтопію "Магеланава воблака". Пазней ён падтрымаў "Салідарнасць", але заўсёды прызнаваў прывабнасць ідэі камунізму, а, напрыклад, рэакцыйнасць фантаста Хайнлайна даводзіў тым, што той супраць любых формаў сацыялізму і раўнапраўя палоў. У адказе на анкету часопіса "Борьба за технику" (1934. № 17-18) Янка Купала вылучыў з фантастыкі раман Эдуарда Белямі "Праз сто гадоў" (ЗША) — пра сацыялізм, пабудаваны мірным шляхам. У 2000 годзе ў сусветным інтэрнэт-галасаванні большасць назвала найвялікшым філосафам тысячагоддзя Маркса (а не Фаму Аквінскага, як разлічвалі ў Англіі ініцыятары апытання).

Аляксандр Сілецкі піша пра сацыялізм, камунізм, пра літаратуру і навуку ў СССР толькі негатыўна, часцей за ўсё са з'едлівай іроніяй: "эпоха пераможнага сацыялізму", "праслаўляючы камуністычную будучыню", "літаратура крылатай мары", закліканая быць правадніком камуністычных ідэй і прапагандыстам "перадавой савецкай навукі", і г.д. У вуснах фантаста іронія наконт мары аб грамадстве справядлівасці (і багацця для ўсіх) гучыць дзіўна. Як і адмаўленне "савецкай навукі": у СССР была менавіта савецкая навука, і даволі перадавая — усе тры нобеліяты постсавецкай Расіі, Ж. І. Алфёраў, В. Л. Гінзбург і А. А. Абрыкосаў, атрымалі прэміі за работы, зробленыя яшчэ ў СССР.

Пачынаецца артыкул А. Сілецкага з таго, што ў дыскусіі каля 1965 года аб фантастыцы кансерватары, насуперак думцы "больш маладых аўтараў", што фантастыка — паўнавартасная літаратура, аднеслі яе да "чтыва"... цалкам пазбаўленага мастацкасці. Падчас дыскусіі адразу ж з'явілся і з'едлівыя азначэнні: "падчарка літаратуры", "Папялушка літаратуры", "літаратура крылатай мары",

Нездарма Уэлс казаў, што ў фантастыцы на Захадзе дужа шмат фантастыкі і мала навукі. А цяпер і ў нас фактычна не пішуць навуковую фантастыку. Для яе трэба ведаць прыродазнаўства. Невукі ж могуць пісаць толькі фэнтэзі, якое і згубіла фантастыку. У БСЭ, БелСЭ, КЛЭ ёсць артыкулы "Навуковая фантастыка" і "Фантастыка", у БелЭн — толькі на апошнюю тэму.

якія... нібы катэгарычна вызначалі "законнае" месца фантастыкі". Незразумела, чаму гэтыя азначэнні "з'едлівыя": яны спагадлівыя ў адносінах да аўтараў і аматараў фантастыкі, а "крылатая мара" — гэта амаль высокі стыль. Да таго ж "папялушкай" А. Бляеў назваў фантастыку значна раней — у артыкуле "Папялушка. Аб навуковай фантастыцы ў нашай літаратуры" (ЛГ. 15.08.1938), дзе фантастыка — яшчэ "падчарка". Арыядна Громава ў артыкуле "Папялушка" (ЛГ. 1.02.1964) піша, што І. Яфрэмаў слушна назваў фантастыку "падчаркай". У той жа "ЛГ" (11.12.1954) Яфрэмаў і іншыя надрукавалі артыкул "Пра літаратуру крылатай мары" — супраць фантастыкі "блізкага прыцэлу" (бяскрылай мары). Наўрад ці Бляеў, Яфрэмаў або Громава (практыкі і тэарэтыкі фантастыкі) маглі з'едліва пісаць пра свой жанр — фантастыку. З'едлівыя азначэнні для фантастыкі ў СССР — "недалітаратура", "недаНОСАК" — знайшоў якраз сам А. Сілецкі.

У СССР, піша аўтар, фантастыка і чытачамі, "і афіцыйнай крытыкай... была прызнана літаратурай другога гатунку". А ў сапраўднасці такога не было! Крытык фантастыкі Яўген Брандыс пра даведнік — паказальнік фантастыкі — пісаў: "Магия устаревших представлений о... научно-фантастической литературе как второстепенной.. не имеющей... самостоятельного значения... еще так сильна, что составительница не решилась ограничиться рекомендацией произведений этого жанра без "принудительной нагрузки" (В мире книг. 1965. № 1. С. 17). У 1965 годзе, які мае на ўвазе А. Сілецкі, зняважлівыя адносіны да фантастыкі лічыліся агульнапрызнана ўстарэлымі. Ды нават у 1933 годзе, 17 кастрычніка, "ЛГ" у артыкуле "Яшчэ аб навукова-фантастычным жанры" пісала: "Нужно всемерно бороться с имеющим еще… хождение мнением о занимательных жанрах как о литературе второго сорта..." — такое "мнение" ўжо тады было ўстарэлым ці абрыдлым.

А хто лічыў фантастыку непаўнавартаснай? Тыя аўтары малатыражных твораў, якія зайздросцілі тыражам заўсёды папулярнай фантастыкі, выдаўцы і рэдактары, якія не мелі ведаў, каб ацаніць ці адрэдагаваць рукапісы твораў фантастыкі, і г.д. Яны негатыўна выказваліся пра творы гэтага жанру пры абмеркаванні ў асяроддзі пісьменнікаў, выдаўцоў, пры рашэнні пытання аб тым, ці ўключаць іх у план выдання, і ў іншых выпадках, што стварала фантастыцы рэпутацыю літаратуры "другога гатунку". Артыкулаў, рэцэнзій, дзе б фантастыка залічвалася ў "другі гатунак", не сустракаў. Трэба ж мець нелады з логікай, каб у другу аднесці да "другога гатунку" не канкрэтны твор, а цалкам жанр. Між іншым, "ЛіМ" (9.04.1982) змясціў палемічныя нататкі "Фантастыка і крытыка" — цалкам аб ярлыку "другі гатунак" і "скідцы на спецыфіку жанру", патрабаваннем якой некаторыя крытыкі фактычна і адносяць фантастыку да "другога гатунку", хоць быццам і выступаюць супраць гэтага.

А. Сілецкі піша: "...перабудова — і ўсё стала можна. Прыдумляй... колькі заўгодна... Фантастыка амаль імгненна пераўтварылася ў пародыю на самую сябе, з'явілася прымітыўнае, бясконца паўтаральнае фэнтэзі, дзе... магі, падобныя да ідыётаў, змагаюцца з драконамі..." Цалкам згодны з аўтарам! Пры "перабудове" хлынулі патокі перакладной фантастыкі, у асноўным з ЗША, і не навуковай, а фэнтэзі, пра суперменаў, бэтменаў, вампіраў, магаў, гоблінаў і г.д. І ці не ўсё гэта — нечытэльнае. Стала ясней слушнасць ацэнкі Лема: раней у СССР выдавалі толькі лепшую заходнюю фантастыку. Наступ фэнтэзі на фантастыку пачаўся стагоддзе таму. Э. Бераўз з 1914 года акрамя тарзаніяны выдаў дзясяткі раманаў аб марсіянах, піратах з Венеры і інш. Творы Г. Лаўкрафта (1890 — 1937) зусім адышлі ад навукі і вызвалі "незвычайную хвалю пераймання" ("Энцыклапедыя фантастыкі") — шмат хто дапісваў творы, не скончаныя ім, ці пісаў сіквелы яго твораў, або рабіў новыя ў духу Лаўкрафта. Нездарма Уэлс казаў, што ў фантастыцы на Захадзе дужа шмат фантастыкі і мала навукі. А цяпер і ў нас фактычна не пішуць навуковую фантастыку. Для яе трэба ведаць прыродазнаўства. Невукі ж могуць пісаць толькі фэнтэзі, якое і згубіла фантастыку. У БСЭ, БелСЭ, КЛЭ ёсць артыкулы "Навуковая фантастыка" і "Фантастыка", у БелЭн — толькі апошняя.

Але пасля слушных слоў наконт фэнтэзі аўтар нібы спужаўся сваёй смеласці і напісаў нешта процілеглае: "На жаль, надта позна дайшоў да нас Толкін з яго геніяльным "Уладаром пярсцёнкаў"... Калі б адбылося гэтае знаёмства на чвэрць стагоддзя раней, не ўзнікла б такога нястрымнага перайманніцкага шалу... Пераасэнсавалі б... і калі б сталі пераймаць, то на… больш высокім узроўні". Указаная фэнтэзі-эпапея Толкіна пачала выдавацца ў СССР у 1976 годзе (раман "Хобіт"), а цалкам яе выдалі ў "перабудову". Азімаў хваліў творы Толкіна, хоць геніяльнымі іх не назваў. Згодны, што Толкін выдатны аўтар, але ніяк не згодны, што ў СНД пісалі б добрыя творы фэнтэзі, калі б былі добрыя ўзоры для пераймання накшталт раманаў Толкіна. У фантастыцы было шмат добрых твораў (Уэлс, Бляеў, Лем і інш.). Паводле логікі А. Сілецкага, дрэнной фантастыкі пасля іх амаль не павінна быць — ці не ўсе следавалі б добрым узорам. А смецця шмат. Чаму ў фэнтэзі сталася б не так, як у фантастыцы?! Для добрага фэнтэзі патрэбен талент, валоданне словам (гэтак жа і ў фантастыцы). У каго гэта ёсць, у таго і фэнтэзі — сапраўдная літаратура. Але ж талент — даволі рэдкая рэч, таму прылаўкі забітыя "прымітыўным, бясконца паўтаральным фэнтэзі" (гэтымі словамі аўтар абверг ці не ўвесь свой артыкул).

Ці слушныя словы пра "гета", куды загналі савецкую фантастыку"? Ідэалагічны кантроль у СССР быў жорсткі, але фантасты напісалі шмат выдатных твораў. Цяпер няма кантролю. Няма і фантастыкі, прынамсі навуковай. А Лем пісаў пра "гета" для заходняй фантастыкі, англамоўнай, якая мае найбольшую ў свеце патэнцыяльную аўдыторыю, звыш 1,4 млрд. чытачоў. Амаль усе фантасты (фінансава паспяховых толькі некалькі) ЗША і Англіі маюць нейкія пазалітаратурныя крыніцы заробку і мараць аб "эміграцыі" з "гета". Мабыць, фэнтэзі, згубіўшы навуковую фантастыку ў СССР — СНД, узлялася рабіць тое ж і ў астатнім свеце. "Кажуць, фантастыка паўсюль перажывае не самыя лепшыя часы" (А. Сілецкі).

Анатоль ІВАНЧАНКА



## Змітрок МАРОЗАЎ

### Пах дажджу

Навальніца раніцою соннай
Праплыла над яблычным сялом.
Пахне дождж ранетавым азонам,
Ажылі вяргіні пад акном.
Быццам зоркі, белыя наліvы
Западаюць у маю душу.
І зямля глыбока і жадліва
П’е, гаючы, хлебны пах дажджу.

* * *

Мяжа самазнішчэння —
Наш электронны век.
Спыніся на імгненне,
Суцішся, чалавек.
Глянь на старыя фрэскі,
Што могуць шмат сказаць...
Сячэм лясы, а трэскі
Ў наступнікаў ляцяць.

### Стары хутар

Зачараваная прырода.
Спавіты сном знаёмы сад...
Якая ціш наўкол і згода,
Як гэты сад мне сёння рад!
Перабудовы абмінулі
Забыты ўсімі хутарок...
І стогадовая бабуля
Пытаецца:"Ты чый, сынок?.."

### Вёска Няраж пасля Чарнобыля

Здані белых варон
Над пакінутай хатай...
Анамалія?.. Сон?..
Разняволены атам
Вымеў родзічаў з хат:
Янку, Насту, Алёну...
Немата. Заняпад...
І сівыя вароны.

* * *

Жыву цішэй з узростам:
Без прыкрай мітусні
Ля светлага пагоста
Спынюся ў цішыні.
На плітах продкаў слёзы
Густой расой блішчаць...
І мудрыя бярозы
Аб родзічах маўчаць.

### Таццяне

Дыктуе час нам жорсткія законы —
Жывому трэба выжыць на зямлі...
А помніш пах пушчанскага азону,
Гаючы водар спелае ралլі?
Ці помніш ты жывых валошак вочкі,
Што заручылі ў жыцце нас з табой...
А як хрумсцелі на зубах гурочкі,
Абмытыя світальнаю расой!

* * *

Мужчыны рана паміраюць...
Мо, каб не бачыць з небыцця,
Як прыгожосць сваю губляюць
Жанкі пад ношаю жыцця?..
Што, зберагаючы каханне,
Дзяцей і ўнукаў берагуць...
І ўсё ж не ў гэтым апраўданне
Мужчынскай долі...
Хай жывуць!

### Сустрэча

Імжыстым восеньскім вечарам
У маю аднапакаёўку пазваніла
Басаногая дзяўчына
ў паркалёвым плацці,
З рамонкавым вяночкам
у русявых валасах.
“Хто ты ?"..
“Тваё юначае каханне?"...
“Напэўна, Вы абазналіся..."
— адказаў я...
І зачыніў дзверы на замок.

* * *

Я перажыў сябе самога
На век, а мо на сто вякоў?..
Гне долу крыж майго былога,
Няма ў мінулае шляхоў.

Брыду прыніжаны, праклятьі.
Нясу свой крыж з астатніх сіл...
Крывёй забітых і распятых
Зямны заліты небасхіл.

* * *

Я не кляну сваё былое,
Па днях пражытых не тужу...
Мо не чарнілам, а крывёю
Радок апошні дапішу.

Калі ж мне часам давядзецца
Раптоўна ў бездань дзён сысці, —
Пакіну вам, нашчадкі, сэрца,
Што не хлусіла пры жыцці.

### Ванечка

Сорак год размяняў, а ўсё Ванечка.
А матуля твая, быццам нянечка.
Барадою аброс, а дзяцінішся,
Падпіраеш паркан, долу хілішся.
Мо ад працы знямог?
Мо хварэеш ты?..
Іржавее каса, плуг закінуты.
Ні кала, ні двара.
Збегла жоначка.
Акруціла цябе самагоначка.

* * *

Малюнкі дзіўныя былога
Хвалююць сэрца кожны раз...
Я прыгадаў каня сляпога,
Нібы відушчым стаў на час.

Стагі і лес на ім цягалі —
Стагналі жаласна гужы...
Мы косю цукрам частавалі
З далонь малечых, ад душы.

І зноў сяло на ім арала —
Да шызай солі на плячах,
Аж сонца чорцікам скакала
У конскіх сплаканых вачах.

...Ніяк не выйду я з былога.
Сабе на шчасце. ці бяду
Я прыгадаў каня сляпога...
Куды вядуць — туды іду.

### Лёс

Любіў пажыць уволю
І не адну кахаў!
Знаходзіў шмат, ды болей
Часцей за ўсё губляў.

Для выгады хвілiннай
Сяброў не шкадаваў,
Адданаю жанчынай,
Як лялькай, жангляваў.

Меў талент, ды ў дарозе
Ты і яго згубіў...
І старасць на парозе,
А ты, нібы не жыў.

Ноч. Бессані маркота.
Вар’яцтва салаўя...
“Хто там?.."
“Я — адзінота,
Абранніца твая."



## Настасся НАРЭЙКА

**Дэбют**

Настасся Нарэйка нарадзілася ў 1986 годзе ў г. Маладзечна. Скончыла Маладзечанскую беларускую гімназію і Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў газеце “Навіны Камянеччыны”. Друкавалася ў рэспубліканскіх выданнях — “Раніца”, “Бярозка”, “Вясёлка”, “Першацвет”. У “ЛіМе” выступае з вершамі ўпершыню.

* * *

Мой хлопчык. Стагоддзяў мінулых
Не стрэсці са стомленых плеч
І продкаў, магутных, паснулых,
Не кінуць, як смецце, у печ,
Старонак святых старадрукаў
У сінім агні не спаліць,
Як нельга таго, хто пастукаў,
У дом уначы не пусціць.

Мой хлопчык. Мінулае казкай
Здаецца, але да пары.
Ты вырасцеш сіняю краскай
І будзеш, як мы, гаварыць.
Ты — мой васілёчак адзіны.
Ты — мой беларускі хлапчук.
То спі. Ты пакуль што бязвінны.
Дзіцятка. Анёльчык. Маўчу.

Мой хлопчык. Ты будзеш магутны,
Адданы, праўдзівы. Мой сын.
Твой шлях адзінокі, пакутны,
Нялёгкі, ды твой. Ён адзін.

Мой хлопчык. Стагоддзяў мінулых
Ты ўжо не зрачэшся. Ані.
У словах узнёслых, прачулых
Ты будзеш гарэць, бы ў агні.
Мінулае стане табою.
Ты станеш мінулым сваім.
Яно павядзе за сабою,
Бо тоіцца значнае ў ім.

Мой хлопчык. Маленькі паэце,
Такі, якім мне не быць.
Запомні: у хуткасным свеце
Нявартa без памяці жыць.

* * *

Сёння зоры такія,
Як сотні гадоў таму.
Зоры Рагнеды
Зоры Ядвігі,
Барбары.
Зоры палаюць.
Зоры не знаюць: чаму.
Зоры жывуць,
Покуль у душах пажары.

Пажары кахання,
Пажары натхнення
І болю.
Гарэць, не згарэць
Ніколі
Прасветлай душы.
І мне не згарэць.
Іграць вашу цяжкую ролю.

Жанчына і час.
Жанчына і лёс.
Дапішы.

Зоры палаюць.
Зоры такія высокія.
Іх уплялі спрадвек
У косы дзяўчат.
Рагнеды, Ядвігі, Барбары…
Свае і далёкія.
У кроку да вас —
Неадольнае мкненне назад.

Я буду пісаць
Пад зорамі вашымі,
Сёстры.
Для думак і слоў
У душы не наладжу турму.
Хай месяц плыве,
Каляны, празрысты і востры.
Хай зоры палаюць,
Як сотні гадоў таму.

### Ноч

1.
Белы мой конь.
У начное — удвох.
Страх нас гоніць.

Толькі агонь.
Ля саменькіх ног.
Ён абароніць.

2.
Звонка страла
Ў зорку пайшла —
Знічкі зграе гук.

Ціха наўкола…
Месячык — долу.
Ноч апусціла лук.

* * *

Вечаровыя зоры гарачыя.
Ды не плачу я!
Ой, не плачу я…
Я стаю на крыжы ля сяла.
Я дала табе слова.
Дала.

Месяц чоўнікам ледзь гайдаецца.
Сэрца лічыць хвіліны,
Збіваецца.
Я шкадую яго — памагаю.
Я чакаю цябе.
Я чакаю.

Крокі трызняцца,
Крокі мрояцца.
У вачах зоры двояцца,
Трояцца.
Ноч зямлю у далонях
Люляе.
Я кахаю цябе.
І губляю…

Спіць сяло,
Толькі лёгкай ступою
Ціха коні ідуць у начное,
Толькі вецер
У зёлках шапоча,
Толькі плачуць
Зялёныя вочы.

Мне трыпутнік
Прадказвае долю:
“Я расту пры дарозе,
Не ў полі,
Бачу старога,
Малога,
Бачыў
Тваёго мілога.”

Вечаровыя зоры гарачыя.
Ды не плачу я.
Ой, не плачу я.
Так палоніць, так кліча зямля.
Дзе ж ты, любы?
Дзе ходзіш, Ілья?

Вечаровыя зоры гарачыя
Апякаюць балюча.
Не плачу я.
Дагарае ўжо ночка
Сярнічкаю.
Ў рукі любыя падаю
Знічкаю.

І плыву… І плыву…
І шчаслівая!
Рукі моцныя.
“Ты палахлівая?”
Рукі цёплыя…
“Не, не баюся.”
Да грудзей як бліжэй
Прытулюся.

Ты трымай мяне.
Доўга ісці
Шляхам здвоеным
Нам па жыцці.
Ты былое
У клунак звяжы.
Мы пакінем яго
На крыжы.



Фота Віктара Кавалёва

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

8 кастрычніка 2010 г.

Выпуск 17

Выдавецкія клопаты

# Прыярытэт – літаратура для настаўнікаў

На кніжным рынку рэспублікі выдавецтва "Адукацыя і выхаванне" займае асобную нішу. Пра напрамкі яго дзейнасці расказвае дырэктар Мікалай Супрановіч.

— Пачаткам нашай дзейнасці лічым чэрвень 1991 года — момант заснавання часопіса "Адукацыя і выхаванне". Затым, у 1995 годзе, былі заснаваны яшчэ 16 часопісаў серыі "У дапамогу педагогу". Ужо ў першыя гады існавання мы атрымалі выдавецкую ліцэнзію, затым паліграфічную, набылі неабходнае абсталяванне і стварылі сваю невялікую друкарню. Сёння мы прадаём больш за сотню найменняў кніг, рыхтуецца да друку яшчэ тры дзясяткі.

— На каго ў першую чаргу арыентуецеся?

— Паколькі нашым заснавальнікам з'яўляецца Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, мы ў першую чаргу імкнёмся выдаваць літаратуру, цікавую для настаўнікаў. Нашы выданні для агульнаадукацыйнай школы — па працоўным навучанні, асновам бяспекі жыццядзейнасці, геаметрыі, дапрызыўнай падрыхтоўцы…

"Адукацыя і выхаванне" пастаянна ўдзельнічае ў конкурсах Міністэрства адукацыі на выданне школьных падручнікаў і метадычнай літаратуры. Акрамя таго мы выдаём вучэбную літаратуру для прафесійна-тэхнічных, сярэдне-спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

З 1995 года працавалі над выпускам эксперыментальных падручнікаў па ўсіх прадметах для рэфармаванай 12-гадовай сярэдняй школы.

Сёння на нашым рахунку 30 часопісаў, з іх 24 выходзяць у серыі "У дапамогу педагогу". Працуем над выданнем навукова-тэарэтычных і навукова-метадычных часопісаў "Адукацыя і выхаванне" і "Беларускі гістарычны часопіс", а таксама навукова-тэарэтычнага часопіса "Нелінейныя з'явы ў складаных сістэмах", які выходзіць на англійскай мове накладам 300 асобнікаў. Распаўсюджваецца ён у ЗША, Японіі, краінах Еўропы. Часопіс адрасаваны вузкім спецыялістам, але ў ім друкуюцца артыкулы не толькі нашых, але і замежных навукоўцаў.

Не адмаўляемся і ад іншай літаратуры, калі яна карыстаецца попытам не толькі ў настаўнікаў, але і ў іншых катэгорый чытачоў.

— Як вы "вытрымалі" вяртанне да 11-гадовай сярэдняй школы?

— Сапраўды, калі да пераходу на 12-гадовае навучанне сістэма адукацыі ішла паступова, то вяртанне да адзінаццацігодкі адбылося літаральна за год. "Адукацыя і выхаванне" выпускае адносна невялікую колькасць падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў



для агульнаадукацыйнай школы. Найбольшую колькасць вучэбнай літаратуры для школы выдае старэйшае ў Беларусі спецыялізаванае выдавецтва "Народная асвета". Выпускаюць вучэбную літаратуру таксама "Нацыянальны інстытут адукацыі", "Вышэйшая школа", "Выдавецкі цэнтр БДУ" і некаторыя іншыя дзяржаўныя выдавецтвы. Адным словам, спраўляліся з пастаўленай задачай сумеснымі намаганнямі. Але выхад падручнікаў — працэс непарыўны, і яны будуць, безумоўна ж, удасканальвацца.

— Ці наладжана зваротная сувязь з тымі, дзеля каго працуеце?

— Зваротную сувязь з пакупнікамі падтрымліваем праз аддзел маркетынгу. У базе — усе раённыя аддзелы адукацыі і культуры, сярэднія спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы, а таксама ВНУ. Маем выхады і на расійскі рынак. "Фізіка ў сярэдняй школе", "Акушэрства" і некаторыя іншыя падручнікі і дапаможнікі для вышэйшай школы карыстаюцца там попытам. "Фізіка..." выклікала інтарэс на I з'ездзе настаўнікаў краін СНД, які праходзіў у гэтым годзе ў Астане.

Пяць перавыданняў вытрымала кніга Янкі Крука і Аксаны Катовіч "Залатыя правілы народнай культуры", якая стала проста бестселерам, прычым не толькі ў беларусаў, але і ў расіян, якія маюць беларускія карані і жывуць у розных краінах СНД.

— Агульная скарга кнігавыдаўцоў, што пры ўмовах, калі тыраж беларускай кнігі невялікі, а сабекошт наадварот, амаль немагчыма трапіць на расійскі рынак.

— Так, на расійскі рынак складана прабіцца. Ён вельмі насычаны, напрыклад, на апошняй кніжнай выставе-кірмашы ў Маскве было прадстаўлена больш як 200 тысяч найменняў кніг. Але мы спрабуем. Удалося дамовіцца пра продажы з расійскім кнігагандлем пры ўмовах, што падаваць будзем не менш 15—20 пазіцый, інакш беларуская кніга проста губляецца сярод прапанаванай чытачу літаратуры.

Гутарыла
Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: дырэктар выдавецтва "Адукацыя і выхаванне" Мікалай Супрановіч.

Фота Кастуся Шастоўскага

# Крама — маленькая, выбар — вялікі




Кнігарня "Панарама", што знаходзіцца ў Мінску па адрасе Партызанскі праспект, 32/1 не падобная на іншыя сталічныя кніжныя крамы. Яна вельмі маленькая (плошча гандлёвай залы ўсяго 37 квадратных метраў) і сціплая. Але ўсё роўна карыстаецца папулярнасцю ў пакупнікоў, а паліцы запоўнены кнігамі розных выдавецтваў і аўтараў.



Крама працуе з 1973 года. За сваё доўгае існаванне яна мела некалькі назваў. Першапачаткова называлася — "Искусство", потым "Плакат", у 1993 годзе атрымала назву "Панарама-93", і нарэшце ў 2004 стала проста "Панарамай" і перайшла на гаспадарчы разлік у складзе ААТ "Белкніга".

Раней у кнігарні былі прадстаўлены толькі кнігі па мастацтве, вучэбныя выданні для мастацкіх і творчых каледжаў. Са зменай назвы змяняўся і асартымент. Цяпер гэта ўніверсальная крама. На яе паліцах і стэндах знаходзіць месца кнігі метадычнага характару для школьнікаў, навучэнцаў і студэнтаў, мастацкая і энцыклапедычная літаратура, дапаможнікі для прагramістаў і кнігі па юрыспрудэнцыі. Таксама ёсць і выданні па краязнаўстве, дзіцячая літаратура, альбомы.

Напярэдадні вялікіх зменаў кнігарня апынулася ў 1993 годзе, калі яе плошча катастрафічна скарацілася — з 300 да 37 квадратных метраў. Але ж кніжны асартымент меншым не стаў. У краме ёсць і невялічкі аддзел канцтавараў. Колькасць наведвальнікаў значна павялічваецца напярэдадні новага навучальнага года, калі ў краме дзейнічаюць скідкі і акцыі, узгодненыя з "Белкнігай", і падчас зімніх, святочных распродажаў, летам жа са скідкай прадаваліся папулярныя кнігі серыі "Романы в дорогу".

У краму завітваюць самыя розныя наведвальнікі. Школьнікі і студэнты знаходзяць на кніжных стэндах вучэбную літаратуру, дарослыя — мастацкія кнігі і раманы. Крама размешчана ў вельмі ўдалым месцы, бо праз дарогу працуюць дзве школы, ліцэй, дом-інтэрнат і Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Таму вучэбная і метадычная літаратура доўга не затрымліваюцца на кніжных паліцах.

Супрацоўнікі крамы сочаць за кніжнымі навінкамі. Але ж прапаноўваць пакупнікам усё не атрымліваецца з-за невялікай плошчы. У такіх выпадках дапамагае паслуга "кнігі пад заказ". Пакупнікам прапаноўваюцца прайс-лісты, па якіх яны могуць выбраць патрэбную кнігу і праз некаторы час атрымаць яе ў кнігарні. "Нас выратоўвае паслуга з заказам кніг, — паведаміла дырэктар крамы Ірына Катлінская, — Мы не можам прадставіць на сваіх паліцах увесь спектр выданняў. Таму і займелі прайс-лісты, якія дапамагаюць пакупнікам адносна хутка атрымліваць патрэбныя кнігі, якія ў большасці сваёй знаходзяцца на базе ААТ "Белкніга".

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК

На здымках: кнігарня "Панарама"; прадавец Юлія Юшкевіч знаёміць пакупніка з навінкамі.

Фота Кастуся Дробава

Аўтограф

Госць «Кніжнага свету» Алена Мацевасян, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.



# Вяду чытацкі дзённік

— Алена Раманаўна, якія кнігі ў дзяцінстве аказалі на вас моцнае ўражанне?

— У трэцім класе мне ў рукі трапіла кніга Зінаіды Бандарынай "Ой рана на Івана", у якой з цеплынёй і любоўю расказвалася пра жыццё Янкі Купалы, кранула і запомнілася апісанне вясковага побыту. Я прыгадала менавіта гэтую кнігу, калі лёс прывёў мяне на пасаду дырэктара музея.

Для мяне, як і для большасці прадстаўнікоў майго пакалення з піянерска-камсамольскім дзяцінствам, знакавай стала кніга Мікалая Астроўскага "Як гартавалася сталь". Яна моцна паўплывала і на мой светапогляд, і на ўсё астатняе жыццё апяванне рамантыкі подзвігу.

У першы год пасля школы я не дабрала некалькі балаў для паступлення ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Паступіла толькі ў наступным годзе. Часу было шмат, і я ахвотна чытала класічныя творы, нанова адкрываючы для сябе "Анну Каренину", "Преступление и наказание". Прачытала ўсе на той час творы Васіля Быкава, моцна ўразіў "Чорны замак Альшанскі" Уладзіміра Караткевіча — дагэтуль лічыла, што рамантыку старажытнасці трэба шукаць толькі ў раманах Вальтэра Скота.

Некалі ў школьныя гады нас прымушалі весці дзённік прачытанага. Тады мы да гэтага абавязку ставіліся фармальна. А цяпер у мяне ёсць вялікі сшытак, куды занатоўваю сугучныя настрою душы думкі аўтараў. І час ад часу яго гартаю.

— Якія кнігі прыцягваюць вашу ўвагу сёння?

— На маёй кніжнай паліцы творы Янкі Купалы, Васіля Быкава, Вольгі Іпатавай, вершы Рыгора Барадуліна.

Са старэйшым сынам любім гістарычныя раманы. З задавальненнем чытаю Дэна Брауна. Дарэчы, чытаць трэба ўсё! Ахвотна чытаю і раманы такіх аўтараў, як Харукі Муракамі (асабліва падабаўся "Нарвежскі лес"), і Пауло Каэльо ("Вяроніка вырашае памерці", "Заір"), і Артуро Перэс-Рэверце ("Фламандская дошка").

Бываюць моманты ў жыцці, калі з вялікім задавальненнем чытаю дэтэктывы. Напрыклад, калі хварэю.

Аўтограф брала
Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: Алена Мацевасян — чытачам "Кніжнага свету": "Каб не толькі на вашай кніжнай паліцы, а і ў душы заўсёды знаходзілася месца нашым класікам — Купалу, Коласу, Багдановічу".

Калаж Віктара Калініна

## Маладзічок

У свеце дзіцячай літаратуры сёння адбываюцца значныя падзеі: выходзяць новыя кнігі, праходзяць іх прэзентацыі, шырокай грамадскасцю абмяркоўваюцца пытанні развіцця і распаўсюджвання кніг для дзяцей. Не заўсёды на старонках выданняў, спецыялізаваных на літаратуры "дарослай", яны знаходзяць сваё адлюстраванне, і, адпаведна, звесткі не гарантавана трапляюць да чытачоў. У той жа час свет дзіцячай літаратуры — асаблівы, ён патрабуе больш пільнага стаўлення не толькі з боку маленькага чытача, але і з боку іх бацькоў. Так, увазе чытачоў "Кніжнага свету" мы прапануем новую рубрыку "Маладзічок", на старонках якой будзем знаёміць з сучаснай дзіцячай літаратурай: кніжнымі навінкамі, прэзентацыямі, абмяркоўваць праблемы і аналізаваць поспехі дзіцячага чытання.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Дзіцячыя выданні: крок у будучыню

«Задача дзіцячай кнігі — выхоўваць добрага грамадзяніна. Добры ж грамадзянін не падпарадкоўваецца бяздумна, крытычна настроены на рэчаіснасць».

Не, гэта не цытата з маніфеста анархістаў. Гэта ўсяго толькі словы з даклада Яніны Арлоў, крытыка шведскай дзіцячай літаратуры на форуме выдаўцоў у Стакгольме, які адбыўся ў верасні. Аўтару гэтых радкоў выпала быць у складзе беларускай дэлегацыі. На працягу тыдня ўдзельнікі форуму сустракаліся са шведскімі дзіцячымі пісьменнікамі, крытыкамі, журналістамі, кнігавыдаўцамі, наведвалі Шведскі інстытут дзіцячай кнігі, бібліятэкі Стакгольма і музей кнігі Юнібакен, імкнучыся спасцігнуць фенаменальную папулярнасць шведскай дзіцячай літаратуры ва ўсім свеце.

### Выгадны бізнес

Напачатку — пра эканамічны складальнік справы, аб які так часта разбіваюцца найпрыгажэйшыя мары і развагі пра "добрае, спрадвечнае". Падатак на дададзены кошт тавараў у Швецыі складае 25 працэнтаў, на прадукты харчавання ён — 12 працэнтаў, а на кнігі — 6 працэнтаў. Таму кнігавыданне ў Швецыі — выгадны бізнес, і штогод на 9 мільёнаў жыхароў у гэтай краіне выдаецца каля 15 тысяч кніг, з іх — 1800 выданняў для дзяцей. Наклады — 2—3 тысячы, у самых папулярных аўтараў і праектаў — 15 тысяч.

Адпаведнае стаўленне і да пісьменнікаў, здольных ствараць цікавыя творы — з іх выдаўцы парушынкі здзімаюць. Поспех аўтара — поспех выдаўца.

### Нароўні з каралеўскай сям'ёй

"Арланда", буйнейшы аэрапорт, сустракае падарожнікаў на зямлі Швецыі выявай нацыянальнага сцяга, фотаздымкам каралеўскай сям'і і — Астрыд Ліндгрэн. Думаецца, такое пачэснае суседства невыпадковае. Гэта не проста даніна павагі найпапулярнейшай шведскай пісьменніцы, а наогул прызнанне ролі пісьменніка як захавальніка традыцый, менталітэту народа і, разам з тым, падзвіжніка, наватара, чалавека, які сваімі творамі мадэлюе будучыню. Бо — "Напачатку было слова…"

### Феномен, створаны супольна

Гісторыя шведскай дзіцячай літаратуры вядзецца ад выдання першай кнігі для дзіцей у 1591 годзе і падзяляецца на два "залатыя перыяды". Другі, бліжэйшы да нас, пачынаецца з сярэдзіны 40-х гадоў XX стагоддзя і ў шырокага кола чытачоў асацыіруецца з імёнамі Астрыд Ліндгрэн і Тувэ Янсан (шведы не забываюцца штораз падкрэсліваць, што яна шведка фінскага паходжання, яны сваімі талентамі не раскідваюцца). Насамрэч імёнаў нашмат больш. Л. Хельсінг, Л. Сандберг, М. Грыпэ, С. Нурдквіст, І. Сандман Ліліус, Х. Петэрсан, О. Хольмберг, Х. Кульман і многія-многія іншыя пісьменнікі. У кожнага была свая "ніша", свой чытач, быў створаны спрыяльны літаратурны асяродак, які нарадзіў тое, што сёння называюць феноменам шведскай дзіцячай літаратуры.

### Дзіцячая літаратура набірае тэмп

Відавочна, што на пачатку новага тысячагоддзя можна ўжо казаць і пра пачатак трэцяга "за-




латога перыяду": з 2003 года адзначаецца істотнае ажыўленне, а па выніках 2006 года канстатуецца, што выданне дзіцячых кніг у Швецыі пабіла ўсе рэкорды. Самі шведы лічаць, што гэтаму спрыяла некалькі істотных фактараў: кампаніі па прапагандзе чытання, зніжэнне падаткаў на кнігавыданне, рост нараджальнасці і агульны пад'ём дабрабыту.

> Падатак на дададзены кошт тавараў у Швецыі складае 25 працэнтаў, на прадукты харчавання ён — 12 працэнтаў, а на кнігі — 6 працэнтаў.

### Прапаганда дзіцячай кнігі

Хочацца падкрэсліць: у кожнай значнай газеце Швецыі ў раздзеле "Культура" штотыдзень друкуюцца артыкулы па дзіцячай літаратуры, звернутыя да шырокай грамадскасці.

З 1965 года працуе даследчая ўстанова Шведскі інстытут дзіцячай кнігі (заснавальнікі — выдаўцы, распаўсюджвальнікі і Стакгольмскі ўніверсітэт). Задача інстытута — збіраць усе дзіцячыя і юнацкія кнігі, якія выходзяць у Швецыі, а таксама папулярызаваць іх. 73000 дзіцячых кніг у калекцыі інстытута. Пры жаданні, з імі можа працаваць любы наведвальнік. Два разы на год выходзіць часопіс "Дзіцячая літаратура", а таксама альманах з даследаваннямі па дзіцячай літаратуры, які выдаецца па меры накаплення матэрыялу. Рэгулярна выдаюцца каталогі кніжных навінак, а наклад каталога з "рэкамендацыйнымі", лепшымі кнігамі — паўмільёна: каб і бацькі і настаўнікі маглі пазнаёміцца з навінкамі. Таксама цікавасці да чытання спрыяе і вялікая колькасць дзіцячых і юнацкіх часопісаў. Гісторыя іх — тэма асобная, хочацца толькі сказаць, што першы выйшаў у 1766 годзе. А вось факт, які мяне асабіста вельмі ўразіў: у 1920-я ў Швецыі выдавалася 100 (!) часопісаў для дзяцей. Цяпер — значна больш.

### Літаратура сацыялізацыі

У Швецыі лічаць: хочаш даведацца, як жыве і працуе грамадства – чытай дзіцячую літаратуру, бо гэта — літаратура сацыялізацыі.

Сапраўды, з гэтым сцвярджэннем не паспрачаешся. Актыўней за ўсё свет пазнаецца ў маленстве, а разам з тым закладаюцца і стэрэатыпы паводзін, і разуменне таго, што такое добра і што такое дрэнна. Таму ў шведскай дзіцячай літаратуры ёсць табу на тэмы эротыкі, палітыкі, рэлігіі, гвалту. З 1978 года ў Швецыі законам забаронена біць дзяцей, таму ў шведскай літаратуры не павінна ўзнікаць тэма гвалту ў сям'і. Абавязкова — праяўленне паліткарэктнасці.

Дзіця — індывід са сваімі ўласнымі правамі, на яго ў Швецыі глядзяць з дзіцячых перспектыў, а не з пазіцыі дарослага. Задача шведскага дзіцячага пісьменніка — не павучаць, а спасцігнуць свет дзіцяці і выказаць яго думкі і перажыванні, быць рупарам дзіцячых праблем, даваць дзяцінству голас.

Даследчыкі мяркуюць, што менавіта дзякуючы гэтай асаблівасці шведскія кнігі такія папулярныя ва ўсім свеце. Дзецям яны дапамагаюць заявіць пра свае пачуцці і праблемы, а дарослым — зразумець дзяцей.

Пачынальнікам гэтай літаратурнай традыцыі лічыцца Астрыд Ліндгрэн і яе легендарная гераіня Піпі Доўгаяпанчоха.

А што да выхавання крытычна настроенага грамадзяніна — гэта, на думку шведаў, дапамагае выхаванню самасвядомасці, самапавагі, разумення роўнасці людзей і недапушчальнасці прыніжэнняў і гвалту ад "мацнейшых", "больш аўтарытэтных".

### Кнігі на ўсе ўзросты

Найвялікшай памылкай крытыкі ў Швецыі лічаць вылучэнне дзіцячай літаратуры ў асобны жанр. Гэта — самастойная літаратура са шматлікімі, як і ў дарослай, жанрамі. Аднак, паколькі дзіця разглядаецца як індывід у развіцці, існуе вельмі разгалінаванае ўзроставае дзяленне літаратуры.

"Спачатку дзеці паглынаюць кнігі, а ў юнацтве чытаюць менш. Самыя актыўныя чытачы — дзеці да васьмі гадоў. З васьмі да дзесяці яны яшчэ чытаюць, а пазней пачынаецца вялікая канкурэнцыя з іншымі медыя", — лічаць шведскія выдаўцы.

> у 1920-я ў Швецыі выдавалася 100 (!) часопісаў для дзяцей. Цяпер — значна больш.

Гэта, у сваю чаргу, зусім не значыць, што арыентаваны яны толькі на актыўны чытацкі ўзрост. Утрымаць ля кнігі і малодшых, і юнакоў — вось задача, вартая вырашэння! Ствараюцца серыйныя выданні, дзіцячыя дэтэктывы, а таксама юнацкія раманы. Апошнія — на асаблівым пачэсным месцы, бо гэта літаратура, якая хутка рэагуе на змены ў грамадстве. Не толькі фантастыка, фэнтэзі, а рэалістычныя кнігі для юнацтва — вось мары выдаўцоў.

### Сучасныя тэндэнцыі

Дзіцячая літаратура ў Швецыі надзвычай разнастайная. Але, відаць, можна вылучыць дзве наймацнейшыя тэндэнцыі: літаратура, якая гаворыць з дзецьмі з пазіцыі дзіцяці, а таксама праватацыйныя кнігі.

Найбольш яркай прадстаўніцай першай плыні лічыцца Юя Вісландэр (дарэчы, у гэтым годзе РВУ "Літаратура і Мастацтва" выдала яе кнігу "Малы і Мядзведзік", упершыню пераклаўшы на беларускую мову. Чакаецца таксама выданне кнігі "Малы і Білан", так што сачыце за кнігавыдавецкімі навінкамі РВУ!).

Перніла Стэнфальт, найярчэйшы прадстаўнік другой плыні, аўтар серыі праватацыйных кніг для маленькіх: "Кніга пра валасы", "Кніга пра смерць", "Кніга пра каханне" і нават "Кніга пра какешы"... Нашаму чытачу шэраг яе кніг вядомы праз расійскіх выдаўцоў. "Як ні дзіўна мне было, "Кніга пра какешы" аказалася ці не самай папулярнай з серыі, — распавядае аўтарка. — А сакрэт у тым, што, прывучаныя да памперсаў, сучасныя дзеці адмаўляюцца ад гаршка. Гэта надзвычайная праблема для бацькоў. З кнігай жа гэтая працэдура становіцца лягчэйшай".

### Быць бацькамі, не айчымамі

Можна шмат распавядаць пра дзіцячую кнігу ў Швецыі і шмат чаму павучыцца, але сканцэнтравацца хочацца на самай галоўнай думцы, прынцыповай праблеме, якая, думаецца, вельмі актуальная ў сённяшнім дні.

Цудоўна, што пераклады дораць нам сустрэчы з цікавейшымі творамі. Няхай іх становіцца больш, а да скарбонак сусветнай літаратуры далучаецца як найбольш людзей.

Але пры ўсім гэтым, асабліва калі гаворка датычыцца дзіцячай літаратуры, нельга страчваць тэмпы нацыянальнага кнігавыдання: добрыя бацькі будуць знаёміць сваё дзіця з суседзямі, але не аддадуць яго на выхаванне ў іншую сям'ю. Дарэчы, казкі славянскіх народаў у Швецыі ведаюць, хутчэй, толькі спецыялісты. "А навошта? — пытаюць шведы. — Гэта іншая культура, іншы менталітэт!" Шведы ахвотней перакладаюць аўтараў са скандынаўскіх краін, нямецкую і англійскую літаратуру — зноў жа з паняткаў блізкасці менталітэту.

Кніга ж як адзін з наймацнейшых сродкаў уздзеяння на дзіця фарміруе яго свядомасць, стварае асобу. Чаго болей будзе ў гэтай асобе? Свайго альбо суседскага? Хацелася б, каб свайго не бракавала, калі мы ўспрынялі як спадчыну сістэму духоўных, маральных і культурных каштоўнасцей свайго народа. Каб не шакіравалі праватацыйныя кнігі замежных аўтараў, трэба чуйна прыслухоўвацца да патрэб сучасных дзяцей і па сваім, у добрым сэнсе традыцыйным, разуменні, але з дапамогай сучасных форм, тлумачыць ім і навакольны свет, і свет пачуццяў дзіцяці. А тое, што створана і ствараецца ў нашай дзіцячай літаратуры, не баяцца піярыць, надаваць значнасць выхаду кожнай кнігі для дзяцей і юнацтва, далучаць да гэтай падзеі шырокага чытача. Урэшце, навучыцца бачыць унікальнасць у тым, што ствараецца нашымі аўтарамі і, успрымаць дзіцячую кнігу як крок у будучыню.

Думаецца, усведамленне, асэнсаванне гэтага і павінна дапамагчы рухацца наперад і, абапіраючыся на лепшыя ўзоры айчыннай і сусветнай літаратуры, ствараць свой феномен — беларускі.

За гэтыя перакананні — асаблівая падзяка шведскай зямлі.

Алена МАСЛА

На здымку: старонка з кніжнага каталога.

## Чытанка




# Мышаня Піп і ўсе, усе, усе…

Бадай, у кожнага чытача знойдзецца свая асацыяцыя з прадстаўнікамі азербайджанскай культуры. Большасць, несумненна, ведае ўраджэнца гэтага краю, класіка персідскай паэзіі Нізамі, чыё імя гучала па ўсім Сярэдневечным Усходзе. Іншыя прыгадаюць зборнік твораў дзіцячых пісьменнікаў краіны і яе фальклору "Вышкі над морам", што выйшла ў 1989 годзе. А вось у новага пакалення чытачоў Азербайджан будзе звязаны з дзіцячай кнігай Эсміры Ісмаілавай "Удивительные приключения мышонка Пипа", якая выйшла ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".

У чым жа праяўляецца сувязь выдання з далёкай усходняй краінай? Справа ў тым, што яе аўтар, Эсміра Ісмаілава, з'яўляецца спецыялістам па сувязі з грамадскасцю Пасольства Азербайджана ў Беларусі. Сама Ісмаілава па адукацыі журналіст, жыве і працуе ў Мінску, з'яўляецца аўтарам шэрага рэпартажаў, якія датычыліся розных аспектаў жыцця яе радзімы.

Журналісцкая школа добра дапамагла маладой пісьменніцы, бо ў "Дзіўных прыгодах" яскрава адчуваецца дынамізм. А як жа абысціся без яго, калі жыццё брата і сястры Ніка і Варвары змяняецца ў адно імгненне? У адным з пакояў свайго Вялікага дома яны знаходзяць мышаня, якога клічуць Піп. За кароткі прамежак часу ён навучыць іх сябраваць, здзяйсняць добрыя ўчынкі і нават выратуе Ніка ад хваробы. А яшчэ здолее пазбавіць сям'ю сваіх гаспадароў ад прысутнасці зануднай Разаліндзы (бабулі па бацькавай лініі) і яе ката Леапольда. Магчыма, прыхільнікам традыцыйнага выхавання фрагмент падаецца непедагагічным. Але ўпэўнены, што дзеці, а асабліва іх мамы, атрымаюць шмат станоўчых эмоцый і, магчыма, скарыстаюцца метадам Піпа на практыцы.

Адначасова пісьменніца здолела перадаць у творы атмасферу даверу і хатняй цеплыні, якая пануе паміж героямі, і захаваць яе на працягу ўсяго апавядання.

Адзінае шкадаванне, якое выклікае кніга ў аўтара гэтых радкоў, звязана з тым, што "Прыгоды", шыкоўна аформленыя мастачкай Наталляй Кійко, не трапілі да яго ў дзяцінстве. А вось сённяшняй беларускай малечы вельмі пашанцавала. Як фактам з'яўлення казак, так і магчымасцю іх працягу. "Вы думаете, что на этом приключения нашего Пипа закончились? Отнюдь нет. Все только начинается. (…). Вы хотите знать, о чем будет следующая книга про Пипа? О, поверьте мне, это будет интересно, ведь скоро Новый год. Пип постарается на славу, чтобы сделать этот праздник незабываемым для всех жителей Большого дома и не только…". А значыцца, і для нас з вамі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# У акне бацькоўскай хаты


Сяргей РУБЛЕЎСКІ

Сяргей Рублеўскі нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Вучыўся на фізмаце Віцебскага педінстытута. Год настаўнічаў, з 1978-га — у журналістыцы. Працаваў у бешанковіцкай і талачынскай раённых газетах, абласной газеце "Віцебскі рабочы". З 1990 па 2008 год узначальваў віцебскую абласную газету "Народнае слова". Цяпер — загадчык аддзела па архівах і справаводстве **галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама. Аўтар кніг прозы** "Апостраф", "Азярод", "Абмытыя валуны", "Ў, тое, што мы скарацілі".

## Сплыў мой вугорыч…

Можа, гадоў пяць, а то і болей таму на адным возеры, непадалёк ад роднай вёскі на Лепельшчыне, здарылася ў мяне шчаслівая знаходка. Гэтыя мясціны родныя і для майго сябра Петрака, з ім якраз і былі мы тады на беразе глухой азёрнай затокі. Да самага краю вады падступала вербалознае хмызоўе, а крыху вышэй, на невялікім узгорку, стаяла колькі чорных алешын і камлісты дуб. У засені гэтых дрэў я аглядаў берагавы пяколак, пакуль Пятрок ладзіў месца для сяброўскага вогнішча.

І раптам я, заядлы рыбак, які спрактыкаваным вокам заўважае ў таўшчыні вады выструненае цела рыбіны, угледзеў ейны барэльеф, высечаны ўмелай рукой на шызым някідкім камені. Па адметнай галаве, доўгіх плаўніках уздоўж тулава ў выяве было лёгка пазнаць вугорыча, як здавён у нашай мясцовасці называюць гэтую, аблашчаную ў мальковым узросце хвалямі Саргасава мора, рыбіну. Барэльеф на камені прытойвалі цьмяныя пісягі ад кропляў дажджу, якія прабіліся праз густую лістоту, а яшчэ — праз растрэсеныя начным вударом з ахапка дробныя галінкі вербалозу. Але я ўсё адно яе заўважыў — крайком вока, незнарок, і, здавалася, як спаймаў гэтую рыбіну. Барэльеф быў высечаны надзвычай пераканаўча, нібы на мяккай драўніне.

Рыбіна была вялікая: нязмушанае, без якога-кольвечы прымервання да рэчаіснасці ўяўленне майстра анішто не стрымлівала. Напрыклад, калі ён заўважыў, што не разлічыў — рыбіна не змяшчаецца цалкам на даволі роўнай, нібы наўмысна падчасанай прыродай бакавой паверхні валуна, дык абагнуў вугал і высек хвост вугорыча ўжо на іншым баку каменя. Рыбіна ўсё адно як абвівала яго.

Я зразумеў, што гэтая старажытная выява стваралася тою парой, калі чалавечы досвед яшчэ не ўзбагаціўся пэўнымі законамі мастацкай творчасці, напрыклад, асновамі пабудовы кампазіцыі. Толькі неўтаймоўнае натхненне рухала рукой майстра.

Паклікаў сябра Петрака, каб падзяліцца сваімі пачуццямі. З ім мы яшчэ больш дэталёва абгледзелі ды абмацалі нечаканую знаходку. Я не мог адвесці ад каменя вачэй, як ад непаўторнага мастацкага твора. У прысутнасці Петрака маё захапленне ўзмацнілася яшчэ больш, і раптам падумалася, што добра было б любавацца гэтым каменем штодзень. Так і ўзнікла жаданне забраць яго дамоў, тым больш, што Пятрок быў не супраць.

Чаму ў мяне загарэліся вочы на нечаканую знаходку, цяжка сказаць. Можа, так азвалася ў душы неўтаймоўная рыбацкая жарсць, а можа, — даўняя захопленасць скульптурай...

Перапоўненаму нечаканай чарадой пачуццяў, мне заманулася прайсціся па беразе. Усцешаны і натхнёны захапляльнай знаходкай, я ўважліва глядзеў абапал ледзьве прыкметнай сцяжыны. І нездарма! Крокаў за дваццаць ад першага раптам натрапілася другое і прытым нават больш загадкавае відовішча. Гэта была ўжо "чародка" камянёў, удвая-ўтрая меншых, чым той, што з выявай рыбіны. Камяні ляжалі жураўліным клінам. Калі прыгледзеўся, дык убачыў, што яны таксама адмыслова падчасаныя і ўяўляюць сабой морды баброў. Вадзяныя звяркі ўсё адно як адплывалі ў свой, адным ім вядомы вырай. Па зямлі, як па вадзе, — толькі морды тырчэлі над паверхняй. Я быў агаломшаны і зноў паклікаў Петрака.

Было відавочна, што і камень з выявай рыбіны, і клін камянёў у выглядзе бабрыных мордаў, дарэчы, скіраваны на ўсход сонца, невядомым для нас сэнсам панітаваны між сабою. Мы ніводзін з іх не кранулі з месца, усё адно як забаяліся парушыць трываласць свету. Няхай сабе толькі ў сваім уяўленні.

Пасля гэтай паездкі на такое знаёмае змалку і, як высветлілася, такое таямнічае возера, я зноў і зноў згадваў нашы знаходкі і задумваўся аб паходжанні дзіўнай творчасці продкаў.

Рыбіна, як вядома, сімвал Хрыста: старажытнагрэчаскае "іхціс" — манаграма яго Імя, але ж хіба мог Ісусаў сімвал быць адлюстраваны ў абліччы такой экзатычнай, без абавязковай лускі, маючай шмат нязвыклых рысаў, а таму слаба прыдатнай для абагульнення роду марскіх, рачных ды азёрных рыбін істоты. Да таго ж з такім дзіўным бабровым "эскортам"…

Можа, на азёрным беразе колькі стагоддзяў таму было якое паганскае капішча… Можа, продкі прасілі тут сваіх багоў пасляць ім рыбацкую ўдачу на ўзвышках азёрных хваляў… У лепельскіх глыбінных спратах вугры водзяцца здавён.

Так і жыў я з намерам калі-небудзь забраць камень з рыбінай сабе. І гэты намер добраткі ўкараніўся ў маёй душы…

Але тым часам пакрысе выспявала і перасцярога. Мне пачало здавацца, што калі забяру з возера камень з выявай вугорыча, дык ён прыдасца толькі для майго… надмагілля. Можа, якраз праз гэты страх я зноў і зноў унікаў неабачлівага ўчынку, маўляў потым зробіцца, потым...

Так мінула пяць, а то і болей гадоў. І вось лістападаўскім пахмурным днём мы з Петраком аказаліся на тым самым возеры — паплылі на матор-цы пакідаць спінінг, пашукаць рыбацкае шчасце ў аддаленых чаратовых закутках. Анічога не лавілася, і я папрасіў сябра сплаваць у затоку да нашых камянёў, калі ўжо надарылася такая магчымасць.

Выйшаў на бераг з прыкметным хваляваннем, але яно хутка прайшло — камянёў не было. Зніклі немаведама калі і немаведама як. Колькі хвілін я кружляў па незабыўным месцы, узіраючыся пад ногі, нібы ў пошуках іголкі, спадзеючыся на цуд раптам убачыць назаўсёды страчанае. І хутка прыкмеціў, што пакрысе супакойваюся, нібыта губляю апошнюю кроплю надзеі. Спачатку падалося: гэта таму, што пазбавіўся неадчэпнай спакусы звезці камень з рыбінай на сваю сялібу і праз гэта займець боязь маючага адбыцца пакарання за парушэнне парадку ў сакральнай мясціне продкаў. А праз колькі хвілін зразумеў, што мяне атуліла зусім не супакаенне — а нібы віхурны вецер, душу раптам вымела сваім дзеркачом спустошанасць ад таго, што больш ужо ніколі не асвяжу ў памяці відарысныя вобразы запаветных камянёў — як і не было іх. А былі ж, былі!

— Добра яшчэ, калі такі аматар артэфактаў патрапіўся, як ты, ды належным чынам ацаніў каштоўнасць тых камянёў… А калі просты забудоўшчык узяў ды кінуў іх у траншэю і заліў растворам, каб падмурак больш трывалым быў...

Я махнуў на сябра рукой: маўляў, не вярэдзь больку, і без таго моташна.

А сам падумаў: каб быў на месцы камень з рыбінай, дык і сёння не забраў бы яго дадому. Мне, як высветлілася, проста хацелася паглядзець на дзівосную выяву, палюбавацца ёю ды зноў ажывіць у душы ўсведамленне таго, што сюды можна прыехаць у любы зручны момант.

У свой час рашучы сябра, ведаючы маю захопленасць каменем з выявай рыбіны, зрабіў бы мне з яго прыўкраснае надмагілле (веру — ён даўжэй пражыве). Як ні круці, а я ж больш захоплены рыбнай лоўляй, чым прыгожым пісьменствам.

Ну а з продкамі, якія так шчодра аздобілі той камень ды ўсталявалі на беразе возера Астроўна, я паразумеўся б. І за сябра б заступіўся перад імі.

## Прыгаркі

Ва ўшацкіх беларусаў ёсць такая забабона: ні ў якім разе нельга даваць малым дзецям, ласым хоць на якія прысмакі, прыгаркі з патэльні. Бо тады яны не будуць гаваркімі, язык прыкарэе да паднябення, як той дзяронік падчас смажання да гарачай металічнай, скупа палітай алеем паверхні.

Дазнаўся пра гэта днямі ад мамы падчас адпачынку ў роднай вёсцы. Старэнькай, ёй ужо цяжка стаяць каля пліты, дык у нас падзяленне працы: мама ладзіць дзярэнне, убівае яйка, дабаўляе мучыцы, семя кропу, падсольвае, а я выпякаю аладкі. Здараецца, мама не адразу патрапіць з замешваннем дзярэння, насычэннем яго неабходымі дабаўкамі, і тады аладкі спачатку прыліпаюць да патэльні, "не ўзыходзяць" — і застаецца багата прыгаркаў.

Аднойчы саскроб іх на патэльні ў кучку і наважыўся скінуць на талерку. Мама ўстрывожылася, думала, што ў смецце, нібы маленькая дзяўчынка, папрасіла на лыжку даўнейшы ласунак. А заадно і расказала пра забабону.

І я згадаў сваё маленства. Мусіць жа, і мне, жаўтароціку, па традыцыі не давалі бульбяных ды іншых прыгарак: што ні кажыце, а гаваркім вырас, нават з лішкам, бо калі не прамоўлю, дык запішу…

Хутчэй за ўсё продкі лічылі, што гаваркім лягчэй жыць. А я цяпер шкадую: дарма, дарма ў дзяцінстве не імкнуўся як мага больш ласавацца духмянымі прыгаркамі дзяронікаў…

## Надтачыць жыццё

Калі прыязджаю да мамы, дык таўкуся каля пліты, зноў і зноў гатую ёй тую ці іншую страву. Старэнькая, яна ўжо лянуецца што-небудзь варыць ці смажыць сабе, абыходзіцца якім простым перакусам, найбольш звыклай з маленства цюпкай. Я стараюся падкарміць яе ды яшчэ невялічкі запас прыгатаванай ежы зрабіць, каб трывала пачувала сябе да майго наступнага прыезду. Маме падабаецца, як я гатую, а мне і хочацца якой ухвалы.

— Мама, ці смачна? — з усмешкай пытаюся раз-пораз.

— Вельмі смачна, — кажа яна, а потым "разроўнівае" гэты "бугарок" захопленасці: — Мне ўсё смачна. Ем, як пані. Аж не верыцца. Калі што-небудзь надта смачнае, дык я тады надточваю іншым, што заўсёды пад рукой, кіслай капустай з алеем, напрыклад...

Вось так і выбліснула зыркім грошам чарговае каленца з мамінай лексікі. Гэта ж трэба — надточвае абед, не такой смачнай, але ж ёмістай па масе, прыдатнай для напаўнення шлункаў ядой. Вось такое пазбаўленне ад пагрозы голаду, уцёкі ад ягонага фантому, які, укараніўшыся ў душы падчас юнацтва-маладосці, не адпускае яе пажыццёва. Нагадвае аб сабе фантомна, як, напрыклад, баліць на змену надвор'я даўно ампутаваная рука.

Мама надточвае свой спакой за сытае жыццё, як мінімум, на заўтра.

Ах, гэтая ўшацкая вясковая бедната...

## Родная і нечужая

Роднае набліжана да ідэальнага. А ідэальнае, бывае, зусім лёгка становіцца родным.

Узяць звычайную беларускую хату. А больш дакладна — дзве хаты: маю, родную, і бабы Каці — ідэальную. Абедзве — у родным Лепельскім раёне.

О, якая ў ідэальнай хаце падлога! Маснічына да маснічыны, на кожнай – непаўторны фактурны малюнак дрэва… Яго можна пакратаць рукой ці прайсці па ім басанож — маснічыны не сапсаваны фарбай. Больш таго, гаспадыня раз за разам адшароўвае іх ад налёту часу — хвашчоўнікам, які яшчэ і падсвятляе драўніну. Па такой падлозе можна хадзіць толькі басанож і толькі цвярозым. Было б зусім недарэчна, прыкра бачыць якога нябогу, які басанож ці ў шкарпэтках ідзе па адной маснічыне, стараецца паказаць маці: калі і прыняў з нагоды якога весялячага напою, дык самую крапельку…

Сябе ў хаце з такой падлогай я ўяўляю зусім лёгка: таксама басанож па ўсёй даўжыні адной маснічыны хаджу сюды-туды, абдумваючы новы сюжэт.

А гэта, дарэчы, усё адно што выкрочваць па столі. Калі перакуліць хату, дык так і атрымаецца, толькі з некаторымі асаблівасцямі: прыйшлося б перакрочваць цераз бэлькі, на якіх насланы, вядома ж, таксама непафарбаваныя дошкі... Дарма што яны пасланы не так, як на падлозе: цераз адну, а верхнія дошкі ляжаць на самых краях ніжніх.

У ідэальнай хаце падлога і столь аднолькава чыстыя.

Бывае, падлога становіцца чысцейшай за столь. Гэта здараецца тады, калі састарэлая гаспадыня ўжо не можа, як раней, станавіцца на табурэтку ды задзіраць угору рукі з мокрай анучкай. Ці калі яе ўжо добра прыгінае да зямлі і не атрымліваецца выпрастацца на ўвесь рост.

Тады столь з наездам напярэдадні вялікіх святаў, напрыклад, Вялікадня, вымываюць дзеці. Праясніваюць неба свайго маленства.

А калі яны жывуць далёка, як дачка бабы Каці, тады падлога чысцейшая, чым столь. Жыццё перакульваецца.

Не ведаю, як павінна быць абстаўлена ідэальная хата. Я яе толькі й бачыў, што ў бабы Каці, а ейная хата наладавана надта бедна. Вузкая шафа, ды і навошта яна, большая, адзінокай бабулі, фанерная, без люстра. У парозе — ложак, просты, са звыклымі металічнымі біламі. Пра сучаснасць нагадвае хіба што тэлевізарчык на стале.

І атуляюць светлай чысцінёй шапаткія фіранкі, а ўтульны куток адгароджвае не драўляная пераборка, а накрухмалена-лубяное льняное покрыва...

Азірнуўся я наўкруг — і зразумеў, што галоўнае атуленне ў ідэальнай хаце — чысціня. Вось у такой хаце і прыходзяць на розум чыстыя думкі.

А ў маёй роднай хаціне не ўсё так ідэальна. Падлога пафарбаваная. Столь такая ж самая, але ў трысцене пацямнелая ад жару, што патыхае з загнёту вялізнай печы. Але ж у роднай хаце жыве Ірына Юстынаўна, мая матуля.

І думкі мае тут, адчуваю, чыстыя, нібы ў хаце ідэальнай.

## Тры клёны

Добра пісаць у бацькавай хаце — праз акно, да якога падсунуты стол, адкрываецца пазнавальнасць свету, пазначаецца ягоная суладнасць з душою. Перад вачыма — танюткая палоска маруднай вады ў канаўцы, а на ейным беражку — кашлаты, багаты на акрыленае насенне клён.

Я помню тры клёны ў сваім жыцці. Два бацька пасадзіў каля хаты падчас майго малалецтва. Тады, памятаю, мы з сястрой прымерваліся і выбіралі кожны сабе найбольш прывабнае дрэва. І лёгка іх падзялілі — з першага разу.

З гадамі клён нашай Аліны засох, сястрыца адышла ў лепшы свет. А другое дрэва праз колькі гадоў надта разраслося, зацямніла вокны, дык яго ў рэшце рэшт спілавалі.

Як узрос гэты адсевак на беражку канавы, цяпер дакладна не скажу. Адно ведаю: больш такіх, хоць трохі панітаваных з маім жыццём дрэў ужо не будзе. У крайнім выпадку — клёнаў.

А гэты, абчэплены крылатым насеннем, застыў у якім кроку ад вечнасці.

## Мастак-графік Юрый Якавенка зноў здзіўляе калег і ўражвае мінскую публіку













# Літары з характарам

**У Бельгіі і на Кіпры, у Іспаніі і Літве, у Нідэрландах, Польшчы і Швецыі ладзіліся персанальныя выстаўкі беларускага майстра афорта Юрыя Якавенкі. Уладальнік 25 міжнародных і шматлікіх айчынных узнагарод, ганаровы член Шведскай каралеўскай акадэміі мастацтваў, сёлета ён атрымаў вельмі дарагі знак прызнання ад горада, у якім жыве і працуе: за высокія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці і асабісты ўнёсак у развіццё творчага патэнцыялу маладых мастакоў Юрыю Якавенку нададзена званне "Ганаровы грамадзянін горада Гродна". Тыдзень таму ў сталічнай галерэі "Мастацтва" адкрылася ўжо трыццаць сёмая па ліку персанальная выстаўка. Яна працуе да 15 кастрычніка.**

Прадстаўляць чытачам "ЛіМа" гэтага віртуоза графікі няма патрэбы: яго работы можна пабачыць і ў рэспубліканскіх, і ў рэгіянальных, і ў міжнародных арт-праектах. А хто ж не памятае, як леташняй вясной у Мінску было ўрачыста перададзена ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі новае ўнікальнае выданне кнігі Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" — плён супрацоўніцтва Юрыя Якавенкі з італьянскім выдаўцом Джуліяна Якамучы. Дзякуючы ініцыятыве мастака, падтрыманай у далёкім паўднёваеўрапейскім горадзе Сан Бенедэта дэль Тронта, быў ажыццёўлены — уявіце сабе! — няспраўджаны намер самога Міколы Гусоўскага, які пісаў "Песню пра зубра" па просьбе Папы Рымскага Льва Х, але ў Італіі яе так і не выдалі. І вось нашы сучаснікі стварылі друкаваны шэдэўр, скарыстаўшы для кнігі рукатворную паперу з няроўнымі краямі — адмысловую імітацыю матэрыялу, які выраблялі ў даўнія часы; у стылі рэнесансу выконваліся арыгінальныя ілюстрацыі; для пераплёту быў узяты неафарбаваны казіны пергамент...

Адзін са 150 асобнікаў гэтай кнігі, на вокладцы якой стаіць імя нашага слыннага суайчынніка Міколы з Гусава — Nikolai Hussovani, — экспануецца сёння ў Мінску побач з новымі работамі Юрыя Якавенкі, якія і сталіся працягам яго супрацоўніцтва з італьянскімі друкарамі ды нагодай для правядзення выстаўкі "Альфабета".

У самой назве — падказка: папка афортаў гродзенскага майстра "Alfabeto", выдадзеная ў Сан Бенедэта дэль Тронта, прысвечана алфавіту; "мадэлямі" для надзвычай вобразнага, насычанага філасофскай сімволікай, графічнага расповеда сталі ўласна літары. Звычайныя лацінскія літары, з якімі, воляю мастака-творцы, адбываюцца фантастычныя метамарфозы. Кожны аркуш серыі — гарманічны, дасканала самадастатковы, вытанчаны па форме твор, напоўнены алюзіямі на дахрысціянскую і сярэднявечную сімволіку, віртуознай гульнёй парадоксаў і абагульненняў, "правакацыямі" для інтэлекту і эрудыцыі гледача. А лейтматывам, які то відавочна, то няўгледна знітоўвае зашыфраваныя выявы літар у адзіную нізку, сталася... вінаробства. Такую тэму для мастацкага ўвасаблення прапанавала італьянская кампанія, на замову якой адгукнуўся Юрый Якавенка...

На вернісажы калегі мастака шчыра захапляліся работамі "ганаровага грамадзяніна Гродна і грамадзяніна свету", выхаванца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, які годна прадстаўляе наша мастацтва на міжнародным узроўні, спрыяе развіццю прафесійнага досведу сваіх маладых суайчыннікаў, знаёмячы іх з набыткамі сучасных замежных творцаў, робіць важкі ўнёсак у развіццё школы беларускай графікі, застаецца патрыётам і душэўным чалавекам.

"Не трэба рабіць выстаўкі, калі яны не здзіўляюць", — прыгадаўшы вядомае выслоўе, старшыня рады Беларускага саюза мастакоў, прафесар БДАМ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Зінкевіч дадаў: "Юрый Якавенка здзіўляе пастаянна. І не толькі найвысокім рамяством, але і выкшталцонай фантазіяй, і здатнасцю "ўлюбіць" у свае работы. Гэты таленавіты, глыбокі і тонкі чалавек выклікае захапленне". Зладкаваную ў невялікай зале выстаўку Ю. Якавенкі рэктар БДАМ Міхась Баразна назваў падзеяй для краіны: "Кожная з прадстаўленых работ адпавядае раздзелу фундаментальнай творчай працы. І ў кожнай ёсць тое, што адрознівае мастацтва лёгкае ад мастацтва вечнага: дыялог. Дыялог мастака з сабой, з космасам, з часам, з гледачом... На такую выстаўку, вартую, дарэчы, шырокага розгаласу, можна наведвацца дзень пры дні, углядацца ў дэталі шматзначных выяў, уступаць у гэты дыялог".

Працуючы над папкай афортаў "Alfabeto", Ю. Якавенка імкнуўся "ўскалыхнуць" грамадскую і прафесійную цікавасць да старадаўняй традыцыі, распаўсюджанай некалі з Англіі часоў У. Хогарта, калі выдаваліся вельмі танныя папкі гравюр і альбомаў, якія мелі сацыяльную накіраванасць. Гэта была своеасаблівая сістэма папулярызацыі і захавання мастацтва графікі, у мінулым вядомая і ў Беларусі. Уражаны вялікімі традыцыямі сённяшніх італьянскіх майстроў, іх стаўленнем да паперы, да шрыфтоў, наш суайчыннік вырашыў паказаць "беларускае віно ў італьянскім розліве" праз мастацкае, творчае стаўленне да літары. "Мы настолькі прызвычаіліся да побытавага ўспрымання літар, што рэагуем на іх як на лагатып у тэлерэкламе, — кажа Юрый Якавенка. — А ёсць жа шрыфт, які складаецца з літар, і ў кожнай — свой вобраз і свой характар! Для мяне было важна, каб гэтая літара была "ўплаўлена" ў сучасны кантэкст думак, пэўнай філасофіі... Італьянскія майстры дапамагалі стварыць гэтую папку, якая, спадзяюся, пераканае ў тым, што для графікаў ёсць не толькі рамка, шкло і паспарту: існуе і папка — добры, але падзабыты ў нас метад экспазіцыі сваіх работ".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Юрый Якавенка і яго афорты.

Фота аўтара

# Шчасце — проста жыць

На сцэне Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа да Дня Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі рэжысёрам Раманам Цыркіным быў пастаўлены спектакль "Шчасце Лізы і Ягора" паводле п'есы Георгія Марчука.

Першае, што адразу ўражвае і закранае струны душы, — моцны сімвалічны ўступ: на фоне мінорнай музыкі гучыць мужчынскі голас, голас галоўнага героя (артыст Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Валерый Шушкевіч), які праз 50 гадоў пасля заканчэння вайны ўспамінае і распавядае нам пра тое, што ўразіла тады яшчэ зусім малога хлапчука.

Арыгінальная рэжысёрская задумка: уключыць у пастаноўку дзяцей, хлопчыка і дзяўчынку, — адметнае вырашэнне. Яны нясуць, бадай, адну з самых моцных сэнсавых нагрузак сцэнічнага твора: паказваюць трагізм цэлага пакалення дзяцей, вымушаных пастарэць раней за належны ўзрост. Рэтраспектыўны ход вяртае нас у мінулае…

На пачатку дзеці сядзяць на кукішках, паклаўшы далоні на лялечны домік, што стаіць паміж маленькімі героямі Лізай (Ксенія Сянюк) і Ягорам (Раман Цыркін-малодшы) і дзе гарыць толькі адно акенца — як сімвал сямейнага цяпла, дабрабыту і надзеі на светлую будучыню. Памяць галоўнага героя ўвасқрашае гераічны подзвіг яго маці Браніславы (артыстка Вольга Кашынская), якая, рызыкуючы ўласным жыццём і жыццём свайго адзінага сына, ратуе ад пагібелі і бярэ да сябе трох дзяцей-яўрэяў. Амаль усе падзеі адбываюцца ў прыцемках, што надае спектаклю яшчэ больш трагічнасці.

Цікава пададзена ў п'есе праблема здрадніцтва. Адзіны паліцай (у выкананні Юрыя Шмака), які пераходзіць на бок немцаў і ўсё не можа даўмецца, як ім дагадзіць, знаходзіць сабе палюбоўніцу (артыстка Наталля Бакавец), якая таксама ходзіць да немцаў — там і шнапс, там і гульні, там і падарункі. Абое рабое, як кажуць у народзе.

Фінал п'есы падаўся мне крыху нечаканым. Пасля таго, як дзеці павырасталі і раз'ехаліся, больш яны ніколі так і не пабачыліся. Толькі з Лізай Ягор сустрэўся і даведаўся, што яна працуе афтальмолагам у Германіі… Сам жа Ягор, выкладчык філасофіі ў ВНУ суседняй Расіі, толькі 9 мая наведваецца на Радзіму. Гэтак жа, як і напачатку, Ліза і Ягор сядзяць каля лялечнага доміка, а з цемры, уся ў промнях святла, у белай вопратцы выходзіць з немаўляткам на руках, нібы Дзева Марыя, маці — Браніслава, увасабляючы сабой не толькі зборы вобраз маці, але і ўсёй Маці-Беларусі.

Дык што ж такое шчасце і ў чым шчасце Лізы ды Ягора? Працытую самога героя: "Шчасце — гэта жыць… Жыць пад мірным небам". А ад сябе дадам: жыць і атрымліваць асалоду ад кожнай пражытай табою хвіліны.

Вікторыя ТАРАСЮК,
загадчык літаратурнай часткі Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа

З Галінай Багданавай, пісьменніцай, крытыкам мастацтва і выкладчыцай адразу некалькіх навучальных устаноў, дзе рыхтуюць творцаў, можна заехаць далёка. Асабліва калі становішся на рэйкі, якія вядуць ад літаратуры да жывапісу і назад. Можна завітаць у горад архетыпаў у пошуках універсальнай мовы мастацтва і паназіраць, як мірна ў ім суіснуюць грамадзяне візуалы і вербалісты; можна адведаць каралеўства жаночай прозы і валадарства яе мосці арт-журналістыкі. Можна пераглядзець Клімта і Уладзіміра Савіча, перачытаць і знайсці кропкі судакранання Набокава і Алеся Гаруна. Часам дарога, здаецца, робіць кола, але прыглядаймася — гэта ж віток спіралі…




# Наступ візуальнага мастацтва

## Рэцэпцыя. Напрасткі да сэрца

— Мова выяўленчага мастацтва — універсальная, не патрабуе перакладу. А таму выяўленчае мастацтва быццам бы ў выгоднейшым, чым літаратура, становішчы — мастакі маюць непасрэдны кантакт з найноўшымі дасягненнямі свету, з іншымі культурамі. Гэта напраўду так?

— Выяўленчае мастацтва ў наш час сапраўды ператвараецца ва ўніверсальную мову. Гэта звязана з тым, што ў канцы ХХ ст. нарадзілася і выхавалася пакаленне, якое візуальную інфармацыю ўспрымала ў большым аб'ёме, чым якую іншую. Кінамастацтва, тэлебачанне, камп'ютар спрычыніліся да таго, што маладая генерацыя візуальную інфармацыю ўспрымае больш дакладна і хутка. Увесь аб'ём жыццёвай інфармацыі можа засвойвацца па-рознаму — ад таго, засвойваўся матэрыял праз кнігі або праз візуальнае мастацтва, яго якасць не змяншаецца. Тыя спосабы перадачы інфармацыі, якія задзейнічаюць больш частак мозга, лепей развіваюць нас саміх як асобу. Каб успрыняць напісанае слова, трэба задзейнічаць зрок, а яшчэ — логіку, розум. Але сёння візуальнае мастацтва становіцца для моладзі важным сродкам пазнання свету і сябе. Кіно, тэлебачанне, Інтэрнэт прапануюць прасторава-часавыя віды мастацтва – інфармацыя з цягам часу знікае з вачэй. А выяўленчае мастацтва – прасторавае, яно застаецца перад вачыма. Калі перад маладзёнам, які ўспрымае візуальную інфармацыю хутчэй, стаіць карціна, ён можа зрабіць дзякуючы гэтай карціне вялікія адкрыцці – магчыма, большыя, чым калі ён прачытае кнігу. Бо шлях інфармацыі да яго душы больш просты.

— Вы шмат працуеце з моладдзю, адначасова і з мастакамі, якія занятыя візуальнай інфармацыяй, і з журналістамі, якія прывучаны да інфармацыі вербальнай. Ці ёсць паміж гэтымі вашымі навучэнцамі розніца?

— У маладым пакаленні ёсць людзі, якія чытаюць кнігі, і ёсць людзі, якія менш чытаюць, але гэта не робіць іх менш адукаванымі, не замінае тонка і глыбока ўспрымаць рэальнасць. Іншая справа, што сапраўдныя мастакі, як правіла, людзі, звязаныя з усёй культурай, яны шукаюць у гісторыі тыя архетыповыя знакі і сімвалы, якія робяць шлях да спасціжэння свету яшчэ больш простым. Тут я заўжды прыводжу ў прыклад Густава Клімта — яго класічную кампазіцыю “Пацалунак”. Памятаеце, там плашч мужчыны затканы крышталічнымі прастакутнічкамі, а ў жанчыны — салярнымі знакамі, іх яшчэ называюць “вочкавы арнамент”. Тыя, хто бачыў арыгінал, кажуць, што ён уздзейнічае літаральна фізіялагічна. Якое ж было маё здзіўленне, калі на пачатку новага стагоддзя вучоныя змаглі, расчытваючы чалавечую генетычную інфармацыю, сфатаграфаваць тыя элементы, якія даюць мужчыну мужчынскае, а жанчыне жаночае. Мужчынскі элемент – ромбік, а жаночы – я нават некалькі разоў прыглядалася – нагадвае наш купальскі вяночак, васільковы… Мне пашчасціла выкладаць у Каледжы мастацтваў, дзе таленавітыя дзеці вучацца з дванаццаці гадоў, у Інстытуце журналістыкі і ў Акадэміі мастацтваў – то бок, маю шырокае кола таленавітай моладзі перад вачыма. І гэтыя дзеці літаральна на занятках здзяйсняюць адкрыцці.

## Нацыянальны “кайф”

— Але ў літаратуры можна выкарыстоўваць нейкія пазнавальныя элементы, скажам, архетыпы. Можа, яны для літаратуры і ёсць тая ўніверсальная мова, дзякуючы якой літаратурным творам лягчэй праставаць да іншых людзей, у тым ліку да замежнага чытача?

— Сучасная плынь у паэзіі намагаецца перадаць сутнасць праз рытміку. Тады можна разумець твор без перакладу. Мне гэта страшэнна падабаецца, бо я чалавек успрымальны. Таму і вучыла мовы з такой ахвотай — французскую, нямецкую, польскую, украінскую… Люблю арыгінал, люблю атрымліваць “кайф” ад рытмікі, спалучэнняў, адчуваць голас той зямлі, якой належыць пачутае слова. Так, гэта перспектыўна. Слухала нашых музыкаў-паэтаў — яны праз рытміку і слова даюць поўнае адчуванне нашай зямлі, ім пераклад непатрэбны.

— Мо тады і ўвогуле не трэба нічога перакладаць, а толькі — вучыць іншыя мовы?

— У беларусаў павінна быць беларуская мова. У мяне да мовы сакральныя адносіны. Кожная зямля нараджае сваю мову, нават дыялекты вельмі розняцца. Моўную рытміку, гэтаксама як рытм арнамента, задае навакольны пейзаж. На Брэстчыне пераважаюць раўнінныя краявіды, таму на заходнім Палессі можна пачуць такі малюнак: “Ці лілі алей у лілеі?” А калі пра Віцебшчыну гаворым, дык там іншае гучанне, якое апісваюць такой фразай: “Парсюк рабы храп'е есь”. Пра Магілёўшчыну чула такую фразу: “Пайшла каза ў ряхі, нашчіпала тры мяхі”. Гэта такая формульная перадача тых асаблівасцей, якія дае мове пэўная зямля. Гэтыя асаблівасці будуць і ў адзенні — у рытміцы арнамента, і ў танцах. Так, мой даўні сябар Мікола Козенка, даследчык танцаў, паказваў запіс танцавальных арнаментаў — не дзівіцеся, яны супадаюць з арнаментамі на ручніках і рытмікай мовы тых краёў. Тое самае па ўсім свеце. Кожны краявід адбіваецца на свядомасці. Скажам, раўніна дае на адзенні пасачкі — як на Брэстчыне, а лес, закрытая прастора — клетачку. Ужо не кажу пра цёплыя колеры на поўдні і халодныя, блакітна-шэрыя на поўначы. Каб пабачыць Беларусь, трэба паслухаць яе мову. Мы вось кажам пагардліва — трасянка. А трасянка Магілёва адрозніваецца ад брэсцкай. Беларус у моўную тканку не ўставіць слова, якое туды не кладзецца — не возьме, пакуль не адаптуе. У народзе працэс адаптацыі адбываецца натуральна. Калі ж у гэты працэс уключаюцца нібыта культурныя калектывы, дык атрымліваецца часта бескультурна.

## Крытык-павітуха

— На думку крытыка Юрыя Бурціна, функцыя крытыкі палягае ў перакладанні на мову грамадскай думкі вобразаў, створаных пісьменнікам. Вы часта выступаеце як крытык выяўленчага мастацтва. Атрымліваецца, выяўленчаму мастацтву ўсё ж патрэбны пераклад? Увогуле, ці розніца для вас крытыка рамана і карціны?

— Пачынала як тэатральны… не хачу казаць “крытык”, мне падабаецца як Таццяна Арлова, прафесар, ужывае – арт-журналіст. Затым пісала шмат пра народнае мастацтва, выяўленчае, нейкі час – пра кіно, тэлебачанне. Шмат і пра літаратуру – творчыя партрэты, артыкулы, рэцэнзіі. У часопісе “Мастацтва” працавала з дня яго стварэння. Заўжды хацела даць гледачу, чытачу ключ да разумення твора або творчасці пэўнага мастака, незалежна ад віду мастацтва. Калі ты адчуваеш мастака, можаш суаднесці яго вобраз з уласнымі пачуццямі альбо падзеямі свайго часу, то ты проста абавязаны дапамагчы іншым зразумець. Кажуць — ацэнка. Ацаніць твор не можа ніхто, і я катэгарычна супраць таго, каб ставіць твору плюсы альбо мінусы. Можа, менавіта таму, што імкнуся падабраць ключ да кожнага творцы, я і мела шчасце адной з першых “адкрыць” некаторых акцёраў — Зою Белахвосцік, Віктара Манаева, Генадзя Давыдзьку, Аляксандра Гарцуева… Быў у “Маладосці” артыкул “П'еса, якой няма” — за яго нават атрымала нейкую прэмію. Мастакі, якіх разгледзела адна з першых, — Рыгор Сітніца, Вячаслаў Паўлавец, Міхась Будавей. Яшчэ цікавей пісаць было пра тых мастакоў, чыя творчасць успрымалася на той момант неадназначна, як, скажам, Міколы Селешчука, Уладзіміра Тоўсціка і іншых. Пісала артыкул і пра пісьменнікаў, якія толькі-толькі пачыналі. Так, у той жа “Маладосці” ў адным артыкуле ў мяне фігуравалі Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў і Барыс Пятровіч. Канцэпцыя была “людзі на балоце”, вобразы Анатоля Казлова — гэта тыя жахі, якія хаваюцца ў самім балоце, у Федарэнкі ў цэнтры — балотныя людзі, а ў Пятровіча — тое мроіва, якое над балотам. Пра Аляксея Дударава пісала, калі ён яшчэ не быў класікам… Дарэчы, ён падштурхнуў мяне набрацца смеласці і апублікаваць свае апавяданні. Для літаратуры і добрай крытыкі няма часу – сапраўдныя творы пішуцца па вертыкалі: чытач можа быць у будучыні, герой у далёкім мінулым. ХХ ст. нас вызваліла ад ланцугоў прасторы – тэлефон, самалёт робяць адлегласць нязначнай. А час пакуль не пераадолены. Але існуе шмат фільмаў, кніг — прадчуванне, што і час мы вось-вось пераадолеем. І будзе ўсё роўна, колькі нам гадоў, памёр чалавек ці яшчэ не нарадзіўся. Прастору першымі пераадолелі літаратары, яны сталі весці дыялог, не зважаючы на адлегласці. І час пайшоў пераадольвацца ў вобразах. А вобраз мае магчымасць здзяйсняцца.

> У мастацтве побыт заўсёды ператвараецца ў быццё. Ёсць філасофія існавання, яна складаецца з побыту. У мастака побыт ператвараецца ў вобраз, а вобраз – гэта шлях да Бога.

## Крытык б'е ў званы

— Крытык Наталля Іванова лічыць задачай крытыкі знаходзіць з дапамогай літаратуры крызісныя з'явы ў грамадстве. Ці вы ў сваёй крытыцы спрабуеце намацаць такія болевыя кропкі, на якія ўказваюць мастакі?

— Абавязкова. Больш за тое скажу: самыя шчаслівыя правіцелі – гэта тыя, якія сябравалі з крытыкамі і мастакамі. Народ нельга пазбаўляць сілкавання для душы — гэтую нішу адразу займае шырпатрэб. Калі беларускі літаратар будзе выдаваць кнігі, а дзяржаўныя дзеячы — іх чытаць, дык творца пакажа на праблемы, нават і на шляхі да іх вырашэння. А ў дзяржаўнага дзеяча ў руках механізм ліквідацыі праблемы. Вось памятаеце, быў перыяд, калі замежнікі сталі масава ўсынаўляць нашых сірот. У мяне тады апавяданне было, “Душаловы”. З павагай стаўлюся да гэтых людзей, якія хочуць усынаўляць. Але гэта наша душа, наш народ у адказе. Цяпер спахапіліся, пачалі пісаць — ах, прапалі дзеці для краіны. А мастакі гэта адчулі першымі, яшчэ тады, калі ўсё можна было паправіць. Усё адно дзяржава прыйшла да таго, што трэба неяк тут ствараць умовы, заахвочваць сваіх грамадзян да ўсынаўлення. Вось каб прыслухаліся, як пісьменнікі тады білі ў званы, калі ўсё толькі пачыналася…

— А кніжку ж яшчэ трэба выдаць — у выдавецтвах гэта можа заняць гады, потым яшчэ чакай, пакуль кнігу прачытаюць…

— І мы вяртаемся да пераваг выяўленчага мастацтва: карціну напісаў — і паказаў. Крытыкі, арт-журналісты павінны актуалізаваць у друку самыя значныя творы літаратуры — вось выйшла апавяданне, людзі, паглядзіце, там вельмі важна, падумайце, што нам рабіць.

## Партрэт жанчыны на фоне сопель і карункаў

— У сакавіку 2010 у Мінску прайшоў Тыдзень сучаснага мастацтва. Адной з тэматычных магчымасцей, якія паспрыяюць развіццю мастацтва, філосаф і культуролаг Вольга Шпарага назвала зварот мастакоў да штодзённай рэчаіснасці. Як мяркуеце, для літаратуры такі зварот да побыту, да паўсядзённасці патрэбны?

— У мастацтве побыт заўсёды ператвараецца ў быццё. Ёсць філасофія існавання, яна складаецца з побыту. У мастака побыт ператвараецца ў вобраз, а вобраз – гэта шлях да Бога.

— Увесну ў сталіцы прайшоў дыскусійны праект “Жаночы досвед у грамадстве і літаратуры”. Дыскурсанты тады прыйшлі да высновы, што наша жаночая проза дасюль застаецца абмежаванай пэўным колам тэм — гэтак званым ККК (кіндэр, кірхэ, кюхэ) і пэўнымі жанрамі, пераважна малымі формамі, бо часу пісаць у жанчыны асабліва няма, як тут выбудуеш структуру рамана, калі трэба пялюшкі мыць. Ці адчуваеце вы, аўтарка прозы, якую-небудзь скаванасць у выбары тэм і жанраў?

— Ну, пісаць то і праўда няма калі… Але маё “Паляванне на Любаву (Хроніка часоў міжвер'я)”, надрукаванае ў “Маладосці”, — гэта, па сутнасці, раман. Малыя формы ўвогуле сёння ў фаворы — яны лягчэй успрымаюцца. Што да трох “К”. Жанчыне дадзена бачыць філасофію побыту. Перавага жанчыны — дэталь. Але кола жорсткіх мужчын, у якім я гадавалася як літаратар, прывучыла мяне да таго, што нельга ператвараць дэталі ў карункі. І бацька, і Пташнікаў у “Полымі” прывучылі мяне адсякаць усе соплі і слюні. Цяпер калі што прыношу, дык кажуць, нібыта ў мой твор не ўлезці. Бо я жорсткая сама з сабой, і я не назаву тое, што пішу, жаночай прозай. Увогуле такое размежаванне — мужчынская, жаночая, мне не падабаецца. Я пішу час. А хто яго героі — ад мяне нават і не залежыць, гэта тое, як кажуць, што Бог нашаптаў. Кожны творца з Богам гаворыць.

— Напэўна, гэта мы пабачым у вашай новай кнізе, якая рыхтуецца да друку пад назвай “Сакрамэнта”?

— Так, сакрамэнта, нешта сакраментальнае. Сакраментальнасць літаратуры і творчасці — гэта вялікае шчасце, якое ёсць у мастака, крытыка, арт-журналіста. Шчасце адкрыць душу свету і знайсці таго, хто цябе зразумее.

Гутарыла
Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ

Калаж Віктара Калініна




“Вожык”. Хто яго не ведае? Пачынаўся са знакамітага газеты-плаката “Раздавім фашысцкую гадзіну” ў 1941 годзе. Потым, пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, выданне стала часопісам сатыры і гумару. А з другога паўгоддзя 2009 года часопіс выходзіць як альманах, два разы на год.

У альманаху друкуюцца пастаянныя аўтары “Вожыка”, сярод якіх нямала вядомых айчынных творцаў — паэтаў і празаікаў, а таксама маладыя і пачынаючыя літаратары. Змяшчаюцца карыкатуры нашых вядомых мастакоў і ўсіх тых майстроў вясёлага пэндзля, хто на працягу доўгіх гадоў супрацоўнічаў з “Вожыкам” ці пачаў рабіць гэта зусім нядаўна.

Словам, “Вожык” — гэта байкі, вершы, гумарэскі, пародыі, эпіграмы, мініяцюры, апавяданні, п’есы, сцэнкі, прыпеўкі, карыкатуры, панарамные малюнкі, коміксы — усё тое, што завецца сапраўдным беларускім гумарам… Таму чытайце, пішыце, малюйце, усміхайцеся і — не забывайце падпісвацца на “Вожык”!..

Павел САКОВІЧ

## Эпіграмы як рэкламы



Андрэй Федарэнка

Нарэшце ты разбагацеў:
Ажно “Тры талеры” займеў!
Каб не было тут з імі гора,
Мо за “Мяжу” іх, у афшоры?
Набудзеш там калі не вілу,
Дык родныя з маленства вілы!

Леанід Галубовіч

Хоць часам тлумна ў “Кулуарах”
Аднак без лішняга базару,
Бо літпрацэс тут — паказальны! —
Вядзе адзін суддзя, ЛЕГАЛЬны.

Уладзімір Мазго

На любыя здатны цуды,
Абхітрыў ён Пасейдона:
І злавіў на «Цуда-вуду»
Не русалку — Купідона!

## Адкрыцці

Гумар — не грошы, яго ў суседа не пазычыш.

Апошні крык моды перашкаджае спаць многім жанчынам.

Няма горшага свінства, чым свіны грып.

Аматары выпіўкі хутка становяцца прафесіяналамі.

Часта жанчын носяць на руках з-за прыгожых ног.

Барыс КАВАЛЕРЧЫК,
г. Гомель

Мы заўсёды цвёрда перакананы ў сваіх сумненнях.

Рог дастатку не гарантуе здаровага стрававання.

Калі прыйшоў да варожкі, рыхтуйся шчодра аплаціць сваю будучыню.

Ні адзін дзяцел не зваліў яшчэ дрэва: цяжка думаць і дзяўбці адначасова.

Прыемнае ўражанне можа выклікаць не толькі чалавек, але і яго адсутнасць.

Андрэй МАЦУР,
Пастаўскі раён, в. Коўзаны

Базыль ХІЗАВЕЦ

## Два Барабаны

Байка-карацелька

Вялікі Барабан
Перад малым
Хваліўся талентам сваім:
— Я гучны! Не такі, як ты!
— Няўжо дагэтуль
Ты не ўцяміў,
Што ў большым барабане
Болей пустаты?..

Казімір КАМЕЙША

## Незадаволены

Жонка скардзіцца: “Пятро
Мне даўно ад’еў нутро.
Быццам сам ён непад’еты
І вару я ўсё не ў смак.
Гэта ўсё яму не гэтак,
Ну а тое ўсё — не так.
А як чарку сцебане,
Маты гэтакія гне.
І тады ўжо ад Пятра
Не чакаю я дабра”.

Ну якое там дабро,
Дзе жыве такі Пятро?!




Малюнак Алега ГУЦОЛА




Малюнак Пятра КОЗІЧА

Міхась МІРАНОВІЧ

## Міранізмы

### Бацькі і дзеці

У жыцці
Заўжды падзел такі:
Не даюць
Спакойна жыць на свеце
У палову першую —
Бацькі,
А ў другую палавіну —
Дзеці.

### Ваяж

Калі ў рукі бяру
Саквояж,
Дык ахвота
Падацца ў ваяж.
Калі ж торба
Мне ў рукі папала —
Тады цягне
У вёску па сала.

### Святло і агонь

Калісьці пры лямпах,
А то — пры лучыне
Навуку жыцця
Мае продкі вучылі.
Я шмат у чым іх,
Мабыць, не даганю —
Святла зараз болей,
Ды меней агню!

### Заканамернасць

Хто назіральны,
Дык тады
Заканамернасць
Прыкмячае:
Разумны
Вучыцца заўжды,
Дурны —
Заўжды ўсіх павучае.

г. Віцебск




Малюнак Алега ГУЦОЛА



Малюнак Алега ПАПОВА



Малюнак Міколы ПРГЕЛЯ

Міхась СЛІВА

## Боршч для мужа

Гумарэска

— Алё, Толя! Слухай, я ўжо еду дадому. Успомніла, што табе на вячэру боршч абяцала. Але ж раніцай толькі на працу і паспела сабрацца, больш нічога не зрабіла. Добра яшчэ, што хоць мабільнік не забылася ўзяць з сабою… Не хвалюйся, я хутка буду, прыгатую табе боршч. Ты толькі дастань мяса з халадзільніка і пакладзі ў каструлю, хай варыцца. Усё ж хутчэй будзе. Я хутка!..

— Алё, Толя! Мяса там ужо, відаць, уварылася? Дык ты, каб час не губляць, бульбы пачысці да паржэ… Ага, і капусты таксама пакрышы. Яна ў халадзільніку ляжыць. Морквы яшчэ натры… І цыбулькі дадай! Ага, калі вялікая, хопіць і адной. Я еду!..

— Алё, Толя! Як там мой боршч? Усё зварыласся?.. Колькі солі сыпаць? Ды я сама пасалю. Ужо з аўтобуса выходжу! Налівай боршч у талеркі. Ага, пакладзі яшчэ кропу і пятрушкі трохі. І смятаны не шкадуй!..

— Прывітанне, Толя! Ну вось бачыш, і боршч гатовы, а ты хваляваўся. Я ж табе абяцала, што звару! Смачна есці!..

г. Рагачоў

## Вясёлы слоўнік

Абабак — жанаты мужчына.
Асалавець — наесціся сала.
Барабас — спявак у бары.
Барбос — гаспадар бара.
Бардзюр — уваход у бар.
Барометр — бармен.
Гаўрыла — бульдог.
Гуляш — абібок.
Дамавіна — заўзятарка віна.
Дзяк — ветлівы чалавек.

Міхась ДУБОВІК,
Бярэзінскі раён, в. Арэшкавічы

## Кажуць студэнты…

“Дзяцей у яго не было, таму ўсю ўвагу ён аддаваў унукам”.
“Цяжарнай жанчыне забаранялася размаўляць з нябожчыкам”.
“Міхалка служыў у Скуратовіча прарабам”.
“Аліндарку пасадзілі ў турму таму, што ён хацеў адкасіць ад арміі”.
“Студэнтцы Каранкевіч за тое, што яна адзначала дзень нараджэння без дазволу дэканата, аб’явіць вымову” (з распараджэння дэканата).
“Запісвайце на дошцы дамашняе заданне, але непрыкметна, каб вучні не бачылі” (з кансультацыі выкладчыка).

Запісаў Сяргей УКРАІНКА, г. Магілёў

№ 40 8 кастрычніка 2010 г. ЛіМ

Крытыкі сталага веку любяць упікаць маладых аўтараў за нежаданне працягваць традыцыі беларускай літаратуры, звычайна не ўдакладняючы, з якога комплексу тэкстаў якія традыцыі выводзяцца і якія прыёмы класікаў зрабілі б творы сучасных пісьменнікаў больш дасканалымі. Таму пажаданне згадаць пра традыцыі звычайна разумеецца як парада адмовіцца ад метафарычных і жанравых вычварэнстваў, звярнуцца да эпічнай шырыні Якуба Коласа ці да нацыянал-рамантызму, засяродзіцца на прыродзе, на сацыяльным ды гуманістычным. Але ў беларускай літаратуры ад пачатку суіснавалі розныя творчыя манеры, і калі волат Якуб Колас быў рэалістам, то ранняю творчасць Змітрака Бядулі даследчыкі разглядаюць як імпрэсіяністычную. У рэчышчы ж імпрэсіянізму і цяпер працуе шмат хто з маладых аўтараў...



# Імпрэсіяніст і майстар шыфраванага пісання

Дзякуючы адмысловаму псеўданіму і наяўнасці адпаведнай вуліцы ў цэнтры сталіцы пра Змітрака Бядулю памятаюць нават тыя, хто не дужа ахвотна наведваў школьныя ўрокі літаратуры. Аднак можна з дзяцінства чуць прозвішчы вялікіх пісьменнікаў, чытаць некаторыя іх творы, ведаць асобныя факты з біяграфіі і пры гэтым не мець канкрэтнага ўяўлення пра ўвесь жыццёвы шлях класікаў ці дынаміку іх творчага развіцця. Каб пераканацца ў гэтым, можна паспрабаваць згадаць хоць якія факты з "сярэдняга" этапу жыцця Гётэ ці Пушкіна — і, верагодна, нічога большага за гістарычны кантэкст ці некалькі агульных фраз у галаву не прыйдзе. Правіла краю дзейнічае нават у біяграфіях… Так і Змітрок Бядуля — імя для ўсіх знаёмае, а дзе працаваў, з кім ажаніўся, колькі меў дзяцей?..

Самуіл Плаўнік нарадзіўся ў 1886 г. (на чатыры гады пазней за Івана Луцэвіча і Кастуся Міцкевіча), але наўрад ці яго 125-ы юбілей будзе святкавацца гэтак жа маштабна, як угодкі Купалы і Коласа ў 2007 г. Зрэшты, Змітрок Бядуля не меў звання народнага пісьменніка Беларусі, дый гэтая самая народнасць напачатку не была галоўнай у ягонай творчасці. Стылем, аўтарскай задачай, жанрамі і праблематыкай сваіх твораў Змітрок Бядуля значна бліжэйшы да Вацлава Ластоўскага, чым да Якуба Коласа ці Янкі Купалы. І Ластоўскі, і Бядуля мелі адмысловы ўласны стыль, распрацоўвалі розныя жанры малой прозы, дзе закраналі часцей філасофскія, чым сацыяльна-палітычныя праблемы, не ставілі глабальных мэтаў "з цэлым народам гутарку весці", затое дазвалялі сабе больш суб'ектыўнасці і індывідуалістычнасці. Абразкі і мініяцюры гэтых пісьменнікаў — творы алегарычныя, якія маюць глыбокі падтэкст, прываблiваюць трапнымі аўтарскімі метафарамі. І Ластоўскі, і Бядуля ашчадней карысталіся сродкамі народнай паэтыкі ў параўнанні з Коласам і Купалам. Разам з тым, абодва цікавіліся беларускай гісторыяй, фальклорам і міфалогіяй...

Творчую манеру ранняга Змітрака Бядулі даследчыкі лічаць імпрэсіяністычнай — і сапраўды, у яго вершах, мініяцюрах, абразках галоўным чынам фіксуецца ўражанне, імгненнае адценне індывідуальнага ўспрымання. Імпрэсіянізму ўласцівая няпэўнасць эмоцый, сузіральнасць; пасіўнае ўспрыманне ўражанняў пераважае над актыўнай лагічна-ідэйнай іх перапрацоўкай у звязаную сістэму, шырокую і завершаную карціну жыцця. Вынік — адмова ад аб'ектыўнасці, абагульнення, ідэі, завершанасці, сцвярджэнне прыватнага і нязначнага.

Паэзія імпрэсіяністаў шукае маляўнічых матываў, максімальнае значэнне ў ёй набывае пейзаж, прычым прырода выяўляецца ва ўражанні ад яе. Замест звязнай распрацоўкі прадмета як цэлага імпрэсіяніст дае імгненнае агульнае ўражанне ад яго альбо некалькі моцных дэталяў. Таму пейзажны верш Змітрака Бядулі — гэта буйныя мазкі, некалькі трапных метафар і заўсёды своеасаблівы настрой:

Пад асенняй віхурай над хатаю
Ноч мільгае вялізнаю рыбай,
Адарванай галінкаю кратае
Цёмна-сінюю мокрую шыбу.
Па траве дождж шапоча і шастае,
Пад страхою шукае прыпынку (...)
("Восень", 1911 г.)

Для Якуба Коласа ж апісанне прыроды ў вершы – гэта пералічэнне элементаў пейзажу з пазначэннем іх стану і суразмешчанасці. У такіх апісаннях Колас імкнецца да аб'ектыўнасці, стварае як мага больш поўную, дакладную й пазнавальную карцінку — як у вершах "Вёска", "Будзе навальніца", "Ручэй", шматлікіх вядомых урыўках з "Новай зямлі":

Я бачу роўныя пакаты
Палёў за Нёмнам і іх шаты,
Аўсоў палоскі, лавы жыта,
Што мора золатам разліта;
І грэчак белыя абрусы,
І лесу два крылы, як вусы,
І цёмны роў, вадой прабіты,
Такі зацяты і сярдзіты;
Ядлоўцаў шэрыя аблогі,
Дзе белы мох, сівец убогі (…)

У пейзажнай лірыцы Коласа — заўсёднае захапленне веліччу і прыгажосцю прыроды. У Змітрака Бядулі ж кожная з'ява прыроды робіцца непаўторнай, нясе свой настрой. Бядуля спрабуе розныя віды рыфмоўкі, шырока эксперыментуе з метрам верша: апроч ямба піша харэем, анапестам, будуе вершы па арыгінальных рытмічных схемах. Для гэтага паэта ўласцівая і павышаная ўвага да матэрыі верша, яго гучання, памкненне да выяўлення псіхалагічнага стану не толькі праз апісанне, але і праз інтанацыю:

То не хаты, а курганы.
То сляды вялікіх станаў.
То не дрэўцы на мяжы —
Крыжы... крыжы...
Адзінокія магілы,
Маладыя нашы сілы.
Стрэл глушыў апошні стогн —
І сон... І сон... (…)
І куды ні кінеш вокам, —
Ці то блізка, ці далёка, —
Свет курганамі багат.
Іх шмат... Іх шмат...

("То не хаты…", 1916 г. — адзін з лепшых беларускіх вершаў, напісаных на тэму Першай сусветнай вайны).

Што ж датычыцца твораў малых празаічных жанраў, то тут трэба вылучыць філасофскія абразкі "Ратай", "Акорды мора", "За праўду", і глыбока псіхалагічныя творы, дзе пісьменнік вельмі напружана ўслухоўваецца ў сябе: "Прытуліся ка мне", "На досвітку". Чытаючы ранняга Бядулю ніяк немагчыма ўявіць, што гэты тонкі, датклівы, уважлівы да кожнага нюансу настрою паэт будзе аўтарам бляклага, тэндэнцыйнага, тыповага па сюжэце рамана "Язэп Крушынскі"...



Малюнак Алесі Ісы

У гэтай кнізе пісьменнік па патрабаваннях часу выдае за злачынствы самыя натуральныя ўчынкі, выкрывае Інбелкульт як гняздо нацыяналістаў, варожых савецкай уладзе. У непрывабным "чалавеку з вачамі сфінкса", які "за сваё жыццё начытаўся шмат твораў аб падзямеллях, аб грабніцах егіпецкіх фараонаў … аб падземных ходах старасвецкіх князёў", "любіў незвычайныя абставіны і містыку, верыў у забабоны" чытач без цяжкасцей пазнае арыштаванага ў 1930 г. былога прэм'ер-міністра БНР В. Ластоўскага, да якога Змітрок Бядуля, пэўна, ставіўся калісьці са значна большай павагай... Верагодна, "Язэпам Крушынскім" пісьменнік выкупаў сваю (адносную) свабоду і нават жыццё. Бо за вершы кшталту "Беларусь" ці "Паходні", за антыкалектывісцкія пасажы: "Ён іх (крыжыкі, якімі распісваецца) пазнае так, як пазнае сваю касу, пугу ці свой воз паміж іншымі такімі ж прыладамі гаспадаркі. Ён іх пазнае так, як чалавек пазнае сваю авечку ў вялікім стадзе чужых авечак…", — можна было лёгка трапіць за краты з абвінавачваннем ва ўдзеле ў СВБ…

Праўда, некаторыя сітуацыі ў рамане да такой ступені абсурдныя, што немагчыма ўявіць, каб пісьменнік канстатаваў іх, не маючы за мэту выклікаць крытычнае ўспрыманне ў чытача. Так, складана вызначыць літаратуразнаўчую вартасць крытычнага артыкула, поўнага заўваг кшталту: "Гэта не галасы палёў, а галасы кулакоў". "Аб чым паэт сумуе, аб чым лье горкія слёзы? Сум яго — сум кулака. Слёзы — плач класавага ворага, які адчувае сваю немінучую пагібель".

Дзіўна чытаць і пра тое, як стары Цыпрук "пробаваў гаварыць з сынам, аб тым, што каня трэба прадаць ды маладзейшага купіць, што сенакосу малавата, што таго-сяго ў гаспадарцы не хапае", а камсамолец Мікола ў адказ на расповед пра натуральныя гаспадарчыя клопаты раззлаваўся: "Я разумею цябе, тата. Хочаш быць маленькім кулачком".

Надта казачным падаецца жыццё ў сельскагаспадарчых камунах: агульная сталоўка для ўсіх камунараў, дзе дзейнічае рэкламная акцыя "Кожнаму госцю — вячэра бясплатна", штовечаровы адпачынак — чытанне газет і абмеркаванне сацыяльна-палітычных пытанняў пад трыумфальны "Грыбны вальс" — амаль як у вершы Янкі Купалы "Вечарынка"…

Здаецца, Змітрок Бядуля свядома перабольшваў, маючы мэтай звярнуць ўвагу чытача на недахопы і абсурдныя з'явы тагачаснага жыцця, на няслушнасць пануючага мастацкага метаду. Не марнасловіў жа пісьменнік, сцвярджаючы ў аповесці "Салавей": знішчыць у мастака "самародкавае адчуванне меры" — "праступак перад мастацтвам". А прынцыпы сацрэалізму вымагалі ад пісьменніка менавіта адмовы ад уласнага густу і адчування сувымернасці. Нездарма ж,

Стылем, аўтарскай задачай, жанрамі і праблематыкай сваіх твораў Змітрок Бядуля значна бліжэйшы да Вацлава Ластоўскага, чым да Якуба Коласа ці Янкі Купалы. І Ластоўскі, і Бядуля мелі адмысловы ўласны стыль, распрацоўвалі розныя жанры малой прозы, дзе закраналі часцей філасофскія, чым сацыяльна-палітычныя праблемы, не ставілі глабальных мэтаў "з цэлым народам гутарку весці", затое дазвалялі сабе больш суб'ектыўнасці і індывідуалістычнасці.

пэўна, крытык Антон Адамовіч лічыў Самуіла Плаўніка "вялікім майстрам метаду шыфраванага пісання"! Цікава было б паспрабаваць "дэкадзіраваць" творы Бядулі, узяўшы за ключ абставіны яго біяграфіі, як зрабіў гэта Георгій Колас з вершамі Янкі Купалы ў кнізе "Карані міфаў"…

Праўда, з залішняй прыхільнасці ці пашаны да аналізуемага аўтара літаратуразнаўцы часцяком фантастычна дадумваюць твор і з выпадковага збегу слоў выводзяць такія падтэксты, якіх пісьменнік нават не ўяўляў. Фактычныя ж мастацкія здабыткі вартыя ўвагі не менш, чым зашыфраваныя: іх каштоўнасць уразіць кожнага чытача. Таму, безумоўна, у творчасці Змітрака Бядулі варта вылучыць аповесць "Салавей", храналагічна першую ў параўнанні з "Язэпам Крушынскім" (даты публікацыі, адпаведна — 1927 г. і 1931 г.).

Сучаснага чытача адразу ўразяць першыя старонкі аповесці: выключная вобразнасць, нязвыклая для беларускай літаратуры атмасфера — паўпадвальны пакой, прадмесце, званы, старыя панны, што гутараць пра "пончыкі з кавай"… Так маглі б пачынацца дзясяткі ненапісаных беларускіх урбаністычных раманаў пачатку стагоддзя — накшталт "Злачынства і пакарання", — дзе яшчэ не было б "комуністых" і кулакоў, і пісьменнікі распрацоўвалі б уласныя, вынайдзеныя тэмы, а не стваралі агулам нацыянальную эпапею калектывізацыі і барацьбы з несвядомымі.

Некаторыя літаратуразнаўцы лічаць першыя тры падраздзелы непатрэбнымі, бо неабходнасць кампазіцыйнай "рамкі" выклікае ў іх сумнеў. Магчыма, яны пісаліся дзеля некалькіх асабістых заўваг аўтара:

"Ад усяго палаца, хоць ён быў заселены рабочымі, веяла непрытулам. Не гарманавалі сасновыя сталы, даўгія лавы і простыя ложкі з вялізнымі высокімі пакоямі";

"Панская культура, безумоўна, мела сваё хараство, але гадавалася на нявольніцкім карку мужыкоў. Міжволі носіш у сэрцы такое пачуццё да гэтае культуры, якое мелі да яе тыя, хто з дзікімі ад злосці вачыма нішчылі панскія маёнткі сабе на ўрон".

"Высокія" і "міжволі" можна лічыць ключавымі словамі ў гэтых цытатах…

Патрэба намякнуць на ўласнае стаўленне да праблемы была бясспрэчна актуальная для Бядулі, бо пісьменнік быў вымушаны некалькі разоў перапрацоўваць аповесць, дадаючы сацыяльнай вастрыні. Да першапачатковага варыянту былі дапісаныя самыя жорсткія і самыя гераічныя пана-прыгнятальніцкія і сялянска-змагарніцкія часткі, фінал жа твора ўвогуле "прышыты белымі ніткамі": расправа над панам Вашамірскім і з'яўленне чорта ў яго маці сталі магчымымі, бо ў пушчы, дзе збіраліся бунтары-сяляне, дзіўным чынам знайшліся грым і вопратка для былога акцёра Сымона-Салаўя.

Галоўным чынам уражвае тое, што "Салавей" — першы буйны празаічны твор у беларускай літаратуры, прысвечаны тэме творчасці. У першай палове XX стагоддзя роўны яму — толькі "Сымон-музыка" Якуба Коласа. Да таго ж, у час чытання старонак аповесці з апісаннем балю згадваецца свята пастрыжэння Алеся Загорскага ў падлеткі з "Каласоў пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча. Ёсць нешта блізкае ў іранічнай манеры выкладання, у абмалёўцы персанажаў…

Праўда, ў Караткевіча значна больш герояў кшталту Бядулевага Завішшы — дасціпнага, праніклівага шляхціца, які выдатна ўсведамляе, што "паны — дурным гонарам і распустай, а ксяндзы — фальшам і хціваcцю" загубяць Радзіму. А закінуты флігель авальнай формы з аповесці стаў у "Каласах…" карцінным павільёнам. Верагодна, у час стварэння рамана на Караткевіча пэўным чынам паўплываў "Салавей" Змітрака Бядулі — прынамсі, з беларускай літаратуры першай паловы XX ст. складана згадаць больш блізкія па тэматыцы і стылі творы. А рака не можа быць без прытокаў…

Тэма творчасці (у самых розных аспектах) з'ўлялася вельмі істотнай для Змітрака Бядулі, хаця галоўнымі ў той час, як вядома, павінны былі быць зусім іншыя праблемы і героі. Аднак тэма творчасці прысутнічае і ў аповесці "Салавей", дзе пісьменнік апісвае стварэнне прыгоннага тэатра, і ў рамане "Язэп Крушынскі", і ў аўтабіяграфічнай аповесці "У дрымучых лясах". Ёсць і яшчэ адна тэма, на якую амаль манапольна пісаў Бядуля, — анансаваць яе нярварта, бо чытач здатны і сам адгадаць… Разгляду гэтых тэм, а таксама параўнанню аповесці "У дрымучых лясах" з паэмай "Новая зямля" Якуба Коласа будзе прысвечаны наступны артыкул.

Алеся ЛАПІЦКАЯ



Леапольд Стаф (1878 — 1957) — класік польскай паэзіі. Пачынаў як сімваліст-містык, прыхільнік Ф. Ніцшэ. Пазней выпрацаваў свой уласны стыль, у якім спалучалася культура польскага сіла-ба-танічнага верша XIX ст. і тагачасная еўрапейская традыцыя. Напрыканцы жыцця стаў выступаць і як верлібрыст. Аўтар дзясяткаў паэтычных кніг. На беларускую мову найбольш перакладаўся Алегам Мінкіным.

## Хвіліна

Ужо мінае?.. Прамінула?..
Мне не ўтрымаць тут ні хвілінкі,
Як быццам ветрыкам дзьмухнула,
Шэдэўры знікнуць як хмурынкі.

Хаця ўсё будзе тут змяняцца:
Хвіліны, дні, набыткі, страты...
Ды ў рэчках будуць зноў купацца
На змену: зоркі і дзяўчаты.

## Малітва

Ратуй жа, мой Божа,
душы маёй квецень
Ад чорнай патравы
на гэтым вось свеце.
Каб нават на той,
на апошняй вячэры
Я чуў яе водар у прыцемку шэрым.

Няхай на крыжы я распяты канаю,
Не бачу я сонца, нічога не маю.
Тады мне хай вера, о маці Марыя!
У далечы цёмнай свет новы адкрые.

## Самотнасць

Кудою ж ісці мне самотнаму ў зморы,
Спытаць у каго мне
дарогу праз горы?
Якія ўзняліся пагрозліва, строма,
Звярамі ліхімі ляжаць нерухома.
Мне скалы закрылі наперадзе, ззаду
Ад зроку самотнага шыр далягляду.
І мелася выйсці
з халоднай цясніны
Насустрач дзяўчына,
каб шлях да даліны
Мне тут паказаць
у каменных завалах,
Мяне выглядала на мёртвых абшарах.
Ды я прыпазніўся — не бачу нікога,
Надходзіць змярканне,
а з ім і трывога.
Не выйду з бязлюдных
цяснін гэтых мглістых,
Не ўбачу прастор
я і ўсход прамяністы.
Я тут застануся
над горным азерцам,
А свет? — ён не большы
за нашае сэрца.
Памру я ў пустыні,
ды ў час гэты горкі
Прысяду на камень.
Чакаць буду зорку.

## У восень

Апошняй барвай лісце грае,
Злятае мякка, ціха долу,
А з ім спакойна затухае
Ўсё тое, што не ўмерла ў пору.

Пагодны вечар улагодзіць
Сумненні горкія і думы,
І ў сэрца міласціва сходзіць
Такая радасць, што аж сумна.

## Змярканне

У вокнах далёкіх заход
сотню сонцаў народзіць.
У сад наш змярканне
крадзецца паціху, як злодзей...
Прыціхне фантан...
Мы з табой пасля доўгай разлукі
Сустрэліся сёння,
сплятаюцца нашыя рукі...

Замоўклі ўсе птушкі
і дрэвы шум лісця прыглушаць...
Цішэй яшчэ ў нас...
Мы заходзім у нашыя душы...

## Нядзельны ранак

У сонечным ранку нядзельным
Пустыя шляхі над азерцам,
І свет гэты бачу бы ў сне я,
Як быццам адбіты ў люстэрцы.

І святасць вось гэтай гадзіны
Змяняе зямныя абшары.
Блакіт насычаюць нябесны
Чароўныя боскія мары.

На лес, на сады, агароды,
На хаты схаваныя ў вецце
Сплывае анёльска пагода
І мір добрым людзям на свеце.

Ці мне падаецца, ці бачу?
На ціхім шляху апусцелым,
Што хтосьці з галінкаю пальмы
Там едзе на восліку белым.

## Адысей

Няхай тут цябе не хвалююць
Памылкі твае і цярпенне,
Усюды дарогі прастуюць,
Ды ўсюды падман і сумненне.
Надзеяй прывіднай сагрэты
Ляціш ты наперад стралою,
Ды потым знаходзіш сябе ты
Не там, куды рваўся душою.

Ці многа ў жыцці мы паспеем?..
Тут ляжа пад камень усякі,
Бо кожны з нас ёсць Адысеем,
Што імкнецца да роднай Ітакі.

## Радасць

Ці можна аддзячыць
за ўсё Табе словам,
За ўсё, што мне даў,
не пакінуў самотным,
Хоць госцем я быў
тут зусім выпадковым —
Вяселле Тваё не пакіну галодным.

Хай восень мая пазалоціць дубровы,
Надыдзе мой вечар —
лагодны, прыгожы...
І з сэрца майго вырываюцца словы:
"О дзякуй, о дзякуй,
ласкавы мой Божа!".

Душу не гнятуць
мне ні боль, ні трывога
І жаль па мінулым вачэй не замуціць.
Я ў радасці ціхай
не прагну нічога,
Ды толькі мне дзіўна,
што радасць засмуціць.

## Кахаць і губляць

Кахаць і губляць,
і прагнуць шкадуючы,
З тугою радніцца
і з палкім агнём.
І падаць, і ўскокваць
ізноў рызыкуючы,
Здаецца не многа, ды тым і жывём.

Шукаць у пустыні
чароўныя кветкі
А цуд прыгажосці
ў балотнай рудзе,
Каб толькі па нас засталіся, як сведкі
Сляды на пяску і кругі на вадзе.

Пераклаў з польскай
Сяргей Сцяпан

## НАХУЦРЫШВІЛІ



Гага Нахуцрышвілі — сучасны грузінскі лірык. Публікаваўся ў літаратурных выданнях Грузіі, удзельнік шэрага міжнародных паэтычных фестываляў.

## Сумнеў

Вільгаць начэй ходзіць за мной кругамі.
Не кажыце мне толькі, што вам спатрэбіўся Гамлет,
што дагэтуль верыце ў праўду
і марыць маеце прагу.
Уночы вільгаць ізноў разгарыцца.
Ён мог быць прынцам ці рыцарам,
ён мог сабе нагадваць і Бога з прычыны
таго, што быў ці не быў, магчыма.
Новыя ідэалы так лёгка сцерці.
Пабачыш, людзі з тваёй пацешацца смерці,
знойдуць адказ і прамовяць: ён быў вар'ятам!
І жыццё са страхам ідзе, праклятае.
Навошта змагаешся тут з сабой ты?
Сумнеў адно пераможа у гэтай бойцы.
Вакол баязліўцы. І тая жанчына,
што па табе заплача, — няшчырая.
Бо рэчаіснасць губляе колер,
таму працяг зразумелы даволі —
баюся, ў сумленні пад гэтым небам
болей няма патрэбы,
Планета знасіла сваю арбіту.
Ён быў ці не быў? Нібыта.

## Элегія звычайнага дня

Сочинил же какой-то бездельник...
А. Ахматава

Я пасталеў, мяне не праймаюць слёзы спадарынь.
Падышоў да фіналу раман, расфарбаваны нясмела —
баюся, яго прыдумаў нейкі няздара,
не разумеючы, што жыццё — чорна-белае.

Я вярнуўся ў кватэру, дзе я
жыву, раздражнёны прытворствам свету —
я больш не выйду пад дождж з надзеяй,
я больш не жадаю спраўджваць дзіцячыя мэты.

Я ж ніколі не жыў як свіння у брудзе —
я разумею гэта цяпер. І ў небе няма аблокаў —
дзень як дзень, шараговы будзень,
нават тыя, каго я кахаў, — далёка.

Я пасталеў, мяне не праймаюць слёзы спадарынь.
Падышоў да фіналу раман, расфарбаваны нясмела —
баюся, яго прыдумаў нейкі няздара,
не разумеючы, што жыццё — чорна-белае.

## Зімовы веер

Нават калі б хаваць грахі не было ў манерах,
ты ўсё адно хавалася б за свой зімовы веер,
казала б: пакінем веру і рай у спакоі,
давайце ўспрымаць жыццё як такое.

Нават калі б усе драмы і жарсці зніклі аднойчы,
мы ўсё роўна пабеглі б гуляць пад дажджом уночы,
усё роўна вадар ападкаў хацелі б займець і
ўсё роўна глядзелі б у твары жыцця і смерці.

Нават калі б легенд і паданняў
не існавала б у прынцыпе,
мы адшукалі б месца
абсурднай казцы з прынцамі,
што прыгажунь ратавалі б з вязніцаў
і ўпрыгожвалі б космас шматкаляровымі ніцямі.

Нават калі б не было зімы і холаду лютага,
мы ўсё адно п'янелі б ад снегу бялюткага
і жылі б мы, каб некалі пастарэць, і
нямая магіла б нам спявала аб смерці.

Нават калі б хаваць грахі не было ў манерах,
ты ўсё адно хавалася б за свой зімовы веер,
мела б прычыны быць вельмі самотнай і лёгка
абрала б лепей памерці, чым быць адзінокай.

## Дзіўная зіма

Так дзіўна,
зіма не намякне на свой працяг,
і пазяхнуць над — дзіўнай! — Бібліяй дзяўчаты.

Так дзіўна,
што напрыканцы жыцця
ты на яго глядзіш пачатак.

Так дзіўна,
лівень сціхне пры нагодзе,
і ты не зведаеш імя надзеі.

Так дзіўна,
што твая зіма сыходзіць,
а ты і не заўважыў, ці было на ёй адзенне.

Пераклад з грузінскай Віталя Рыжкова

Правядзенне Дзён польскай культуры ў гарадах і мястэчках Мінскай вобласці стала ўжо добрай традыцыяй. Першы такі фестываль адбыўся ў Стоўбцах у 2006 годзе. Наступным годам свята прымаў Валожын. Пасля былі Нясвіж і Маладзечна. Надышла, чарга і да Івянца, мястэчка ў якім значная частка насельніцтва шануе польскія традыцыі і культуру.





# Вясёлае свята вясёлых людзей



Маленькі Івянец, увесь абсаджаны восеньскімі кветкамі і ахутаны іх дурманлівым пахам, прымаў гасцей і ўдзельнікаў пятага па ліку, юбілейнага фестывалю. Чалавек, які хоча жыць, зважаючы ўсе свае ўчынкі са Словам Божым, нічога значнага не распачне без благаславення Нябёсаў. Таму і Свята польскай культуры стартавала каля храма. Івянецкі касцёл Святога Міхаіла запрасіў удзельнікаў на ўрачыстую імшу, пасля якой журналісты сабраліся ў зале пасяджэнняў Івянецкага гарпасялковага выканкама на прэс-канферэнцыю. У гутарцы з журналістамі прымалі ўдзел старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барыс Батура, упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка, старшыня Грамадскага аб'яднання "Саюз палякаў на Беларусі" Станіслаў Сямашка і старшыня Мінскага абласнога аддзела гэтай арганізацыі Міхаіл Лысый. Пра што ж распавялі яны?

Пра тое, што наяўнасць такога фестывалю ў Беларусі мусіць рабіць гонар нашай дзяржаве. Бо ні ў суседняй Польшчы, ні ў Германіі, дзе насельніцтва таксама нацыянальна неаднароднае, не праводзіцца на дзяржаўным узроўні нічога падобнага ў адносінах да прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей. Было падкрэслена таксама, што Дні польскай культуры – свята, якое рыхтуецца не толькі і не столькі для беларускіх палякаў. Яно для ўсіх, талерантных і добразычлівых людзей, якія суіснуюць у агульнай дзяржаве, разам працуюць і сябруюць, не пытаючыся ў суседа, якой ён нацыянальнасці, ці то хто ён па веравызнанні. Хіба не прыйдзеце вы ў хату да лепшага сябра свайго, калі там гучаць святочныя спевы?

Згодна з апошнім перапісам насельніцтва, у Беларусі жывуць 294 тысячы, у Мінскай вобласці — дваццаць дзевяць з паловай тысяч палякаў. Ці можна сказаць, што пры такой колькасці яны ніяк не ўплываюць на побыт беларускіх сем'яў, сем'яў іншых нацыянальнасцей? На развіццё беларускай культуры? На фармаванне нашых традыцый? Але і пражыванне палякаў на Беларусі накладае адбітак на іх жыццё. Не кожны ведае польскую гісторыю; асіміляюцца, змешваецца з беларускім фальклор нашых палякаў; забываецца родная польская мова. Каб гэтага не атрымалася, вырашана было стварыць у тых рэгіёнах Беларусі, дзе найбольш шчыльна пражывае польскае насельніцтва, Дамы паляка. У такіх дамах (а іх 19 па ўсёй краіне) юныя і ўжо цалкам дарослыя людзі вучацца размаўляць і пісаць па-польску, удзельнічаюць у спецыяльна створаных гуртках народнай і мастацкай творчасці. У апошнія гады намаганнямі Саюза палякаў на Беларусі ўзнікла дзевяць творчых калектываў. Сярод іх — Барысаўскі ансамбль песні "Пшыяцелі", дзіцячы ансамбль польскай песні і танца "Польскія квяты" з Валожынскага раёна, жаночая вакальная група "Згода" з Нясвіжа, ансамбль польскай песні "Крэсавянка" з Івянца. Саюз палякаў на Беларусі дапамагае беларускім грамадзянам польскага паходжання звярнуцца да родных вытокаў і адчуць гонар за тое, што яны з'яўляюцца часткай народа беззаганных ваяроў і адданых вернікаў, працавітых сялян і выназходлівых рамеснікаў — польскага народа.

— А яшчэ палякі — вельмі вясёлы народ, — заўважыў Станіслаў Сямашка. І прапанаваў прысутным упэўніцца ў гэтым.

Сапраўды, гэтым днём на вуліцах Івянца было шумна, весела, спеўна і смачна. Сярод святочна апранутых людзей, якія сем'ямі выйшлі святкаваць, хадзілі пекныя паненкі і паважныя паны ў польскіх нацыянальных строях, шумеў кірмаш, нягледзячы на ветранае надвор'е, пад гукі паланэза на сцэне танчылі пары, госці і гаспадары свята спявалі народныя і сучасныя польскія песні, а з выстаўленых проста на вуліцы сталоў клікалі да сябе стравы польскай кухні — іх спецыяльна падрыхтавалі дзеля ўсеагульнай дэгустацыі.

Госці свята, сярод якіх дарэчы, былі сябры з польскага горада-пабраціма Івянца, Сцердыня, а таксама — дэлегацыі Аб'яднання Дапамогі "Рубеж" (Беласток), Грамадскага аб'яднання "нясвіжане" (Варнава), з цікавасцю знаёміліся з выстаўкай польскай літаратуры, падрыхтаванай Домам Польскім і выстаўкай работ мастака Э. Мацюшонка. З кожнай яго карціны на нас, сучасных, глядзела мінулае. Яно ненавязліва ажывала, набывала пэўныя рысы сярод такіх знаёмых нам будынкаў і ландшафтаў: мяшчане пачатку ХХ стагоддзя на брукаваных вуліцах, перад цэрквамі і касцёламі, што захаваліся і цяпер, мілыя сэрцу куточкі прыроды, "абжытыя" дзецьмі з мінулага…

А пасля для тых, хто прыехаў у Івянец, выступаў Дзяржаўны ансамбль "Песняры", распачаліся спартыўныя мерапрыемствы — спартландыя для школьнікаў і спаборніцтвы валейбольных каманд раёна.

І гледзячы на гэтую яркасць фарбаў, купаючыся ў моры гукаў, адпачываючы сэрцам ад святла ўсмешак, думалася: людзі па існасці сваёй — добрыя і адкрытыя. І калі наўмысна не падмацоўваць у сэрцах нашых недавер, варожасць назаўжды знікае як з'ява на нашай планеце. Гэтаксама, як знікла яна падчас гістарычнага развіцця нашай дзяржавы. Дзяржавы, у якой аднолькава шануюць кожнага грамадзяніна і паважаюць традыцыі ўсіх народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на нашай зямлі.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымках: карціну вядомага вілейскага мастака Э. Мацюшонка атрымаў ад удзячных палякаў Мінскай вобласці Б. Батура — за разуменне і падтрымку; традыцыйныя рамёствы, польскія і беларускія песні, нацыянальныя касцюмы — атрыбуты фестывалю.

Фота Анатоля Басава

## У наступным нумары

Пыл архіваў не дае спакою даследчыкам. Бо ў ім дагэтуль захоўваюцца скарбы, а скарбашукальнікаў заўсёды было шмат. І не важна, што золата ў архіве не знайсці, там ёсць нешта выразна каштоўнейшае — новае веданне, новыя факты, якія могуць праясніць прыцемненае, замутнёнае шкло былых часоў. "Лісты з архіва" — даўняя рубрыка тыднёвіка — прапануе артыкул Н. Пахомчык, прысвечаны семінарскаму навучанню Міхася Зарэцкага і Андрэя Мрыя.

З глыбінкі

# Музей у доме паэта

Яшчэ адна падстава ганарыцца сваім горадам з'явілася ў лідчан. Тут адкрыты літаратурны філіял мясцовага гісторыка-мастацкага музея. Філіял размясціўся непадалёк ад старажытных муроў Лідскага замка, у доміку, дзе перад Вялікай Айчыннай вайной жыў вядомы паэт-змагар Валянцін Таўлай.

Мясцовыя ўлады знайшлі сродкі для стварэння музея ў доме знанага пісьменніка. З густам абсталяваны мемарыяльны пакой Валянціна Таўлая, літаратурная гасцёўня. У чытальнай зале сёння ўвагу наведвальнікаў прыцягваюць кніжныя выставы да юбілеяў Францішка Багушэвіча, Уладзіміра Караткевіча, Ларысы Геніюш.

Энергетыка духоўнасці ахінае гасцей Доміка Таўлая, як толькі іх нага ступае сюды. Адразу ў холе іх сустракаюць фотаздымкі вядомых майстроў прыгожага пісьменства, чый лёс звязаны з Лідчынай. Гэта бессмяротны Янка Купала, які ў 1940 годзе быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР ад Лідскай Слабадской выбарчай акругі, легендарная Алаіза Пашкевіч (Цётка), таямнічая Адэля з Устроні, Ніна Тарас і Кастусь Тарасаў. Знайшлося месца ў партрэтнай галерэі і прадстаўнікам польскай літаратуры Ежы Путраменту і Земавіту Фядэцкаму, якія ў свой час жылі на лідскай зямлі.

На ўрачыстасці адкрыцця філіяла гісторыка-мастацкага музея прысутнічалі паэты Міхась Мельнік, Станіслаў Суднік, Пётр Макарэвіч, Уладзімір Васько, Алесь Старадуб. Яны віншавалі лідчан, адзначаючы: аднаўленне Доміка Таўлая — падзея, якая сведчыць пра тое, што грамадства ўзнялося на новы духоўны ўзровень. Узровень, калі знявага продкаў і грэбаванне спадчынай становяцца з'явай недапушчальнай.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканская унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2974
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 7.10.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4827
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6646